● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

30 ліпеня 1996 г.
аўторак, №№ 189—190
(22992—22993)



# ЗВЯЗДА



*29 ліпеня Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка правёў селектарную нараду па пытаннях уборкі ўраджаю.* **На здымку:** у час селектарнай нарады.
**Фота Яўгена Казюлі, БЕЛТА.**

## АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА: «МЫ НЕ СХІЛІМ ГАЛОВЫ ПЕРАД ВЫПРАБАВАННЯМІ І ЦЯЖКАСЦЯМІ, ПАКОЛЬКІ МЫ — БЕЛАРУСЫ»

«Сёння мы будуем незалежную беларускую дзяржаву, зберагаем найкаштоўнейшую сувязь часоў, свята паважаючы нашу родную нацыянальную культуру. У той жа час мы шануем пачуццё брацкай дружбы з суседнімі народамі, якое глыбока ўкаранілася ў душах і сэрцах беларусаў. Стварэнне Супольніцтва Беларусі і Расіі выспела ў нетрах народаў як настойлівае патрабаванне часу, як праяўленне народнага пратэсту супраць штучнага разбурэння вялікай краіны. Праз наша Супольніцтва мы будзем мацаваць суверэнітэт і незалежнасць беларускай дзяржавы, не страчваючы ні адзінага каменя ў нашай дзяржаўнай самастойнасці і свабодзе», — заявіў Аляксандр Лукашэнка, выступаючы 26 ліпеня на ўрачыстым пасяджэнні, прысвечаным шостай гадавіне з дня прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце.

Удзел ва ўрачыстасцях прынялі Старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі, прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір, кіраўнікі міністэрстваў і ведамстваў, прадпрыемстваў і арганізацый сталіцы, замежныя дыпламаты, прадстаўнікі грамадскасці.

Звяртаючыся да прысутных у зале і да ўсіх суайчыннікаў, Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў, што нялёгкім і няпростым быў шлях Беларусі да сваёй дзяржаўнай незалежнасці, што праз стагоддзі ішоў беларускі народ да гэтай светлай мэты, змагаючыся за свабоду і незалежнасць са зброяй у руках. Магутныя сілы беларускага народа невычарпальныя, адзначыў Прэзідэнт. Беларусь заўсёды працавала, стварала новыя песні, набывала мільёны сяброў на вялікіх прасторах зямлі.

Незалежнасць і суверэнітэт дзяржавы, сказаў далей Прэзідэнт, — агульны набытак усіх беларусаў, усяго насельніцтва рэспублікі: рускіх і ўкраінцаў, палякаў і яўрэяў, літоўцаў і татар, усіх пакаленняў, людзей розных поглядаў і веравызнанняў. Таму спробы некаторых палітычных сіл прысвоіць сабе права быць больш незалежнымі, чым сам народ, — справа дарэмная і шкодная, лічыць Прэзідэнт. Паводле яго слоў, такія дзеянні вядуць да разладу і варожасці ў грамадстве.

«Час, які мы перажываем, нялёгкі. Таму і свята наша пакуль што сціплае. Але наш народ крок за крокам адыходзіць ад самых цяжкіх дзён, набліжаючыся да эканамічнай стабілізацыі, паступовага ўздыму грамадска-палітычнага, сацыяльнага і культурнага жыцця. І гэты час настане», — сказаў кіраўнік вышэйшай выканаўчай улады. Пры гэтым ён адзначыў, што ў незалежнай Беларусі добрыя і шчырыя суседзі, якім беларусы таксама жадаюць дабра.

Завяршаючы сваё выступленне, Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў: «Мы настойліва і самаадданa будзем будаваць наш агульны Беларускі Дом, шчаслівае жыццё для ўсіх жыхароў нашай незалежнай краіны. Мы не схілім галовы перад выпрабаваннямі і цяжкасцямі, паколькі мы — беларусы. Мы цвёрда верым, што сваёй працай наблізім час, калі не толькі сонца загляне і ў наша аконца, але шчасце і дабрабыт прыйдуць у кожны дом і кожную сям'ю, трывала асталююцца на ўсёй беларускай зямлі».

У гонар Дня Незалежнасці ў зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі адбыўся святочны канцэрт, у якім прынялі ўдзел лепшыя творчыя калектывы краіны.

**Ларыса ЛАЗАР, БЕЛТА.**

*XXVI ЛЕТНІЯ АЛІМПІЙСКІЯ ГУЛЬНІ*

Atlanta 1996

## ТАБЛІЦА РАЗМЕРКАВАННЯ 144 КАМПЛЕКТАЎ УЗНАГАРОД ПАСЛЯ ДЗЕВЯЦІ ДЗЁН СПАБОРНІЦТВАЎ

| № п/п | Назва краіны | Медалі: Золата | Серабро | Бронза | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|
| 1. | ЗША | 20 | 25 | 10 | 55 |
| 2. | Расія | 15 | 11 | 9 | 35 |
| 3. | Францыя | 12 | 6 | 12 | 30 |
| 4. | Італія | 10 | 5 | 8 | 23 |
| 5. | Кітай | 9 | 11 | 6 | 26 |
| 6. | Германія | 8 | 11 | 18 | 37 |
| 7. | Аўстралія | 7 | 7 | 14 | 28 |
| 8. | Польшча | 5 | 5 | 4 | 14 |
| 9. | Румынія | 4 | 4 | 5 | 13 |
| 10. | Венгрыя | 4 | 3 | 6 | 13 |
| 11. | Куба | 3 | 4 | 7 | 14 |
| 12. | Паўдн. Карэя | 3 | 4 | 3 | 10 |
| 13. | Японія | 3 | 4 | 3 | 10 |
| 14. | Грэцыя | 3 | 3 | - | 6 |
| 15. | Новая Зеландыя | 3 | 1 | 1 | 5 |
| 16. | Турцыя | 3 | - | 1 | 4 |
| 17. | Ірландыя | 3 | - | 1 | 4 |
| 18. | Швейцарыя | 3 | - | - | 3 |
| 19. | Канада | 2 | 6 | 6 | 14 |
| 20. | Украіна | 2 | 1 | 5 | 8 |
| 21. | Бельгія | 2 | 1 | 2 | 5 |
| 22. | ПАР | 2 | - | 1 | 3 |
| 23. | Беларусь | 1 | 4 | 3 | 8 |
| 24. | Галандыя | 1 | 3 | 7 | 11 |
| 25. | Казахстан | 1 | 3 | 1 | 4 |
| 26. | Вялікабрыт. | 1 | 2 | 4 | 7 |
| 27. | Бразілія | 1 | 2 | 3 | 6 |
| 28. | Чэхія | 1 | 2 | 1 | 4 |
| 29. | Фінляндыя | 1 | 2 | 0 | 3 |
| 30. | КНДР | 1 | 1 | 1 | 3 |
| 31. | Югаславія | 1 | 0 | 1 | 2 |
| 32. | Славакія | 1 | _ | 1 | 2 |
| 33. | Коста-Рыка | 1 | - | - | 1 |
| 34. | Арменія | 1 | - | - | 1 |
| 35. | Эквадор | 1 | - | - | 1 |
| 36. | Іспанія | 1 | 1 | 2 | 4 |
| 37. | Ганконг | 1 | - | - | 1 |
| 38. | Эфіопія | 1 | - | - | 1 |
| 39. | Сірыя | 1 | - | - | 1 |
| 40. | Данія | 1 | - | - | 1 |
| 41. | Балгарыя | - | 3 | 4 | 7 |
| 42. | Аўстрыя | - | 1 | 1 | 2 |
| 43. | Узбекістан | - | 1 | - | 1 |
| 44. | Швецыя | - | 1 | - | 1 |
| 45. | Славенія | - | 1 | - | 1 |
| 46. | Ямайка | - | 1 | - | 1 |
| 47. | Харватыя | - | 1 | - | 1 |
| 48. | Намібія | - | 1 | - | 1 |
| 49. | Кенія | - | 1 | - | - |
| 50. | Нарвегія | - | 1 | - | 1 |
| 51. | Малдавія | - | - | 1 | 1 |
| 52. | Грузія | - | - | 1 | 1 |
| 53. | Мексіка | - | - | 1 | 1 |
| 54. | Трынідад і Табага | - | - | 1 | 1 |
| 55. | Манголія | - | - | 1 | 1 |

## ДА КАНЦА СЕЗОНА АДПУСКОЎ ЧЫГУНАЧНЫЯ БІЛЕТЫ НЕ ПАДАРАЖАЮЦЬ

Нягледзячы на эканамічную нестабільнасць у краіне, беларусы па-ранейшаму лічаць за лепшае праводзіць свой летні водпуск каля цёплага мора. Білеты на паязды паўднёвых напрамкаў набыць гэтак жа складана, як і ў мінулыя гады. У сувязі з гэтым Беларуская чыгунка з 1 жніўня ўводзіць дадатковыя паязды: па маршруту Мінск—Сімферопаль саставы будуць цяпер хадзіць штодзённа, Мінск—Адэса — праз дзень. Брэст і Сімферопаль звяжа бесперасадачны вагон. Што датычыць цэн на білеты, то, прынамсі, да канца сезона адпускоў яны не зменяцца.

**Уладзіслаў ПЛАТУН, БЕЛТА.**

## ПРЭЗІДЭНТ БЕЛАРУСІ: «Я ВЕРУ Ў СВОЙ НАРОД... ЁСЦЬ ШАНЦ ПЕРАЛАМІЦЬ У ЛЕПШЫ БОК СІТУАЦЫЮ Ў АГРАПРАМЫСЛОВЫМ КОМПЛЕКСЕ...»

Селектарная нарада, праведзеная ўчора Прэзідэнтам краіны Аляксандрам Лукашэнкам, была прысвечана выключна пытанням жніва, пытанням барацьбы за сёлетні ўраджай збожжавых. Складанасць сітуацыі, як падкрэсліў кіраўнік дзяржавы, выклікана і тым, што ў суседніх краінах, ва ўсёй Еўропе чакаецца невялікі ўраджай збожжа. І ўжо наўрад ці Беларусь здолее па нізкіх ці хаця б сярэдніх цэнах набываць прадуктовае збожжа. Таму як ніколі неабходна прыкласці ўсе намаганні для эфектыўнага збору ўраджаю. Прэзідэнт краіны, выйшаўшы на адкрыты дыялог не толькі з кіраўнікамі і спецыялістамі (нарада трансліравалася па радыё і тэлебачанні), але і з кожным літаральна вясковым працаўніком, кожным механізатарам, выразна заявіў: «Я веру ў свой народ... Ёсць шанц пераламаць у лепшы бок сітуацыю ў аграпрамысловым комплексе...» Звязваючы з ураджаем надзеі на паляпшэнне стану сельскай гаспадаркі (а за яе кошт — магчыма, на пэўную падтрымку эканомікі ўвогуле), Прэзідэнт свой дыялог з кіраўнікамі самых розных рангаў пабудаваў досыць патрабавальна.

Перш-наперш было пастаўлена пытанне аб тым, што ж зроблена ў пярэдадзень жніва, што робіцца сёння, якія першыя здабыткі? Аб гэтым дакладвалі і віцэ-прэм'ер У. Гаркун, і міністр сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання В. Ляонаў, і кіраўнікі аблвыканкомаў, некаторыя прадстаўнікі раённай «вертыкалі».

Думаецца, што такая канкрэтнасць у дзяржаўным, прэзідэнцкім запыце дарэчы, бо мае пад сабою і маральнае, і палітычнае права. Па сённяшнім часе, улічваючы складаныя эканамічныя ўмовы, дзяржава, улада зрабілі ўсё магчымае, для самай сур'ёзнай падтрымкі сельскай гаспадаркі. Некаторыя ультрарыначныя дзеячы, як адзначыў Прэзідэнт, папракаюць кіраўніцтва за гэтую празмерную падтрымку калектыўных гаспадарак.

(Заканчэнне на 3-й стар.)

## АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА АДКРЫЎ ДЛЯ БЕЛАРУСІ ВАРОТЫ НА БЛІЗКІ І СЯРЭДНІ ЎСХОД

Асноўным вынікам сустрэч Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі і афіцыйнай дэлегацыі нашай рэспублікі, што праходзілі ў Анкары і Стамбуле, стала падпісанне пакета беларуска-турэцкіх дакументаў. Як выказаліся пазней бакі, менавіта з канчатковым афармленнем прававой базы ўзаемаадносінаў Беларусі і Турцыі ў дзелавых колаў абедзвюх краін поўнасцю будуць «развязаны рукі». Паводле запэўніванняў старшыні Вялікага нацыянальнага сходу Турцыі Мустафы Калемлі, выказаных ім у час сустрэчы з Аляксандрам Лукашэнкам, з боку заканадаўцаў не будзе ніякіх затрымак з ратыфікацыяй падпісаных у Анкары дагаворанасцей. Паколькі менавіта ад парламентарыяў абедзвюх краін будзе залежаць, як хутка пачнуць дзейнічаць падпісаныя дакументы. Доктар Калемлі выказаўся таксама аб неабходнасці правядзення ў бліжэйшы час сустрэчы на ўзроўні парламентаў Беларусі і Турцыі.

З прыбыццём беларускай дэлегацыі ў Стамбул, які з'яўляецца дзелавой сталіцай Турцыі, візіт набыў ужо не такі афіцыйны характар. А галоўнай падзеяй у старажытным горадзе стала сустрэча Аляксандра Лукашэнкі з турэцкімі бізнесменамі. «Мой прыезд у Турцыю павінен паслужыць сігналам таго, каб ваш бізнес смела ішоў у Беларусь», — заявіў на сустрэчы Прэзідэнт. І турэцкім бізнесменам ёсць над чым падумаць: беларускі бок прапанаваў 100 інвестыцыйных праектаў на агульную суму 70 мільярдаў долараў ЗША. Адзін з іх — магчымасць стварэння беларуска-турэцкага сумеснага прадпрыемства на базе аднаго з аўтамабільных гігантаў Беларусі — разглядаўся ў ходзе гутаркі Аляксандра Лукашэнкі з кіраўніцтвам завода па вытворчасці аўтобусаў «Мерседэс-Бэнц».

Падводзячы вынікі афіцыйнага візіту ў Турцыю, Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка сказаў карэспандэнту БЕЛТА:

— Турцыя традыцыйна мела вельмі добрыя адносіны з Савецкім Саюзам, з яго рэспублікамі, якія сталі цяпер незалежнымі дзяржавамі. Страціць іх было б недаравальна. Гэта галоўная прычына, якая падахвоціла мяне здзейсніць даўно ўжо намечаны візіт.

Я яго разглядаю ў кантэксце з візітам у Францыю. І не толькі таму, што прэзідэнты Сулейман Дэмірэль і Жак Шырак вельмі падобныя як палітыкі. Звязваю я гэтыя візіты і па эфекту дзелавых кантактаў. Увогуле па выніках апошніх візітаў я ўсвядоміў, што для прэзідэнта важна праводзіць непасрэдныя сустрэчы з прадстаўнікамі буйнога бізнесу і эканамічных колаў дзяржаў. На Захадзе такі менталітэт — яны хочуць мець гарантыі ад вышэйшай службовай асобы дзяржавы. А калі прэзідэнт абяцае, значыць бізнесмены вераць і, як вынік, адбываюцца канкрэтныя змяненні ва ўзаемаадносінах. Але калі ў Францыі мы мелі шэраг запэўніванняў аб намеры развіваць з Беларуссю супрацоўніцтва, то ў Турцыі былі дасягнуты канкрэтныя вынікі.

Аб поспеху візіту ў Турцыю сведчыць і наступны факт. Перад нашым адлётам са Стамбула мне пазваніў С. Дэмірэль і выказаў глыбокае задавальненне нашай сустрэчай. Ён таксама падкрэсліў, што нам неабходна часцей сустракацца, і ён гатовы прыляцець у хуткім часе ў Мінск, каб абмеркаваць шэраг пытанняў, намечаных намі ў час цяперашняй сустрэчы.

Вядома, у нас шмат скептыкаў, якія лічаць, што Турцыя — гэта далёка не ЗША. Я хачу сказаць, што яны глыбока памыляюцца. У час нашай сустрэчы з консулам Расіі ў Турэцкай Рэспубліцы ён выказаў такую думку — уся «палітычная і эканамічная кухня варыцца ў Стамбуле». Дык чаму мы да гэтага часу не прысутнічалі ў гэтым рэгіёне? Таму мной прынята рашэнне аб адкрыцці ў Турцыі пасольства і гандлёвага прадстаўніцтва Беларусі.

(Заканчэнне на 3-й стар.)

## БАРЫС ЕЛЬЦЫН І ЛЕАНІД КУЧМА ПАВІНШАВАЛІ ПРЭЗІДЭНТА І НАРОД БЕЛАРУСІ З НАЦЫЯНАЛЬНЫМ СВЯТАМ

З нагоды нацыянальнага свята — Дня Незалежнасці Рэспублікі Беларусь — на імя Прэзідэнта краіны Аляксандра Лукашэнкі працягваюць паступаць віншавальныя тэлеграмы.

Прэзідэнт Расійскай Федэрацыі Барыс Ельцын у сваёй тэлеграме падзякаваў кіраўніку беларускай дзяржавы за віншаванне ў сувязі з выбраннем яго прэзідэнтам Расіі на другі тэрмін.

«Падзяляю вашу перакананасць, што ў бліжэйшай будучыні трэба будзе прыкласці сур'ёзныя намаганні ў мэтах надання новага імпульсу інтэграцыйным працэсам у рамках СНД, вывядзення на больш высокі ўзровень развіцця Супольніцтва дзвюх нашых брацкіх краін. Узяты добры старт і праведзена вялікая работа. Справа цяпер за пошукам аптымальнай формы сінхранізацыі працэсу рэформаў», — гаворыцца ў пасланні.

Барыс Ельцын яшчэ раз падзякаваў за сардэчны прыём, аказаны беларускім народам у час нядаўняй сустрэчы ў Брэсце. «Сустрэчы з ветэранамі, з жыхарамі гэтага гераічнага горада ўмацавалі маю ўпэўненасць, што згуртаваная воля расіян і беларусаў, якая добраахвотна аб'яднала намаганні ў імя ўласнага шчасця, дапаможа ўжо ў хуткім часе сфарміраваць у нашых краінах рыначную эканоміку, звернутую да чалавека», — адзначыў ён.

Прэзідэнт Расіі пажадаў Аляксандру Лукашэнку моцнага здароўя і вялікіх поспехаў.

***

Поспехаў кіраўніку краіны Аляксандру Лукашэнку ў яго дзяржаўнай дзейнасці, а брацкаму беларускаму народу — міру, шчасця і дабра пажадаў прэзідэнт Украіны Леанід Кучма.

У тэлеграме на імя Прэзідэнта Беларусі ён падзякаваў Аляксандру Лукашэнку за віншаванне ў сувязі з прыняццем новай Канстытуцыі Украіны. «Упэўнены, — гаворыцца ў пасланні, — што прыняты акт стане гістарычнай вяхой у пабудове на Украіне прававой дзяржавы, залогам стабільнасці, нацыянальнай згоды і сацыяльнага прагрэсу».

**БЕЛТА.**

## АЛЯКСАНДРА ЛУКАШЭНКУ ПАВІНШАВАЎ УІЛЬЯМ КЛІНТАН

У адрас Прэзідэнта краіны Аляксандра Лукашэнкі працягваюць паступаць віншаванні з нагоды шостай гадавіны незалежнасці Беларусі. Прывітальная тэлеграма паступіла і ад прэзідэнта Злучаных Штатаў Амерыкі. У ёй гаворыцца:

«Паважаны пан Прэзідэнт, хацеў бы перадаць свае віншаванні Вам і народу Беларусі з нагоды гадавіны прыняцця Дэкларацыі незалежнасці Беларусі 27 ліпеня. Мы падтрымліваем развіццё Беларусі як незалежнай, дэмакратычнай і працвітаючай дзяржавы.

Мы ведаем, што такія пераўтварэнні не адбываюцца лёгка і хутка. Амерыканскі народ верыць, што цвёрдая прыхільнасць да эканамічных рэформаў, палітычнага плюралізму і правоў чалавека зможа найлепшым чынам забяспечыць эканамічную бяспеку беларускага народа і дасць магчымасць Беларусі адыгрываць важную ролю ў супольніцтве дэмакратычных нацый. Мы спадзяёмся на далейшае ўмацаванне добрых адносінаў, што склаліся паміж нашымі краінамі і народамі.

**З павагай, Уільям Дж. КЛІНТАН.**
*Белы дом,*
*Вашынгтон, акруга Калумбія».*

**БЕЛТА.**

*ПАСЛЯ ПАДЗЕІ*

## СВЯТА НЕЗАЛЕЖНАСЦІ — ПАДСТАВА ДЛЯ КАНСАЛІДАЦЫІ

**Неспакойная і напружаная вясна 1996 года, якая запомніцца жыхарам беларускай сталіцы нябачанай да гэтага часу хваляй акцый пратэсту, несумненна, наклала свой адбітак на далейшы ход палітычных падзей у краіне. З таго часу амаль усе масавыя выступленні, па чыёй бы ініцыятыве яны ні праводзіліся, выклікалі ў гарадскіх уладаў неспакой, а сталічныя органы правапарадку прыводзіліся ў стан павышанай гатоўнасці.**

*(Заканчэнне на 11-й стар.)*

# АФІЦЫЙНА

## БЕЛАРУСЬ—ТУРЦЫЯ: АДНОСІНЫ СЯБРОЎ І РАЎНАПРАЎНЫХ ПАРТНЁРАЎ



**НА ЗДЫМКУ: у час сустрэчы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра ЛУКАШЭНКІ з Прэзідэнтам Турэцкай Рэспублікі Сулейманам ДЭМІРЭЛЕМ.**

**Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА, БЕЛТА.**

Як паведамлялася ўжо ў сродках масавай інфармацыі, у ходзе афіцыйнага візіту Прэзідэнта Беларусі ў Турцыю кіраўнікамі дзяржаў падпісаны Дагавор аб дружбе і супрацоўніцтве дзвюх краін.

Каменціруючы гэту падзею, Аляксандр Лукашэнка, у прыватнасці, адзначыў, што для нашай рэспублікі гэты дакумент мае вялікае значэнне і універсальны характар. «Ён устанаўлівае рамкі развіцця нашых двухбаковых адносінаў, і я ўпэўнены, што гэта будуць адносіны сяброў і раўнапраўных партнёраў, эфектыўнае і ўзаемавыгаднае супрацоўніцтва па самых розных напрамках. Цяпер наша агульная задача — рэалізаваць палажэнні дагавора ў канкрэтныя праграмы і практычныя справы», — сказаў Прэзідэнт. Кіраўнік беларускай дзяржавы выказаў таксама агульную думку, што праведзеныя перагаворы можна смела лічыць паспяховымі і плённымі. Паводле яго слоў, бакі выказалі гатоўнасць да далейшага расшырэння і ўмацавання ўзаемадзеяння па ўсіх напрамках двухбаковага супрацоўніцтва.

У ходзе перагавораў былі абмеркаваны праблемы развіцця СНД, балканская праблематыка, пытанне расшырэння НАТО і ініцыятыва беларускага Прэзідэнта па стварэнню бяз'ядзернай зоны ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе. Абмяркоўваліся таксама пытанні, якія датычаць двухбаковага супрацоўніцтва як на рэгіянальным, так і на міжнародным узроўні. Ішла размова і аб узаемнай падтрымцы шэрага важных ініцыятыў у рамках ААН і АБСЕ. Паводле ацэнкі беларускага Прэзідэнта, бакі дасягнулі ўзаемаразумення практычна па ўсіх праблемах, якія абмяркоўваліся.

«Мы разглядаем наш візіт у Турцыю ў кантэксце ўзятага намі курсу на збалансаванае развіццё розных вектараў знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь, — адзначыў А. Лукашэнка. — Мы паслядоўна выступаем за развіццё інтэграцыйных працэсаў у рамках СНД. У гэтым напрамку асабліва рушылі наперад нашы адносіны з Расіяй — традыцыйна бліжэйшым палітычным і эканамічным партнёрам».

У той жа час, падкрэсліў беларускі Прэзідэнт, сфарміраваны нядрэнныя перадумовы для актыўнага і пленнага супрацоўніцтва Беларусі з многімі краінамі Еўропы і Азіі. Падпісана часовае Пагадненне аб гандлі з Еўрапейскім Саюзам.

Паколькі Турцыя з'яўляецца своеасаблівым мастом паміж Азіяй і Еўропай, то кіраўнік нашай дзяржавы лічыць неабходным выкарыстаць выгады і перавагі геапалітычнага становішча Беларусі і Турцыі ў двухбаковых адносінах.

«Нягледзячы на тое, што Беларусь і Турцыя не маюць агульнай граніцы, гэта дзяржава — наш добры сусед, — заявіў А. Лукашэнка. — Многія жыхары вашай краіны былі ў Беларусі і змаглі пераканацца ў гэтым. Я запрасіў пана Дэміраля наведаць Беларусь з афіцыйным візітам у зручны для яго час, каб ён змог лепш даведацца пра нашу краіну і наш народ».

Аб сур'ёзнасці намераў Анкары развіваць пленнае супрацоўніцтва з Беларуссю, паводле слоў прэзідэнта Турэцкай Рэспублікі, можна меркаваць па тым, што яго краіна першая прызнала незалежнасць Беларусі і адкрыла ў ёй пасольства. Ацэньваючы эканамічнае супрацоўніцтва паміж нашымі дзяржавамі, Сулейман Дэмірэль падкрэсліў, што ў абедзвюх дзяржаў ёсць вялікія патэнцыяльныя магчымасці. Са свайго боку ён запэўніў беларускага Прэзідэнта ў намеры Турцыі прыкласці максімум намаганняў для расшырэння гэтага супрацоўніцтва. Тым больш, што прававая база для гэтага падрыхтавана. Кіраўнік турэцкай дзяржавы заклікаў таксама бізнесменаў сваёй краіны больш актыўна ўключацца ў гандлёвы дыялог з Беларуссю і смялей укладваць капітал у беларускую эканоміку. Гэта ініцыятыва знайшла поўнае разуменне і падтрымку з боку беларускага Прэзідэнта.

У час перагавораў з прэм'ер-міністрам Турцыі размова ішла ўжо аб канкрэтных праектах. У прыватнасці, аб 20-мільённым крэдыце Эксімбанка, які будзе накіраваны на будаўніцтва, нафтахімію, перапрацоўку сельскагаспадарчай прадукцыі. У той жа час, Эксімбанк не мае намеру абмяжоўвацца толькі гэтым крэдытам. Пры выкананні ўсіх дасягнутых дагаворанасцей па яго рэалізацыі ў студзені будучага года будуць весціся перагаворы аб павелічэнні капіталаўкладанняў.

Важнай для развіцця беларускага экспарту ў Турцыю стала дагаворанасць аб зняцці 19 працэнтаў антыдэмпінгу на нашы хімічныя валокны. Турэцкі бок прапанаваў ажыццяўляць на сваёй тэрыторыі зборку беларускіх матацыклаў і трактароў. Прычым, калі на першым этапе плануецца выпускаць 1000 трактароў у год, то потым выпуск іх можа быць быць павялічаны да 5000.

Вялікую цікавасць выклікала сустрэча Аляксандра Лукашэнкі з дзелавымі коламі Турцыі. Арганізатарам мерапрыемства прыйшлося нават абмежаваць колькасць удзельнікаў: вельмі шмат было пададзена заявак. «Я думаю, што гэта сустрэча, гэта размова ўмацуе, перш за ўсё, эканамічны бок беларуска-турэцкага супрацоўніцтва», — падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка. Паводле яго слоў, вялікае значэнне будзе мець і дагаворанасць аб адкрыцці ў бягучым годзе ў Турцыі беларускага пасольства.

У пачатку кастрычніка ў Мінску адбудзецца змешанае пасяджэнне беларуска-турэцкай камісіі. Беларускі бок мае намер азнаёміць турэцкіх бізнесменаў з іх патэнцыяльнымі партнёрамі.

**Ігар РУБАН, БЕЛТА.**

## КІРАЎНІКІ ДЗЯРЖАЎ ПАЖАДАЛІ АЛЯКСАНДРУ ЛУКАШЭНКУ І БЕЛАРУСКАМУ НАРОДУ ШЧАСЦЯ, ДАБРАБЫТУ, ПРАЦВІТАННЯ

**Сотні пісьмаў і тэлеграм з нагоды нацыянальнага свята — Дня Незалежнасці Рэспублікі Беларусь прыходзяць у гэтыя дні на імя Прэзідэнта краіны Аляксандра Лукашэнкі.**

Асабістага дабрабыту кіраўніку дзяржавы, а таксама шчаслівай будучыні ўсяму беларускаму народу пажадаў Федэральны прэзідэнт Аўстрыйскай Рэспублікі Томас Клестыль.

❑

«У сувязі са святкаваннем Дня Незалежнасці Беларусі я вельмі рада накіраваць Вашаму Правасхадзіцельству і народу Рэспублікі Беларусь мае самыя цёплыя віншаванні з найлепшымі пажаданнямі шчасця і дабрабыту», — гаворыцца ў пасланні Каралевы Вялікабрытаніі Лізаветы II, якое было перададзена Аляксандру Лукашэнку МЗС рэспублікі.

❑

Сардэчныя віншаванні ад сябе і ад нямецкага народа выказаў кіраўніку дзяржавы федэральны прэзідэнт Федэратыўнай Рэспублікі Германіі Раман Херцаг. У тэлеграме, у прыватнасці, гаворыцца: «Паспяховым правядзеннем парламенцкіх выбараў і заснаваннем — упершыню пасля набыцця дзяржаўнай незалежнасці — новага парламента створана важная перадумова для далейшага будаўніцтва ліберальнай, дэмакратычнай і прававой дзяржавы Рэспубліка Беларусь. Паспяховы ход гэтага працэсу пераўтварэнняў, што ўключае свабоднае разгортванне рыначна-гаспадарчых сіл, з'яўляецца надзейнай гарантыяй паспяховага развіцця вашай краіны. Ідучы гэтым шляхам, складаныя праблемы якога менавіта нам, немцам, добра знаёмы, Беларусь можа і ў далейшым разлічваць на нашу падтрымку. А мы, у сваю чаргу, спадзяёмся на тое, што Беларусь будзе і надалей паслядоўна развівацца ў напрамку дэмакратычнай прававой дзяржавы».

❑

«Гадавіна нацыянальнага свята прадаставіла мне жаданую магчымасць перадаць ад імя італьянскага народа і сябе асабіста самыя гарачыя пажаданні працвітання народу Беларусі ў знак таго, што адносіны дружбы і супрацоўніцтва, што існуюць паміж нашымі народамі, могуць у будучыні ўмацавацца і распаўсюдзіцца на ўсе галіны», — заявіў у сваім віншаванні прэзідэнт Італьянскай Рэспублікі Аскар Луіджы Скальфара.

Поспеху і працвітання пажадаў кіраўніку дзяржавы і беларускаму народу прэзідэнт Рэспублікі Карэя Кім Ен Сам. Ён выказаў надзею, што «адносіны дружбы і супрацоўніцтва, якія існуюць паміж нашымі дзвюма краінамі, будуць і ў далейшым умацоўвацца і развівацца».

❑

Старшыня Дзяржаўнага савета Рэспублікі Куба Фідэль Кастра Рус разам з гарачымі віншаваннямі пацвердзіў жаданне кубінскага народа і ўрада «яшчэ больш умацоўваць сяброўскія адносіны і супрацоўніцтва паміж нашымі двума народамі і краінамі».

❑

«У шматвяковай гісторыі беларускага народа 27 ліпеня 1990 года адкрылася новая старонка — рэспубліка стала сапраўды свабоднай і незалежнай», — гаворыцца ў прывітанні мэра Масквы Юрыя Лужкова. Кіраўнік маскоўскага ўрада падкрэсліў, што Беларусь адыгрывае вядучую ролю ў станаўленні Садружнасці Незалежных Дзяржаў, у развіцці ўзаемаразумення і сяброўскіх узаемаадносінаў паміж народамі. «Нашы славянскія народы звязваюць традыцыйныя сяброўскія адносіны: і ў радасці, і ў бядзе мы разам ішлі адной дарогай. Дагавор аб утварэнні Супольніцтва Расіі і Беларусі адкрывае новыя гарызонты ў развіцці цесных адносінаў паміж нашымі краінамі. Несумненна, дзякуючы яму будуць яшчэ больш умацоўвацца сяброўскія сувязі паміж Беларуссю і Масквой», — адзначае Юрый Лужкоў.

❑

Глыбокае перакананне ў тым, што цеснае супрацоўніцтва будзе садзейнічаць далейшаму развіццю дружалюбных і мірных адносінаў паміж Славакіяй і Беларуссю, выказаў прэзідэнт Славацкай Рэспублікі Міхал Ковач у віншаванні, накіраваным на імя Аляксандра Лукашэнкі.

❑

Прэзідэнт Рэспублікі Узбекістан Іслам Карымаў, звяртаючыся да кіраўніка беларускай дзяржавы, пажадаў яму здароўя і дабрабыту, а беларускаму народу — шчасця, працвітання і поспехаў на шляху эканамічных рэформаў і дэмакратычнага развіцця.

**БЕЛТА.**

## СПАД У ЭКАНОМІЦЫ ПЕРААДОЛЕНЫ. З'ЯВІЛАСЯ НАДЗЕЯ НА ЯЕ СТАБІЛІЗАЦЫЮ

**Вывад аб тым, што спад у эканоміцы краіны пераадолены, зроблены 26 ліпеня на расшыраным пасяджэнні Кабінета Міністраў, прысвечаным вынікам работы народнай гаспадаркі краіны за першае паўгоддзе бягучага года. Падкрэслена, што параметры асноўных макраэканамічных паказчыкаў за мінулы перыяд вытрыманы, практычна, у прагназіруемых рамках.**

Так, валавы ўнутраны прадукт склаў 70,5 трыльёна рублёў. Узровень інфляцыі вызначаны ў 17 працэнтаў да снежня мінулага года пры прагнозным значэнні на першае паўгоддзе 22,5 працэнта.

Аб'ём вытворчасці ў прамысловасці дасягнуў 78 трыльёнаў рублёў, што ў супастаўных цэнах на 1,6 працэнта больш, чым у адпаведны леташні перыяд. Яго рост адзначаны ва ўсіх абласцях, а таксама на прадпрыемствах Мінпрома, хімічнай і нафтахімічнай прамысловасці. Забяспечылі рост выпуску прадукцыі такія буйныя прадпрыемтсвы, як Беларускі металургічны завод, вытворчыя аб'яднанні «Гомсельмаш», «Віцязь», «БелАЗ». Устойлівае становішча захоўваецца і на большасці прадпрыемстваў лясной, дрэваапрацоўчай і цэлюлозна-папяровай прамысловасці.

Прыпынены спад вытворчасці ў лёгкай прамысловасці. Аднак 40 прадпрыемстваў канцэрна «Беллегпром» дапусцілі зніжэнне аб'ёмаў вытворчасці. Сярод іх — баранавіцкія трыкатажная і абутковая фабрыкі, Жлобінскае вытворчагандлёвае аб'яднанне «БелФА», мінскія ААТ «Прамень» і вытворчае гарбарнае аб'яднанне, Лідская абутковая фабрыка і іншыя.

Паступова з зацяжнога крызісу сталі выходзіць прадпрыемствы машынабудавання, хоць стабілізацыя вытворчасці тут не была сінхранізавана з рэалізацыяй прадукцыі. У цэлым па рэспубліцы рэшткі гатовай прадукцыі на складах прадпрыемстваў гэтай галіны павялічыліся на 40 працэнтаў.

Сітуацыю ў эканоміцы пагаршае бягучая запазычанасць спажыўцоў за энерганосьбіты. На 1 ліпеня гэтага года па прыроднаму газу яна склала больш чым 1,3 трыльёна рублёў, за электрычную і цеплавую энергію — 4 трыльёны рублёў, па нафтапрадуктах — 292,5 мільярда рублёў. Нарастанне аб'ёмаў унутраных неплацяжоў прывяло да росту знешняй запазычанасці, якая за прыродны газ дасягнула 610 мільёнаў долараў, а за электраэнергію — 31,9 мільёна.

Што датычыць сельскай гаспадаркі, то хоць адставанне крыху і скарацілася, узровень прагназіруемых паказчыкаў па росту валавой прадукцыі не дасягнуты ні адной з абласцей.

Міністр фінансаў Павел Дзік адзначыў, што цяжкасці ў асобных сектарах матэрыяльнай вытворчасці вызначылі напружаны стан фінансаў усёй народнай гаспадаркі рэспублікі. За пяць месяцаў балансавы прыбытак склаў 8,4 трыльёна рублёў або 92,7 працэнта ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года. Павялічылася і колькасць стратных прадпрыемстваў: з 1571 па стану на студзень бягучага года да 2662 на сённяшні дзень.

Сярод болевых кропак эканомікі працягвае заставацца праблема запазычанасці па заработнай плаце, падкрэслівалі ўдзельнікі пасяджэння. На бягучы момант яна склала каля 980 мільярдаў рублёў.

Дэбіторская ж запазычанасць па рэспубліцы за паўгоддзе склала 64 трыльёны рублёў, а крэдыторская — 78,8 трыльёна. Грашовыя сродкі суб'ектаў гаспадарання пакрываюць апошнюю ўсяго на 9,8 працэнта.

Усё гэта негатыўна адбілася на выкананні бюджэту дзяржавы. Аднак улічваючы пераадоленне пэўных негатыўных тэндэнцый, можна разлічваць, што набраны ў эканоміцы тэмп захаваецца і ў другім паўгоддзі. А значыць, застаецца надзея, што і бюджэт будзе папраўлены.

Падводзячы вынік пасяджэння ўрада, прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір засяродзіў увагу на канкрэтных задачах гаспадарчага комплексу рэспублікі ў другім паўгоддзі. Сярод прыярытэтных напрамкаў ён назваў актыўную рэструктурызацыю вытворчасці, пошук новых тэхналагічных рашэнняў і змяненне адносінаў да якасці працы ва ўсіх сферах эканомікі. Кіраўнік Кабінета Міністраў заявіў таксама, што будзе працягнута работа над праектам Падатковага кодэксу, які важна мець к будучаму году. Аднак да падатковай рэформы, падкрэсліў ён, трэба з усёй адказнасцю рыхтавацца ўжо цяпер.

**Валянціна МЕНШЫКАВА, БЕЛТА.**

## РАСПАРАДЖЭННЕ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 220 рп.

**Аб назначэнні П. А. Капітулы памочнікам Прэзідэнта — начальнікам аналітычнага цэнтра Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь**

Назначыць Капітулу Пятра Андрэевіча памочнікам Прэзідэнта — начальнікам аналітычнага цэнтра Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, вызваліўшы яго ад пасады начальніка аналітычнага цэнтра Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

*24 ліпеня 1996 г., г. Мінск.*

## АФІЦЫЙНА

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь выдаў указ, у якім гаворыцца: «Прыняць прапанову Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь аб падпісанні Дагавора паміж Рэспублікай Беларусь і Літоўскай Рэспублікай аб узаемнай перадачы асоб, асуджаных да пазбаўлення волі, для адбывання тэрміну пакарання і асоб, у адносінах да якіх прыменены прымусовыя меры медыцынскага характару.

Упаўнаважыць міністра юстыцыі Рэспублікі Беларусь Сукалу Валянціна Алегавіча падпісаць указаны дагавор».

**БЕЛТА.**

## НАЗНАЧЭННІ

Указамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь назначаны:

**Мінін** Аляксандр Васільевіч — намеснікам міністра транспарту і камунікацый Рэспублікі Беларусь — старшынёй Камітэта па аўтамабільных дарогах. Ён вызвалены ад пасады намесніка міністра архітэктуры і будаўніцтва Рэспублікі Беларусь.

**Прыгодзіч** Зіновій Кірылавіч — першым намеснікам старшыні Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку.

**Валадзько** Яўген Іванавіч — Начальнікам беларускай чыгункі. Ён вызвалены ад пасады намесніка міністра транспарту і камунікацый Рэспублікі Беларусь — начальніка Беларускай чыгункі.

**БЕЛТА.**

## АБ УСТАНАЎЛЕННІ ДЫПЛАМАТЫЧНЫХ АДНОСІНАЎ

Згодна з указамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі, наша дзяржава ўстанаўлівае дыпламатычныя адносіны з Ісламскай Дзяржавай Афганістан, Рэспублікай Ірак і Рэспублікай Таджыкістан.

Міністэрству замежных спраў Беларусі даручана прыняць адпаведныя меры для афармлення дыпламатычных адносінаў з гэтымі дзяржавамі.

**БЕЛТА.**

## ЮБІЛЕЙ У РОСКВІЦЕ ТВОРЧЫХ СІЛ

Свой 60-гадовы юбілей адзначыў 25 ліпеня заслужаны архітэктар рэспублікі Леанід Левін. Павіншаваць юбіляра ў Рэспубліканскі дом архітэктара, дзе ў гэты дзень адкрылася персанальная выстаўка майстра, прыйшлі яго шматлікія сябры і калегі, міністры і прадстаўнікі замежных дыпламатычных прадстаўніцтваў, дзеячы культуры і мастацтваў.

Віншаванне кіраўніка краіны Аляксандра Лукашэнкі зачытаў кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Міхаіл Мясніковіч. На ўшанаванні юбіляра выступіў Старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі. «Народам і Радзімай, — сказаў ён, — высока ацэнены ваша яркая таленавітая творчасць, ваш велізарны ўклад у развіццё манументальнага мастацтва і горадабудаўніцтва». Кіраўнік парламента адзначыў, што ў створаных архітэктарам помніках героям Вялікай Айчыннай вайны, мемарыяльных комплексах «Хатынь», «Прарыў», «Праклён фашызму» і іншых праўдзіва адлюстраваны драматычны лёс нашага народа.

Выстаўка ў Доме архітэктара дае магчымасць пазнаёміцца з усёй творчасцю Леаніда Левіна. Акрамя работ, названых Сямёнам Шарэцкім, на фотаздымках і ў эскізах прадстаўлены помнікі Янку Купалу і Якубу Коласу ў Мінску, адны з самых прыгожых станцый мінскага метро — «Няміга» і «Плошча Незалежнасці», праекты рэканструкцыі гістарычных частак беларускай сталіцы «Траецкага прадмесця» і «Верхняга горада».

За свае работы Леанід Левін быў узнагароджаны Ленінскай прэміяй і прэміяй Ленінскага камсамола Беларусі. А помнік «Салдацкае поле» ў Валгаградзе прынёс яму званне лаўрэата яшчэ адной камсамольскай прэміі. На выстаўцы прадстаўлены і эскіз адной з апошніх работ Леаніда Левіна — мемарыяльнага комплексу «Маладзечна. Шталаг-342. Канцлагер савецкіх ваеннапалонных і жыхароў Маладзечна», за які майстар удастоены Гран-пры штогадовага конкурсу лепшых архітэктурных твораў.

**Эдуард ПІВАВАР, БЕЛТА.**

## ВІНШАВАННЕ СТАРШЫНІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ СЯМЁНА ШАРЭЦКАГА БЕЛАРУСКАМУ НАРОДУ З НАГОДЫ ДНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

*Дарагія суайчыннікі!*

*Шэсць гадоў таму назад Вярхоўны Савет прыняў Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі, а пазней надаў ёй статус Канстытуцыйнага закона.*

*У тым, што адбылося 27 ліпеня 1990 года, ёсць свая гістарычная справядлівасць. Ідэя незалежнасці — дзяржаўнай, палітычнай, нацыянальнай — мае на Беларусі тысячагадовую гісторыю. Яна замацавана новай Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, з прыняццем якой наша грамадства паднялося на больш высокую ступень дзяржаўнага будаўніцтва.*

*Мы смела і горда заявілі свету, што Рэспубліка Беларусь ідзе да палітычнай і эканамічнай незалежнасці, імкнецца стаць нейтральнай і бяз'ядзернай дзяржавай.*

*Сёння Беларусь — паўнапраўны член міжнароднага супольніцтва, маладая краіна, якая праводзіць сваю паслядоўную міралюбівую палітыку.*

*Наша рэспубліка — адна з заснавальніц Арганізацыі Аб'яднаных Нацый — атрымала афіцыйнае прызнанне каля 150 краін свету. З многімі з іх у нас усталяваны дыпламатычныя адносіны. У Мінску працуюць пасольствы і прадстаўніцтвы многіх замежных дзяржаў.*

*Народ Беларусі імкнецца жыць духам нашых бацькоў, традыцыямі людзей розных нацыянальнасцей, якія насяляюць гэтую зямлю. І ўсе мы жадаем, каб нашы дзеці жылі ў дэмакратычнай і заможнай краіне. Але аднаго жадання мала, трэба яшчэ і эфектыўныя дзеянні кожнага з нас.*

*Мы ўжо дакладна вызначыліся, што будуем рыначную, сацыяльна-арыентаваную эканоміку. Але ж, на жаль, мы не поўнасцю выкарысталі свае магчымасці для развіцця эфектыўнай эканомікі і нацыянальнай культуры. Шосты год незалежнасці маладая краіна сустракае ўсё яшчэ ў цісках цяжкага эканамічнага крызісу. Пры пошуках выйсця з яго мы надаём вялікае значэнне захоўванню і ўмацаванню ўсебаковых сувязей з Расійскай Федэрацыяй. З гэтай нагоды і было створана супольніцтва нашых краін.*

*Разам з тым, мы імкнёмся да інтэграцыі ў еўрапейскія і сусветныя структуры: эканамічныя, палітычныя, культурныя.*

*Каб дасягнуць унутраных і знешніх поспехаў, у грамадстве перш за ўсё павінны быць забяспечаны правы і свабоды грамадзян, умовы для ўсебаковага развіцця асобы, праяўлення здольнасцей, творчых магчымасцей кожнага.*

*Мы знаходзімся на парозе XXI стагоддзя. Таму нельга будаваць сваё жыццё, знаходзячыся ў палоне былых уяўленняў. Надышоў час зразумець, што толькі ад нас саміх, нашага жадання, уласных намаганняў і імкненняў залежыць наш дабрабыт, наша цяперашняе і будучае.*

*У Беларусі ёсць магчымасці забяспечыць устойлівае развіццё сваёй эканомікі, гарантаваць дастойны лад жыцця ўсім сваім грамадзянам. Гэта наша галоўная агульная мэта і святы абавязак усіх структур дзяржаўнай улады. Аб'яднаўшы нашы намаганні, мы абавязкова дасягнём поспеху!*

*Няхай жа на радасць усім нам квітнее наша Бацькаўшчына!*

*Са святам вас, паважаныя суайчыннікі, з Днём Незалежнасці!*

## АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА АДКРЫЎ ДЛЯ БЕЛАРУСІ ВАРОТЫ НА БЛІЗКІ І СЯРЭДНІ ЎСХОД

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Характэрна, што ў час перагавораў з прэм'ер-міністрам Турцыі Неджмецінам Эрбаканам нарадзілася ідэя ажыццяўлення паміж нашымі краінамі аптовага гандлю. Як вядома, цяпер гэтым займаюцца беларускія і турэцкія «чаўнакі». Але гэты працэс трэба паставіць на цывілізаваныя рэйкі. Мы дагаварыліся аб пастаўках у Беларусь вялікімі партыямі танных турэцкіх тавараў народнага спажывання, аб будаўніцтве супермаркетаў, у якіх будзе рэалізоўвацца каля 60 працэнтаў беларускіх тавараў і 40 працэнтаў турэцкіх. У той жа час я прапанаваў пастаўляць у Турцыю нашу прадукцыю на парытэтнай аснове. Нам таксама важна выйсці на надзейную крыніцу паставак бавоўны.

Калі ж гаварыць аб палітычным аспекце пытанняў, закранутых у час візіту, то ён даволі шырокі. Мае перагаворы адзін на адзін з С. Дэмірэлем пачаліся з абмеркавання сітуацыі па забеспячэнню бяспекі грамадзян дзвюх дзяржаў. Абмеркавалі мы і пытанні агульнаеўрапейскай і глабальнай бяспекі. Мне імпануе пазіцыя турэцкага прэзідэнта ў гэтым пытанні. Выказаў ён сваю думку і аб адносінах Беларусі да расшырэння НАТО на Усход. Я не чакаў падтрымкі нашай пазіцыі з боку С. Дэмірэля. Ён заявіў, што «нам вельмі дорага каштавала блокавае процістаянне ў Еўропе, і сёння ні ў якім разе нельга дапусціць, каб расшырэнне НАТО на Усход выклікала ўшчамленне інтарэсаў Расіі, Беларусі і Украіны». Растлумачыў я і сваю ініцыятыву аб стварэнні бяз'ядзернай зоны ў цэнтры Еўропы. Наогул жа, бачачы як у Турцыі адносяцца да бяспекі, пачынаеш яшчэ больш задумвацца, як нам неабходна цаніць мір.

### Думкі аб візіце ў Турцыю членаў афіцыйнай дэлегацыі нашай рэспублікі:

**Міхаіл МАРЫНІЧ, міністр знешніх эканамічных сувязей:**

— Вялікае ўражанне на кіраўніцтва Турцыі зрабіла заява нашага Прэзідэнта аб тым, што Беларусь ёсць і будзе суверэннай дзяржавай. Галоўнае ж, я лічу, у тым, што прэзідэнты выказалі адзін аднаму ўзаемнае давер'е, і на гэтай высокай ноце было ўспрынята падпісанне Дагавора аб дружбе і супрацоўніцтве. Падпісаннем Пагаднення аб прадухіленні двайнога падаткаабкладання была створана неабходная нарматыўная база. У час перагавораў з кіраўніцтвам Эксімбанка і прэм'ер-міністрам Турцыі размова ўжо ішла аб канкрэтных праектах, у прыватнасці, аб 20-мільённым крэдыце (гасцінічнае будаўніцтва), аб нафтахіміі і сельскагаспадарчай прадукцыі. Мяркуецца цеснае супрацоўніцтва пры будаўніцтве цэлюлозна-папяровага камбіната ў Наваполацку.

Важнай для развіцця беларускага экспарту ў Турцыю стала дагаворанасць Аляксандра Лукашэнкі аб зняцці 19-працэнтнага антыдэмпінгу на нашы хімічныя валокны, а таксама аб зніжэнні ставак на беларускія веласіпеды, матацыклы і іншую складанатэхнічную прадукцыю, на якую сёння ПДВ дасягае 38 працэнтаў. Турэцкі бок таксама прапанаваў ажыццяўляць на сваёй тэрыторыі зборку беларускіх матацыклаў і трактароў. Прычым, калі на першапачатковым этапе плануецца выпускаць 1000 трактароў у год, то ў наступныя гады іх колькасць дасягне 5000.

Суседнія з Турцыяй Іран і Пакістан разглядаюцца намі як перспектыўныя рынкі збыту, адсюль і выгаднасць гэтых праектаў для Беларусі.

**Надзея ЕРМАКОВА, старшыня праўлення Акцыянернага ашчаднага банка «Беларусбанк»:**

— Адным з асноўных вынікаў візіту ў Турцыю беларускай дэлегацыі з'яўляецца падпісанне бакамі пагаднення аб прадастаўленні нашай рэспубліцы Эксімбанкам гэтай краіны крэдыту на суму 20 мільёнаў долараў ЗША. Хоць пытанне аб яго выдзяленні было пастаўлена ўжо даўно, і размова ішла аб крэдытнай лініі значна большых памераў. Відаць, турэцкі бок з-за некаторай асцярожнасці знізіў аб'ём крэдыту. Паступаць ён да нас будзе часткамі, першапачаткова па 8 мільёнаў.

З улікам таго, як была прынята беларуская дэлегацыя ў Турцыі, як прайшлі перагаворы Аляксандра Лукашэнкі з кіраўніцтвам і прадстаўнікамі дзелавых колаў гэтай краіны, можна спадзявацца, што гэта крэдытная лінія Турцыі для нас не стане апошняй. Залежаць гэта будзе, вядома, і ад таго, як будзе адбывацца пагашэнне крэдыту.

Згодна з распараджэннем Кабінета Міністраў нашай рэспублікі, крэдыт будзе рэалізоўвацца праз «Беларусбанк». Хоць гэта не значыць, што наступныя ўліванні ў беларускую эканоміку турэцкага капіталу будуць мінаць усе астатнія банкі рэспублікі. Любы з іх можа выйграць права на рэалізацыю наступных турэцкіх крэдытаў.

**Ігар РУБАН, БЕЛТА.**

## «Я ВЕРУ Ў СВОЙ НАРОД... ЁСЦЬ ШАНЦ ПЕРАЛАМІЦЬ У ЛЕПШЫ БОК СІТУАЦЫЮ Ў АГРАПРАМЫСЛОВЫМ КОМПЛЕКСЕ...»

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Але якраз у гэтым заключаецца аграрная палітыка дзяржавы. Аляксандр Лукашэнка перакананы: першасная задача любой дзяржавы — накарміць сваіх грамадзян. Можна пражыць без аўтамабіляў і модных строяў, а вось без хлеба... Мінулы, 1995 год, паказаў, што быў забяспечаны больш высокі ўзровень спажывання асноўных прадуктаў харчавання на душу насельніцтва, чым у нашых суседзяў.

І што ж чакае нас сёння, калі гаварыць пра перспектывы ўраджаю? Паводле папярэдніх даных, збор збожжавых і іншых культур сёлета можа перавысіць на 10—15 працэнтаў леташні ўраджай. Шмат залежыць ад паваротлівасці, ад парадку, ад заклапочанасці справай на месцах. Напрыканцы селектарнай нарады Аляксандр Рыгоравіч як блізкую перспектыву вызначыў наступную задачу: кожнай гаспадарцы дапамагчы набыць штогод па 1 трактару, а ў кожныя 2 гады — 1 камбайн. Не будзе абнаўлення парка — адбудуцца многія і многія страты.

Прэзідэнт краіны, віцэ-прэм'ер, міністр сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання звярнулі ўвагу і на лічбы матэрыяльнай падтрымкі калгасаў, саўгасаў. Закупка збожжа-96 праавансіравана на 75 працэнтаў. Ёсць усе магчымасці для рамонту тэхнікі, набыцця запчастак, паліва. І ўсё ж не ўсюды справы складваюцца гладка. Па стану на 23 ліпеня ў Брэсцкай і Гомельскай абласцях, дзе жніво ідзе зараз поўным ходам, не былі падрыхтаваны да выхаду ў поле адпаведна 19 і 17 працэнтаў камбайнаў. У Магілёўскай вобласці няспраўны кожны чацвёрты камбайн. У дрэнным стане знаходзіцца зернесушыльная гаспадарка. Ёсць, безумоўна, прыклады, калі да жніва (асабліва — ў Гродзенскай вобласці) тэхніка гатовая на 90 працэнтаў. Але ж чаму так не паўсюдна? Няўжо атрымліваецца так, што да жніва пачалі рыхтавацца ледзьве ці не ў самы яго пярэдадзень? Чаму такая розніца сярод раёнаў, калі ўзровень дзяржаўнай падтрымкі аднолькавы?.. Прэзідэнт краіны як адну з прычын вызначыў слабую арганізацыю работы мясцовых уладаў.

Якія пытанні, акрамя традыцыйных справаздач пра першыя здабыткі на жніве, узнімалі ў сваіх выступленнях кіраўнікі аблвыканкомаў? Ледзьве ці не ў адзін голас яны прасілі крэдыт. Прэзідэнт і тут пайшоў насустрач. І гэта яшчэ раз пацвердзіла, што дзяржава робіць усё магчымае для забеспячэння нармальнага ходу жніва. Слова непасрэдна за гаспадаркамі.

Шмат размоў у ходзе нарады было прысвечана нафтапрадуктам. Прэзідэнт паабяцаў звярнуць самую вялікую ўвагу цэнаўпарадкаванню ў паліве. Спекуляцыі, заўважыў кіраўнік дзяржавы, тут не будзе. Асобную ўвагу Аляксандр Рыгоравіч звярнуў на чалавека працы. Тры клопаты павінны быць сёння вырашаны для механізатараў як першачарговыя задачы: гарачыя абеды, спецвопратка, аплата працы. Селектарная нарада, якую правёў Прэзідэнт, перакanala і ў наступным: жніво становіцца прадметам увагі палітычнай. У перыяд барацьбы за ўраджай як за аснову эканамічнага дабрабыту краіне, народу зусім не да мітынгаў. Хіба што лепш пакінуць іх на зіму.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## РАДЫЕНУКЛІДЫ З ЕЖАЙ «МІГРЫРУЮЦЬ» ПА КРАІНЕ

Згодна з інфармацыяй, атрыманай у аддзеле радыяцыйнай гігіены Мінскага абласнога цэнтра гігіены і эпідэміялогіі, з 4056 даследаваных у I квартале гэтага года проб прадуктаў (у даным выпадку размова ідзе аб дзяржаўных прадпрыемствах) шэсць з іх па ўтрыманню радыенуклідаў не адпавядалі РДУ (рэспубліканскаму дапушчальнаму ўзроўню). У трох выпадках «свяцілася» малако (у даным выпадку «саграшыў» Салігорскі раён), у двух — белыя грыбы (Пухавіцкі раён і Гомельская вобласць), у адным — марынаваныя грыбы з Маладзечна. У 2-ім квартале з 3255 даследаваных проб перавышэнняў РДУ па ўтрыманню радыенуклідаў выяўлена не было.

Затое ў прыватным сектары карціна крыху іншая: 37 проб з перавышэннем РДУ з 1884 даследаваных за перыяд з красавіка па чэрвень. Як правіла, самым нядобранадзейным прадуктам аказваецца малако, у той час як мяса ў большасці выпадкаў, застаецца «чыстым». Назапашваюць радыенукліды таксама бульба, ягады і грыбы, праўда, іх якраз мясцовае насельніцтва не спяшаецца правяраць, кіруючыся прынцыпам «лепш не ведаць». А чытачоў хочам папярэдзіць, што самае забруджанае радыенуклідамі малако паступае з Валожынскага, Вілейскага, Бярэзінскага і Салігорскага раёнаў.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

## ЗАЯВА МІНІСТЭРСТВА ЗАМЕЖНЫХ СПРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ У СУВЯЗІ З ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЯЙ В. ІЛЮХІНА 25 ЛІПЕНЯ 1996 ГОДА

Старшынёй Камітэта Дзяржаўнай Думы Расійскай Федэрацыі па бяспецы В. Ілюхіным на прэс-канферэнцыі 25 ліпеня 1996 года была зроблена заява аб спробах, якія робяцца з-за рубяжа, дэстабілізаваць сітуацыю ў Рэспубліцы Беларусь. Цяпер звесткі, што паведаміў В. Ілюхін, вывучаюцца кампетэнтнымі органамі рэспублікі.

Суверэнная беларуская дзяржава мае ўсе неабходныя сродкі і магчымасці для забеспячэння міру і стабільнасці ў краіне, бяспекі грамадзян.

Прытрымліваючыся ў міжнародных адносінах прынцыпаў добрасуседства і неўмяшання, Рэспубліка Беларусь зыходзіць з таго, што гэтыя прынцыпы з'яўляюцца асноватворнымі і для іншых дзяржаў у іх узаемаадносінах з нашай краінай.

**УЛАДЗІМІР ЗАМЯТАЛІН:**

## «ІСНУЮЦЬ СІЛЫ, ЯКІХ НЕ ЗАДАВАЛЬНЯЕ ГРАМАДСКАЯ СТАБІЛЬНАСЦЬ У БЕЛАРУСІ...»

«Падзеі сакавіка, красавіка і мая бягучага года ў Мінску гавораць аб тым, што, безумоўна, існуюць сілы, і не толькі ў Беларусі, якіх не задавальняе грамадская стабільнасць у рэспубліцы і сацыяльна-палітычны курс беларускага Прэзідэнта». Так намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта краіны Уладзімір Замяталін пракаменціраваў карэспандэнту агенцтва «Інтэрфакс» заяву старшыні Камітэта Дзяржаўнай думы Расіі па бяспецы Віктара Ілюхіна аб рыхтуемай правакацыі ў Беларусі і магчымым адхіленні Аляксандра Лукашэнкі ад улады.

Менавіта таму, падкрэсліў У. Замяталін, «вялікай з'яўляецца спакуса беларускіх нацыяналістаў, якія шукаюць сваіх прыхільнікаў за мяжой, зрабіць усё магчымае, каб перавярнуць Беларусь у ачаг процістаяння, у інтэрнацыянальную лабараторыю палітычных эксперыментаў». Ён таксама адзначыў, што «зацяжная чатырохмесячная «эміграцыя» лідэраў беларускага антынароднага фронту З. Пазняка і С. Навумчыка, іх ваяжы за мяжой і бессаромнае ачарненне беларускага народа маюць свае канкрэтныя мэты. Яны выражаюцца перш за ўсё ў тым, каб кансалідаваць усе магчымыя сілы ў інтарэсах жорсткага процістаяння суверэннай дзяржаве і яе Прэзідэнту».

Для дасягнення гэтых мэтаў, сказаў намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта, «у адзінае, вар'яцкае па сэнсу цэлае зліліся нацыянал-экстрэмісты і нацыянал-дэмакраты, лібералы, камуністы і нацыянал-фашысты, былыя і цяперашнія дэпутаты Вярхоўнага Савета, банкіры і міністры, якія праکраліся і знятыя з пасады». Паводле яго слоў, за лжывай палітычнай траскатнёй гэтых «рознакаляровых» паноў аб нібыта «дыктатуры», «таталітарызме» ў Беларусі ўтойваецца іх банальнае жаданне жыць у дастатку за чужы кошт, але не працаваць, кіраваць усімі і ўся, быццам бы клапаціцца аб народзе, але ні за што не адказваць, «руліць» краінай, але невядома куды. «Калі хто-небудзь і чакае, а можа, і рыхтуе хваляванні ў Беларусі, то гэта не азначае, што яны прыдуць. Беларусь як суверэнная дзяржава і, перш за ўсё, беларускі народ маюць усе правы і ўсе магчымасці жыць у міры і спакоі», — заявіў намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Уладзімір Замяталін.

**БЕЛТА.**

## РЭЗАНАНС НА ВЫСТУПЛЕННЕ ВІКТАРА ІЛЮХІНА

«Сцвярджэнні, што Цэнтральнае разведвальнае ўпраўленне быццам бы рыхтуецца адхіліць ад улады Прэзідэнта Беларусі, з'яўляюцца поўным абсурдам», — гаворыцца ў распаўсюджанай у Вашынгтоне кароткай заяве штаб-кватэры ЦРУ. У паведамленні, перададзеным па каналах ТАСС з амерыканскай сталіцы, Цэнтральнае разведвальнае ўпраўленне ЗША ахарактарызавала як нонсенс выказванні старшыні Камітэта па бяспецы Дзяржаўнай Думы Расіі Віктара Ілюхіна аб тым, што ЦРУ быццам бы плануе звяржэнне Прэзідэнта Беларусі.

У сваю чаргу прадстаўнік амерыканскага пасольства ў Маскве Роберт Хілтан заявіў агенцтву Асашыэйтэд Прэс, што абвінавачанні В. Ілюхіна зусім беспадстаўныя, і адзначыў дружалюбны характар адносінаў паміж ЗША і Беларуссю.

Што ж датычыць думкі беларускага калегі Віктара Ілюхіна — старшыні парламенцкай Камісіі па нацыянальнай бяспецы, абароне і барацьбе са злачыннасцю Мікалая Карпіевіча, то ў інтэрв'ю сродкам масавай інфармацыі ён паведаміў, што падтрымліваючы цесныя кантакты з КДБ і МУС, ён як службовая асоба з поўнай адказнасцю заяўляе аб адсутнасці інфармацыі аб дзеяннях на тэрыторыі Беларусі амерыканскіх спецслужбаў, накіраваных на правядзенне ў краіне дзяржаўнага перавароту.

**Ларыса ЛАЗАР, БЕЛТА.**

*ПРАЦЯГ СКАНДАЛУ*

## ЗАЯВА В. ІЛЮХІНА НАЗВАНА ПРАВАКАЦЫЯЙ

Сенсацыйная заява дэпутата Дзярждумы Расіі Віктара Ілюхіна аб існаванні тайнай змовы ЗША супраць суверэнітэту Рэспублікі Беларусь выклікала, паводле вызначэння шматлікіх сродкаў масавай інфармацыі, амаль «міжнародны шок». «Ні служба замежнай разведкі (СЗР) Расіі, ні прэс-бюро не прадстаўлялі Ілюхіну звестак аб правакацыях, якія нібыта рыхтуюцца ў Беларусі», — катэгарычна заявілі адразу ж пасля прэс-канферэнцыі ў Дзярждуме кіраўнікі расійскай СЗР. Амаль такія ж словы сказалі журналістам і кампетэнтныя супрацоўнікі Федэральнай службы бяспекі РФ.

Праз два дні пасля сенсацыйнай заявы ў Маскве адбылася прэс-канферэнцыя віцэ-спікера парламента Аляксандра Шохіна, на якой аўтарытэтны расійскі палітык папрасіў прабачэння ў грамадскасці за непрадуманыя дзеянні свайго калегі, якія могуць «убіць клін паміж парламентамі Расійскай Федэрацыі і Рэспублікі Беларусь».

У мінулую нядзелю, выступаючы ў аўтарскай праграме «Люстэрка» Мікалая Сванідзэ, вядомы маскоўскі палітычны дзеяч Мікалай Ганчар сказаў: «Я не ўяўляю нармальных узаемаадносінаў з парламентам Беларусі, дзе сядзяць 50 змоўшчыкаў супраць расійска-беларускай інтэграцыі. Не думаю, што Ілюхін хацеў скарыстаць гэтую інфармацыю як падставу для з'яўлення на экранах тэлевізараў. Расійска-беларускія адносіны вельмі важныя і для нас, і для беларусаў, каб іх скарыстоўваць дзеля кан'юнктурных мэтаў. Але калі дэпутат палічыў, што расійска-беларускія ўзаемаадносіны не такія важныя ў параўнанні з унутранай палітычнай сітуацыяй у Расіі, дзеля якой Ілюхін як камуніст выкарыстаў гэта ў партыйных мэтах, то гэта называецца цынізмам, палітычным цынізмам... Тут, магчыма, ёсць след замежных спецслужбаў, аднак навошта Ілюхін прыдаў інфармацыі такое шырокае гучанне? Хай бы мне сказалі, што ўсю гэтую гісторыю арганізавалі амерыканцы, тады не памылюся, што тут прафесійная работа. Сур'ёзны палітык павінен разбірацца ў сітуацыі, а не глытаць падобныя кручкі... І ён будзе вінаватым у пагаршэнні расійска-беларускіх адносінаў. Не ведаю, Ілюхін арганізатар ці ўдзельнік, вольны ці не, але вынік усяго адзін — правакацыя».

Негатыўная ацэнка новай дзіўнай ініцыятывы аднаго з камуністычных лідэраў Расіі выказана і шэрагам іншых вядомых палітыкаў і дзяржаўных дзеячаў Расіі. Аднак найбольш рэзкую рэакцыю «чырвоная вутка» старшыні камітэта па бяспецы Дзярждумы атрымала за мяжой. Міністр унутраных спраў Польшчы Збігнеў Семіанткоўскі назваў паведамленне аб амерыканскай змове з выкарыстаннем польскай тэрыторыі бязглуздзіцай. У ЦРУ спробу выклікаць міжнародны палітычны скандал назвалі нонсенсам. А Дзярждэпартамент ЗША «ўзнагародзіў» ілюхінскую сенсацыю эпітэтам «безгрунтоўная».

Пасля прэс-канферэнцыі Ілюхіна афіцыйны прадстаўнік пасольства ЗША ў Маскве сп. Хілтанк заявіў, што Злучаныя Штаты ніякім чынам не маюць намеру падрываць палітыку ўрада Беларусі.

**Леанід ФАДЗЕЕЎ.**

**P. S.** У пятніцу, 26 ліпеня, з'явілася афіцыйная заява беларускага Камітэта дзяржбяспекі. Так, старшыня КДБ Уладзімір Мацкевіч паведаміў, што камітэт не валодае ні фактамі, якія паведаміў Віктар Ілюхін, ні крыніцамі інфармацыі, з якіх мог атрымаць прыведзеныя звесткі расійскі парламентарый. Адначасова беларускія чэкісты ведаюць аб знаходжанні ў сумежнай дзяржаве амерыканскіх спецслужбаў, аб іх супрацоўніцтве з мясцовымі, але казаць пра тое, што гэтае супрацоўніцтва вядзецца на шкоду Беларусі, нельга. Адначасова ў КДБ заявілі, што, нягледзячы на вельмі складаную сацыяльна-палітычную і эканамічную сітуацыю ў Беларусі, КДБ не схільны ўвогуле драматызаваць становішча.

Аналагічна ацанілі словы В. Ілюхіна і ў Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. У прыватнасці, памочнік Прэзідэнта Алег Слука заўважыў, што важна высветліць як крыніцы інфармацыі, так і тое, каму быў выгадны скандал. Разам з тым А. Слука абвергнуў версію, што ў з'яўленні сенсацыі замешаны беларускі бок, пра што напісалі некаторыя расійскія газеты.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

ПРАЦЯГ ТЭМЫ

# БЕГ ПА КРУРЗЕ

## Чацвёрты год Віктар Буто спрабуе аднавіцца на рабоце

Як гаварыцца, Бог «тройцу» любіць. Гэта ёсць ужо трэці мой артыкул пра Віктара Буто. Першы быў 5 кастрычніка яшчэ мінулага года і называўся «Ліквідацыя ліквідатара». Думаю, неабходна ў двух словах нагадаць складаны сюжэт жыцця Віктара з 1993 года.

Як ліквідатар ён аднойчы праходзіў медыцынскае абследаванне. Адміністрацыя дэпо (тралейбуснага № 5) гэты факт выкарыстала і звольніла Віктара Буто нібыта за прагул. Было два судовыя працэсы. Першы прызнаў неабходным аднавіць на рабоце, другі «выправіў» памылку першага і ў аднаўленні адмовіў. З тае пары Віктар спрабуе вырашыць пытанне на сваю карысць. Само сабою, без поспеху.

Як у нас прынята, пройдзены ўсе інстанцыі. Выніку, канешне, няма. Не так даўно Віктар зноў папрасіў аб сустрэчы, чаму я ніколькі не здзівіўся. Дзіўна было б, калі б не папрасіў. Тут бы я сапраўды здзівіўся б. Няўжо, падумаў бы, штосьці ўдалося?

Трэба сказаць, з маёй лёгкай рукі Віктар Буто стаў знакамітым чалавекам. Пра яго зняла сюжэт грамадскае расійскае тэлебачанне (I канал). Радыё «Свабода» прысвяціла Віктару спецыяльную перадачу. Газета «Белоруссия» надрукавала здымак і тэкстоўку. Словам, поўны поспех. Праўда, на рэальнае становішча Віктара гэта ўсё не зрабіла асаблівага ўздзеяння. Дакладней, ніякага.

Тут вось што мне цікава. Калі дзевяць месяцаў назад выйшаў мой артыкул пра Віктара Буто, ніхто мне не званіў і не пытаў адрас Віктара. Я б сказаў, што мне, шкада? Можа б, яшчэ два-тры-чатыры артыкулы зрушылі б справу з месца. Была б, так бы мовіць, газетная кампанія. Што прымусіла б улады дзейнічаць. Гэтага не здарылася.

Але варта было Віктару выйсці з плакатам на вуліцу, як яго адразу заўважылі. Ісціна: чуюць таго, хто грамчэй крычыць...

**ПРАТАКОЛ**

Адным словам, Віктар напісаў адпаведныя плакаты і стаў з імі ля Галоўпаштамта. На плакатах было: так бы мовіць, «гісторыя любві» Буто і дзяржаўных органаў, а таксама просьба дапамагчы грашамі. Я павінен патлумачыць, што Віктар Буто мае толькі разавыя і вельмі рэдкія і невялікія выплаты. Ён вінен розным людзям каля 4 мільёнаў рублёў і прасіць яшчэ проста ўжо немагчыма і сорамна. Таму ён падумаў: калі мне не даюць зарабляць законным спосабам, то буду прасіць міласціну. Лагічна.

Трэба сказаць, людзі падыходзілі, чыталі плакаты, спачувалі, ды і давалі, хто колькі мог. Я іх разумею. Проста жабраку не кожны дасць, а тут — ідэалагічнае абгрунтаванне.

Праўда, падыходзілі не толькі людзі. Дакладней, людзі не толькі ў цывільнай вопратцы. 5 ліпеня Віктарам зацікавіўся АМОН. Карацей, яго забралі ў аддзяленне міліцыі. Хто забраў, Буто ведае. Гэта Гінько Андрэй Уладзіміравіч і Якоўскі Мікалай Мікалаевіч. Так запісана ў пратаколе, які, канешне ж, быў складзены.

У аддзяленні з Віктарам гаварылі спачатку «крута». Напрыклад, пагражалі псіхушкай. Потым супакоіліся і павезлі ў суд. Каб судзіць па арт. 1672. Прыкладна дзве гадзіны яго вадзілі па розных кабінетах — ніхто з суддзяў не хацеў брацца за гэтую «тухлую» справу. Нарэшце знайшлі.

Верагодна, суддзя зразумеў, што штрафаваць Віктара сэнсу няма, усё роўна не заплаціць, а даваць 15 сутак як быццам падставы таксама няма. Абмежаваўся папярэджаннем. Маўляў, нельга парушаць грамадскі парадак, дрэнна гэтак, непрыгожа. Увогуле, прэтэнзій да суда і міліцыі ў мяне няма: работа ў іх такая. Цікава, праўда, што ніхто з іх не растлумачыў Віктару Буто, як яму жыць і дабіцца адэкватных да сябе адносін. Органы — яны і ёсць органы. Пасадзіць могуць, пакараць штрафам. «Прышыць» справу могуць. Разабрацца згодна з літарай закона — вось гэтага неяк не атрымліваецца.

Падыходзілі, між іншым, да Віктара супрацоўнікі КДБ. Уважліва распыталі і здзівіліся: як такое можа быць? А 12 ліпеня Віктара канчаткова выгналі з праспекта. Зрабіў гэта лейтэнант міліцыі Фалей Ігар Віктаравіч з Ленінскага РАУС. Зноў жа, асуджаць яго не станеш. Яму загадалі, ён выканаў. Чалавек, як гаворыцца, казённы.

На гэтым вопыт Віктара Буто ў якасці прафесіянальнага жабрака быў скончаны.

**ДАКУМЕНТЫ — 1.**

*«Пракуратура Рэспублікі Беларусь. Пратэст. 25.03.96.*

*У заяве суду прафком КТБ тралейбуснага дэпо № 5 указаў, што ісцец Буто Віктар Мікалаевіч працаваў вадзіцелем тралейбуса ў дэпо № 5. Загадам № 37 ад 29 красавіка 1993 г. ён звольнены з работы па п. 4 арт. 33 КЗаП РБ за прагул, які быў зроблены 30 сакавіка 1993 г. Паколькі 30 сакавіка Буто адсутнічаў на рабоце па ўважлівай прычыне, бо быў вызвалены ад яе ў сувязі з медыцынскім абследаваннем як удзельнік ліквідацыі вынікаў аварыі на ЧАЭС, прафком КТБ прасіў аднавіць Буто на рабоце. Справа судамі разглядалася неаднойчы.*

*Рашэннем суда Першамайскага раёна г. Мінска ад 6 снежня 1993 г. у задавальненні іска адмоўлена.*

*Вызначэннем судовай калегіі па грамадзянскіх справах Мінскага гарадскога суда ад 23 снежня 1993 г. рашэнне раённага суда пакінута без змен, а касацыйная скарга прафкома — без задавальнення.*

*Судовыя пастановы па справе знаходжу належачымі адмене.*

*... Адмаўляючы ў задавальненні іска Буто ў аднаўленні на рабоце, абедзве судовыя інстанцыі палічылі ўстаноўленым, як вынікала з прадстаўленых органамі аховы здароўя даных, што Буто 30 сакавіка 1993 г. быў вызвалены ад работы не на поўны рабочы дзень, а толькі на час праходжання медыцынскага абследавання.*

*Разам з тым, з адказу намесніка міністра аховы здароўя Крысенка М. А. на запыт Пракуратуры РБ вынікае, што 30 сакавіка 1993 г. Буто вызваляўся ад работы на ўвесь рабочы дзень. Такім чынам, гэты дакумент ставіць пад сумненне абгрунтаванасць адмовы ў аднаўленні Буто на рабоце, і яму павінна быць дадзена судом ацэнка...*

*... Прашу: Рашэнне суда Першамайскага раёна ад 6 снежня 1993 г. і вызначэнне судовай калегіі па грамадзянскіх справах Мінскага гарадскога суда ... адмяніць, справу накіраваць на новы разгляд у той жа суд у іншым саставе суддзяў. Намеснік Генеральнага пракурора РБ Юрэвіч».*

Як быццам, справа вырашана? Але так можа лічыць толькі той, хто не вельмі добра знаёмы з нашай судовай сістэмай. Да таго ж, сп. Юрэвіч чамусьці не памянуў самы першы працэс у Партызанскім судзе, які аднавіў Буто на рабоце.

Варта сказаць і аб тым, што Віктар Буто прымаў актыўны ўдзел у рабоце Свабоднага прафсаюза дэпо № 5. На 30 сакавіка якраз быў прызначаны сход вадзіцеляў, на які былі запрошаны адказныя работнікі гарвыканкома. Вадзіцелі хацелі прадметна пагаварыць аб сваіх праблемах. Як гаворыцца, наводзіць на роздум...

**ДАКУМЕНТЫ — 2.**

*«11 красавіка 1996 г. Судовая калегія па грамадзянскіх справах Вярхоўнага Суда РБ у саставе старшынствуючага Луферава А. А. і членаў: Філіманіхінай Л. Я. і Турко В. Л. разгледзела ў адкрытым пасяджэнні пратэст намесніка Генеральнага пракурора РБ на рашэнне суда Першамайскага раёна г. Мінска ад 6 снежня 1993 г. і вызначэнне судовай калегіі па грамадзянскіх справах Мінскага гарадскога суда ад 13 снежня 1993 г. па іску прафкома КТБ тралейбуснага дэпо № 5 у інтарэсах Буто Віктара Мікалаевіча да тралейбуснага дэпо № 5 аб аднаўленні на рабоце і вяртанні заработнай платы за час вымушанага прагулу...*

*Устанавіла: ...Аргументы пратэсту аб тым, што Буто В. М. вызваляўся ад работы 30 сакавіка 1993 г. на ўвесь рабочы дзень, што вынікае з пісьма намесніка міністра аховы здароўя ад 29.02.96 г. з'яўляюцца неабгрунтаванымі і падставай да адмены прынятых судовых рашэнняў служыць не могуць, бо ў гэтым пісьме намеснік міністра спасылаецца на «Інструкцыю аб парадку выдачы лісткоў непрацаздольнасці і даведак аб часовай непрацаздольнасці», якая зацверджана Міністэрствам аховы здароўя 31 снежня 1993 г., інакш кажучы, пасля звальнення Буто В. М....*

*Вызначыла: ... пратэст намесніка Генеральнага пракурора РБ пакінуць без задавальнення».*

Каментарыі: без каментарыяў.

*«Мінскі гарадскі выканаўчы камітэт. Буто В. М.*

*Ваш зварот аб правядзенні пікетавання ў Мінгарвыканкоме разгледжаны. У адпаведнасці з Палажэннем аб парадку арганізацыі і правядзення сходаў, мітынгаў, вулічных шэсцяў і дэманстрацый, зацверджаным Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР ад 04.04.88 № 2136-XI, заява аб прадастаўленні месца і вызначэнні часу для правядзення пікетавання павінна ўтрымліваць мэту, форму, месца ці маршруты руху, час пачатку і заканчэння мерапрыемства. Улічваючы, што ўстаноўлены вамі парадак падачы заявы не захаваны, у правядзенні пікетавання вам адмаўляецца. Кіраўнік спраў Л. Н. Валодзькіна».*

Увогуле, цікава. Краіны той даўно не існуе. Не існуе таго заканадаўчага органа, на Указ якога спасылаецца сп. Валодзькіна. А Указ працягвае дзейнічаць. Хоць ёсць таксама Канстытуцыя краіны, якая дазваляе правядзенне пікетаў, шэсцяў і г. д. Да таго ж, Віктар Буто неаднойчы пісаў заявы на пікетаванне. І кожны раз гарвыканком знаходзіў нейкую адчэпку. Адпаведна, адмаўляў.

*«Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь. Камісія па праблемах чарнобыльскай катастрофы. Буто В. М.*

*Паважаны Віктар Мікалаевіч! Камісія разгледзела вашу заяву. Вы звяртаецеся ў нашу камісію не першы раз. Як і ў мінулы раз, пацвярджаем, што ў адносінах да вас Закон РБ «Аб сацыяльнай абароне грамадзян, якія пацярпелі ад катастрофы на ЧАЭС» не парушаны. Абараніць вас можна было б на падставе арт. 18 п. 13 гэтага Закона, дзе гаворка ідзе аб «пераважным пакіданні на рабоце пры скарачэнні штата альбо колькасці работнікаў». У вашым жа выпадку гаворка ідзе аб звальненні за прагул. Гэтыя пытанні ў веданні судовай улады.*

*Улічваючы, што спецыфіка работы Вярхоўнага Савета такая, што не дапускае ўмяшання ў дзейнасць іншых галін улады. Такім чынам, вы абсалютна правільна звярталіся ў судовыя органы. Намеснік старшыні камісіі М. К. Грушэўскі».*

Слава Богу, Віктар Мікалаевіч «абсалютна правільна звяртаўся ў судовыя органы», слава Богу. А калі б не?!

*«Служба кантролю Прэзідэнта РБ. Буто В. М.*

*... З прадастаўленых матэрыялаў угледжваецца, што рашэнне раённага суда і вызначэнне Мінгарсуда правяраліся калегіяй па грамадзянскіх справах Вярхоўнага Суда РБ, якая прызнала іх правільнымі.*

*Пры нязгодзе з вызначэннем Вярхоўнага Суда вы маеце права абскардзіць яго ў парадку нагляду старшыні Вярхоўнага Суда ці Генеральнаму пракурору РБ.*

*Па пытанню працаўладкавання вам неабходна звярнуцца ў раённае аддзяленне цэнтра занятасці насельніцтва па месцы жыхарства.*

*Адначасова тлумачу, што вырашэнне ўзнятых пытанняў не ўваходзіць у кампетэнцыю Службы кантролю Прэзідэнта РБ. Намеснік начальніка Службы кантролю Прэзідэнта РБ. К. А. Сумар.»*

Нарэшце, завяршальны акорд.

«Пракуратура РБ. Буто В. М.

*... Пракуратурай РБ па справе па вашаму іску аб аднаўленні на рабоце быў прынесены пратэст з мэтай, каб новаму дакументу, які паступіў з міністэрства аховы здароўя, была дадзена ацэнка судом. Такая ацэнка Вярхоўным Судом РБ дадзена, хоць і не на вашу карысць. Падстаў для аспрэчвання гэтай ацэнкі і прынясення пратэсту ў Прэзідыум Вярхоўнага Суда няма.*

*Аказаць вам дапамогу ў працаўладкаванні Пракуратура РБ не мае, на жаль, магчымасці. Намеснік пракурора РБ В. Б. Юрэвіч.»*

Такім чынам, кола замкнулася. І можна бегаць па ім да бясконцасці. Тыпу ваверкі. Што пацвярджае вядомую ісціну: жыць чэсна ў гэтай краіне цяжка і эканамічна нявыгадна.

Магу даць Віктару Буто параду. Плюньце, Віктар Мікалаевіч. Плюньце і забудзьце. Вылазьце з кола і шукайце любую работу.

Жыццё адно, а вы не ваверка...

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

ПЫТАЛЬНІК • ПЫТАЛЬНІК • ПЫТАЛЬНІК • ПЫТАЛЬНІК • ПЫТАЛЬНІК • ПЫТАЛЬНІК • ПЫТАЛЬНІК • ПЫТАЛЬНІК • ПЫТАЛЬНІК • ПЫТАЛЬНІК

## ЗАХАВАННЕ НЯСПЫННАГА СТАЖУ ПРЫ ЗВАЛЬНЕННІ

***Паважаная «Звязда»***

***Звяртаецца да вас педагог ВНУ. У мяне наспела неабходнасць перайсці на работу ў іншую навучальную ўстанову. Чула, што калі перапыняецца няспынны стаж, то страчваюцца надбаўкі да зарплаты, а таксама дапамога па сацыяльнаму страхаванню ў выпадку хваробы.***

***У якім выпадку пры звальненні па ўласнаму жаданню захоўваецца няспынны стаж?***

**З павагай ЗУБОВІЧ М. К.**

Згодна з п. 9 пастановы Савета Міністраў СССР і ВЦСПС ад 28 чэрвеня 1983 г. № 745 «Аб дадатковых мерах па ўмацаванню працоўнай дысцыпліны» пры звальненні па ўласнаму жаданню без уважлівых прычын няспынны стаж захоўваецца, калі перапынак у рабоце не перавышае трох тыдняў (21 каляндарны дзень).

У тым выпадку, калі работнік звольнены па ўласнаму жаданню ў выніку ўважлівых прычын, няспынны стаж захоўваецца на час, прадугледжаны працоўным заканадаўствам. Уважлівымі прычынамі звальнення па ўласнаму жаданню лічацца:

— перавод мужа ці жонкі ў іншую мясцовасць;

— накіраванне мужа ці жонкі на работу або для праходжання службы за мяжу;

— пераезд у іншую мясцовасць;

— хвароба, якая перашкаджае працягу работы ці пражыванню ў гэтай мясцовасці;

— неабходнасць догляду хворага члена сям'і;

— парушэнне наймальнікам калектыўнага ці працоўнага дагавора;

— інваліднасць;

— цяжарнасць;

— наяўнасць у маці дзяцей ва ўзросце да 14 гадоў;

— наяўнасць у работнікаў на ўтрыманні трох і больш дзяцей, якія не дасягнулі 16 гадоў.

## ЗА МАРАЛЬНЫ ЎРОН ТАКСАМА ТРЭБА ПЛАЦІЦЬ

***Паважаны «Пытальнік»!***

***Я чуў, што праз суд можна спагнаць не толькі за матэрыяльны ўрон, а і за маральныя пакуты, прычыненыя злачынствам. Як і ў якім памеры гэта можна ажыццявіць?***

**З удзячнасцю СЯМЁНАЎ В. П.**
**г. Магілёў.**

Артыкул 61 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь прадастаўляе права асобы на кампенсацыю не толькі матэрыяльнага ўрону, але і маральнага. На жаль, гэта не знайшло адлюстравання ў шэрагу заканадаўчых актаў, напрыклад, у Грамадзянскім кодэксе. Маральная шкода кампенсуецца пры наяўнасці тых жа падстаў, што і для кампенсацыі маёмаснага ўрону. Гэта аднаразовая спаганяемая сума. Права на кампенсацыю мае пацярпеўшы, а ў выпадку яго гібелі асобы, указаныя ў арт. 457 ГК РБ. Памер сумы за маральны ўрон вызначаецца судом у залежнасці ад перанесеных фізічных і маральных пакут пацярпеўшым і іншых канкрэтных акалічнасцей справы. Звычайна іск аб кампенсацыі маральнага (матэрыяльнага) урону падаецца разам з іскам аб кампенсацыі матэрыяльнай шкоды і ў судзе разглядаецца разам.

## КАЛІ АТРЫМАЕ ГРОШЫ ВЕТЭРАН?

***У чэрвені гэтага года мне споўнілася 70 гадоў. Я ветэран вайны. Наколькі ведаю, мне павінны прадаставіць бясплатную пуцёўку ў санаторый, а калі адмоўлюся — выплаціць кампенсацыю.***

***Я звярнуўся ў наш аддзел сацзабеспячэння. Але там мне сказалі, што пуцёўку магу атрымаць толькі ў наступным годзе. Аднак мае знаёмыя, якія нарадзіліся ў сакавіку, лютым, кампенсацыі за пуцёўкі ўжо атрымалі. Дык вось, які тут парадак? Прашу растлумачыць.***

**П. СЯМЁНАЎ, Добрушскі раён.**

Сапраўды, згодна з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб статусе ваеннаслужачых» і адпаведнай пастановай № 814 Савета Міністраў ад 2 снежня 1993 года інвалідам і ўдзельнікам вайны, якія дасягнулі 70-гадовага ўзросту, за нявыкарыстаную пуцёўку ў санаторый (што даецца гэтай катэгорыі грамадзян раз у год) павінна прадастаўляцца кампенсацыя. Як паведамілі ў Міністэрстве сацыяльнага забеспячэння, галоўная праблема тут — адсутнасць сродкаў на гэтыя мэты. У Беларусі на сённяшні дзень пражывае 2,5 млн. пенсіянераў розных рангаў, з якіх 160 тысяч маюць права на пуцёўку або кампенсацыю. Выплата апошніх ажыццяўляецца са сродкаў рэспубліканскага бюджэту. Але Міністэрства фінансаў не ў стане зараз, як было раней, адразу цалкам прафінансаваць усе абласныя ўпраўленні сацыяльнага забеспячэння. Так, з належных у першым квартале бягучага года 97 млрд. рублёў органамі сацзабеспячэння было атрымана крыху больш за палову (54 працэнты).

Што тычыцца вашага ліста, паважаны П. Сямёнаў, сваю кампенсацыю за нявыкарыстаную пуцёўку ў санаторый, як запэўнілі ў міністэрстве, вы павінны атрымаць сёлета. Праўда, прыйдзецца пачакаць, пакуль вашаму абласному ўпраўленню будуць пералічаны грошы.

## ЛЕЙКОЗ У КАРОВЫ: ЦІ МОЖНА ПІЦЬ МАЛАКО?

***Звяртаюся да вас з такім пытаннем: я жыву ў вёсцы, дзе забруджанасць тэрыторыі складае ад 5 да 10 кюры. Трымаю ў гаспадарцы карову. Сёлета яна захварэла на лейкоз. Калі ласка, растлумачце, што гэта за хвароба і ці шкодна піць у такім выпадку малако. У мяне 2-гадовае дзіця, ці можна даваць яму гэта малако?***

**Н. БАКУНОВІЧ, Жыткавіцкі раён.**

Як паведамілі ў процізпізаатычным і лячэбна-прафілактычным упраўленні Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання, кожны год адпаведныя службы праводзяць праверку буйной рагатай жывёлы ў грамадскім і прыватным сектары на наяўнасць розных хвароб, у тым ліку і на лейкоз. У гэтай хваробы (гаворачы папулярнай мовай) адрозніваюць дзве стадыі: уласна хваробу і заражэнне. Хутчэй за ўсё жанчына піша аб другім выпадку, паколькі хворую карову яе прымусілі б абавязкова здаць. Гэта як са СНІДам у чалавека — ён можа быць носьбітам яго, але сам яшчэ канчаткова не захварэць. Тым не менш, ужываць малако ад такой каровы непажадана, хаця пакуль медыкі яшчэ не ўстанавілі пераход лейкозу ад жывёлы да чалавека. Зразумела, гэта тычыцца ў першую чаргу дзяцей. Наконт радыяцыі можна сказаць, што яна абвастрае гэтую хваробу, выступаючы своеасаблівым «каталізатарам».

# КІРМАШ

**ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК**

**№ 28 (47)**

**ГОМЕЛЬСКИЙ ЗАВОД СТРОЙДЕТАЛЕЙ**

*Форма оплаты любая.*

предлагает предприятиям и населению высококачественную продукцию собственного производства:

- **БЛОКИ ДВЕРНЫЕ** типа ДГ, ДУ, ДО
- **БЛОКИ ОКОННЫЕ и БАЛКОННЫЕ** типа 02Р и Б2Р
- **ПИЛОМАТЕРИАЛЫ** хвойных и лиственных пород — обрезные и необрезные
- **ДОСКУ** для пола
- **ОБШИВКУ** (вагонку)
- **ПОГОНАЖ** (плинтус, наличник)
- **ТАРУ**

Принимает индивидуальные заказы на изготовление ДАЧНЫХ ДОМИКОВ, САРАЕВ.

***Наш адрес: 246027, г. Гомель, ул. Барыкина, 301.***
***Тел.: 8 (0232) 45-43-79, 45-43-69, факс 45-35-55.***

**ПАДПІСКА ПРАЦЯГВАЕЦЦА**

**Нагадваем вам, што падпіска на верасень і да канца года працягваецца.**

Падпісная цана «Звязды» на 1 месяц складае 13.600 рублёў, на 4 месяцы — 54.400 рублёў.

**Памятайце: «Звязда» — гэта самая свежая і самая патрэбная інфармацыя.**

*Организация реализует*

- **Фляги** аллюминиевые 38-литровые
- **Порошок** стиральный *«HENKO»*
- **Электролампочки** 60 Вт, 100 Вт
- **Хлорную известь**
- **Соду** пищевую

*Сдает в аренду:*

- **Холодильные камеры**
- **Ангар** для складирования

*Тел. (8-273) 7-17-54, тел./факс (8-273) 7-77-11 г. Молодечно, ул. Городская, 97.*

**STIVAL®**

Всегда в лучших традициях добротной чешской обуви

**ПРИГЛАШАЕМ К СОТРУДНИЧЕСТВУ ОПТОВЫХ ПОКУПАТЕЛЕЙ**
Тел. (017) 263-88-33

**Студыя «ТЕЛЕ-АРС» Беларускага саюза кінематаграфістаў ліквідуецца. Прэтэнзіі прымаюцца Праўленнем БСК на працягу двух месяцаў па адрасу: г. Мінск, вул. К. Маркса, 5. Тэл. 227-14-13.**

***Згубленае пасведчанне*** інваліда III гр. № 257412 серыі XVI, выдадзенае на імя СВІРБУТОВІЧА Эдмунда Баляслававіча, ***лічыць несапраўдным.***

## ВІНШАВАННІ

Паважаныя **Тамара і Рыгор**. Віншую вас з 40-годдзем сумеснага жыцця. Жадаю вам здароўя і шчасця.
***ЮРКЕВІЧ Н. А.***
*в. Сакалова, Бярозаўскага раёна.*

Віншую **Алену і Мікалая ВЯЧЭРА** *(г. Мазыр)* з нараджэннем сына. Жадаем моцнага здароўя, радасці, шчасця і дабрабыту.
***Сям'я ПРОНЬКІНЫХ,***
*г. Калінкавічы.*

Віншуем з днём нараджэння ўнучку **Кацю Мікалаеўну КОМЕЛЬ**. Жадаем здароўя, радасці і поспехаў у вучобе.
***Дзядуля і бабуля з в. Забалоцце.***

**Дарагая Леначка!** Віншуем цябе з днём нараджэння. Жадаем здароўя, радасці і шчасця на ўсё жыццё.
***Сям'я ЕСІПЕНКА з Шумілінскага раёна.***

Дарагія **Аксана і Алена**, віншуем вас з днём нараджэння. Жадаем заўжды блакітнага неба і сонечнага настрою.
***З любоўю Толік і Андрэй з Мастоўскага раёна.***

Віншуем дарагую дачушку **ГУРЫНОВІЧ Лену** з днём нараджэння. Жадаем бадзёрасці, радасці і шчасця, поспехаў у жыцці.
***Тата, мама, Дзіма, Оля.***

Віншуем з днём нараджэння дарагога татачку **СЕЛІФОНТАВА Васіля Паўлавіча**. Жадаем моцнага здароўя і доўгіх шчаслівых гадоў жыцця.
***Дачка Святлана, зяць, унучка Оля.***

Віншуем з 18-годдзем **ЛІТВІНЧУКА Алега Пятровіча**. Няхай збудуцца ўсе твае мары.
***Мама, тата.***

## Шаноўныя чытачы!

Наша газета ўважліва ставіцца да кожнага купона на бясплатную аб'яву, які прыходзіць у рэдакцыю. На вялікі жаль, не ўсё, што змешчана ў гэтым купоне, можна надрукаваць. Звароты з прапановамі пошуку кліентаў для правядзення лячэбных сеансаў, прапановамі «азалаціць» усяго за адзін дзень і іншыя, дзе патрабуецца дзяржаўны дазвол (ліцэнзія) на від дзейнасці, і надалей будуць пакідацца намі без увагі. Наша газета дае вам унікальную магчымасць павіншаваць родных, блізкіх, знаёмых са знамянальнымі падзеямі ў жыцці. Афармляючы свае аб'явы, будзьце ўважлівыя. Памятайце, што ў людзей, да якіх вы звяртаецеся, ёсць не толькі імя.

Пазначце ў віншаваннях прозвішча чалавека, яго месца жыхарства (месца працы). Краіна наша вялікая, і людзей з аднолькавымі імёнамі і прозвішчамі сустракаецца шмат. Таму дакладнасці, якія мы раім пісаць, пойдуць на карысць і радасць тым, каго віншуеце. Спадзяёмся, што нашы заўвагі дапамогуць вам выкарыстаць магчымасці газеты больш эфектыўна.

***Рэдакцыя.***

| Наименование | Цена | Организация | Телефон |
|---|---|---|---|
| **ТУРИЗМ И ОТДЫХ** | | | |
| Египет: 8, 11, 15 дней авиа «Боинг» | от 525 $. 4-5-звездный отель | Техно-стар | тел./факс 268-47-14 тел. 268-56-69. |

**ЗВЯЗДА**

**Купон для бясплатнай прыватнай аб'явы**
**для тых, хто падпісаўся на нашу газету.**
**Выражце, запоўніце разборліва і вышліце на адрас рэдакцыі**

**Звесткі не для друку: ваша прозвішча, адрас, хатні тэлефон.**
**Адрас рэдакцыі: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 А.**
**Тэлефон для даведак 68-28-77.**

## ПРАДАЕЦЦА

- тэлескоп «Міцар» (Расія) 250 $. *г. Мінск, Тэл. 223-44-37.*
- аднапакаёвая прыватызаваная кватэра з усімі выгодамі ў г. Узда, жылая плошча 21 кв. м, або мяняю на раўназначную ў Ваўкавыску. *Звяртацца: 231944, Гродзенская вобл., Зэльвенскі раён, в. Крамяніца Дальняя, д. 14, кв. 12. ГУРЫН У. П.*
- аўтамабіль ЛуАЗ-969М, выпуск 1991 г., прабег 50 тыс. км, 1,8 тыс. $. *Тэл. (8-01794) 57-1-04.*
- жарабец 2 гады, навучаны рабоце ў возе. *Звяртацца: 231825, Гродзенская вобл., Слонімскі раён, в. Навадзевяткавічы, вул. Маладзёжная, д. 27. СКОБЕЛЬ Н. І.*
- дом з усімі пабудовамі, сад, агарод, падвал ці мяняю на аднапакаёвую кватэру, магчымы варыянты. *Тэл. у Любані 45-4-44, Вілейскі раён.*
- дом стары, пад знос, танна. *Звяртацца: 225554, Брэсцкая вобл., Столінскі раён, в. Кароцічы, перавулак Школьны, д. 24.*
- Форд-Эскорд, 84 г. в., дызель; 1,6 л, трое дзверцаў, 5-КПП, бэжавы за 2.800 $. *Тэл. (8-270) 5-50-61, г. Нясвіж.*
- дача 6х10 з гаспадарчымі пабудовамі, маецца тэлефон, лазня, гараж, участак 50 сотак, сад. *Звяртацца: Магілёўская вобл, Глускі раён, п/а Клятное, МАРТЫНОВІЧ Л. Н. Тэл. (8-02230) 31-2-62.*
- зруб 7х11 з прыбудовай 4х7 і ўсе неабходныя будматэрыялы. *Звяртацца: Віцебская вобл., Лепельскі раён, в. Пышно. Тэл. 2-38-59.*
- прадаецца піяніна нямецкае, старадаўняе. Патрабуе невялікай настройкі, цана 250 $. *Тэл. (8-214) 45-6-77.*
- жэньшэнь, шмат, узрост 1÷15 гадоў, чакаю заказаў, прапаноў. *Тэл. у Слоніме 8(262) 73-2-06.*
- матацыкл «Днепр-11», 91 г. в., нядорага. *Тэл. у Мінску: 33-02-78, 33-39-27.*
- будматэрыялы: лес абрэзны на дом 8х9, дошкі неабрэзныя 25—30 мм, вокны; рухавік да ГАЗ-21 (на запчасткі). *Тэл. (8-01773) 22-2-47 у Маладзечна.*
- МАЗ-504, паўпрычэп ізатэрмічны, 25 т, 82 куб. м, магчыма порозь. *Тэл.: (8-02144) 62-1-41, 62-5-64 пасля 20 гадзін.*
- энцыклапедыя народнай медыцыны 1-ы том па атрыманню паштовага пераводу 60.000 руб. на адрас: 231300, г. Ліда, вул. Шубіна, 2А, кв. 15. БУЛАЮ М. М. *Тэл. у Лідзе 2-53-25.*
- драўляны дом, абкладзены цэглай, участак 18 сотак, у Стоўбцах. Звяртацца: г. Баранавічы. *Тэл. 2-71-59 у суботу і нядзелю.*
- кватэра 2-пакаёвая, тэлефон у г. Беразіно, альбо мяняю на дом у г. Смалявічах. *Тэл. у Беразіно (8-215) 56-5-30.*

## РОЗНАЕ

- электрычны ацяпляльна-воданагрэўны аўтаматычны комплекс для ацяплення і гарачага водазабеспячэння жылых памяшканняў. Магчымы варыянты выканання (душ «Шарко» і г. д.). Выканаем і ўстановім у любым пункце Беларусі. *Тэл. у Мінску 290-91-84.*
- паслугі пры дрэсіроўцы сабак у якасці памочніка. *г. Мінск. Тэл. 223-44-37.*
- мяняю дом у вёсцы на кватэру ў г. Паставы. Ёсць хлеў, лазня, сад, калодзеж. *Тэл. у Паставах 34-3-14.*
- прапаную манеты савецкіх гадоў. *Звяртацца: 231813, Гродзенская вобл., Слонімскі раён, в. Ашнаравічы, 66А, ЖУКОЎСКАМУ.*
- мяняю прыватызаваную аднапакаёвую кватэру ў г. Рэчыца на раўназначную ў г. Барысаве, магчымы варыянты. *Тэл. у г. Барысаве 2-29-58.*
- мяняю дом з тэлефонам, падвалам, гаспадарчымі пабудовамі ў г. Кіраўску, Магілёўскай вобл. на кватэру (дом) у г. Гродна. *Тэл. (8-02237) 22-3-87.*
- куплю танна новы матацыкл «Восход», альбо «Мінскі» можна прапаноўваць новы мапед. *г. Слонім. Тэл. (8-262) 73-2-06, Іосіф.*
- запрашаем на адпачынак у Эстонію. Заезды 6 і 19 жніўня на 12 дзён. Кошты нізкія. *Тэл. (8-017) 268-97-38.*
- мяняю 3-пакаёвую кватэру на 6 паверсе, 2 балконы ў г. Жлобіне на 3-пакаёвую ў г. Баранавічы. *Звяртацца: г. Жлобін, 17 мікраён, дом 16, кв. 192.*
- мяняю 2-пакаёвую кватэру з даплатай у Слоніме на кватэру ў Гродне. *Тэл. (8-0152) 72-50-50.*

З МНОГІХ ЗАХВОРВАННЯЎ найбольш складанымі і таямнічымі з'яўляюцца псіхічныя. І калі многія хваробы ўзніклі нядаўна (той жа СНІД уварваўся ў нашу цывілізацыю літаральна «на нашых вачах» гадоў дваццаць таму назад), то псіхічныя захворванні губляюцца ў глыбіні тысячагоддзяў. Успомнім, што і Хрыстос найперш вяртаў людзям розум, лячыў вар'ятаў.

Не толькі вылечыць псіхічна хворага чалавека складана, але і паставіць правільны дыягназ бывае не проста. Грань, якая падзяляе псіхіку на хворую і здаровую, даволі ўмоўная. Пры гэтым яе можна падняць ці апусціць у залежнасці ад асобнага індывідуума. Ды і што тут браць за адпраўны пункт? Многія геніяльныя людзі на бытавым узроўні ўспрымаліся, мякка кажучы, як псіхічна неўраўнаважаныя. Вядомы такі выпадак.

Адзін вучоны-філосаф пераехаў са сталіцы ў вёску. Там і жыў, забыты ўсімі. Але праз нейкі там час адна з яго прац стала вельмі папулярная і вучоны зрабіўся знакамітым.

У вёску прыехалі журналісты і спыталі ў першага сустрэчнага пра вучонага.

— Адкуль тут у нас вучоны? — здзівіўся селянін, — усе больш-менш адукаваныя ў горад падаліся.

Калі ж селяніну назвалі прозвішча філосафа, то ён усклікнуў:

— О-о-о, хто гэтага чокнутага не ведае?! Усё штосьці сам сабе гаворыць, гаворыць...

Заглянуць ва ўсе лабірынты мазгоў чалавека немагчыма, і многія яго ўчынкі цяжка растлумачыць. Вось і жывуць людзі з парушанай псіхікай у сваім, толькі ім вядомым свеце, які для здаровага чалавека даволі часта незразумелы, чужы і страшны.

У Брэсцкай вобласці ёсць тры псіхбальніцы. Яны, прыкладна, разлічаны на аднолькавую колькасць хворых і знаходзяцца ў Пінскім, Пружанскім і Ляхавіцкім раёнах. Кожная бальніца абслугоўвае свой рэгіён.

Бальніца ў Крывошыне, маленькім палескім мястэчку, ахоплівае шэсць раёнаў, пяць з Брэстчыны і адзін з Мінскай вобласці.

Сёння нашы бальніцы апынуліся ў складаным становішчы. Ёсць перабоі з медыкаментамі, з харчаваннем таксама пэўныя праблемы... У псіхбальніцы, са слоў галоўнага ўрача В. Млынчыка, з лякарствамі праблемаў няма, як і з прадуктамі. А вось на рамонт грошай не хапае, як няма за што купіць парашок для мыцця бялізны, ды і прасціны «аджылі» свой век. Гэта эканамічныя праблемы, але ў бальніцы яшчэ і свая спецыфіка, якая ставіць перад абслуговым персаналам дадатковыя праблемы.

Дарэчы , у бальніцы працуе 377 чалавек, а хворых 430, такі высокі працэнт персаналу выкліканы станам хворых. Многія з іх жывуць тут дзесяцігоддзямі. Звыкліся і іншага жыцця не ўяўляюць. Ёсць хворыя, якія не згубілі свае прафесіянальныя навыкі. Так, яны страцілі жыццёвую арыентацыю, але калі трэба змайстраваць раму ці дзверы, то могуць даць фору многім майстрам «адгэтуль». Ёсць і майстэрня, дзе хворыя шыюць халаты, піжамы, навалачкі... І ўсё ж пацыенты жывуць у нейкай сваёй абалонцы. У іх свае праблемы, свае

# ПА ДРУГІ БОК ЯВЫ

## АДЗІН ДЗЕНЬ У ПСІХБАЛЬНІЦЫ

сімпатыі, сваё каханне. Глядзяць каляровы тэлевізар і на свой лад успрымаюць наша жыццё.

Ідучы па палатах, міжвольна прыкмячаеш, што на тварах многіх хворых застыла міна адчужанасці. Вочы хоць і глядзяць на навакольны свет, але ўсё ж блукаюць унутры сябе.

Хворыя, якія знаходзяцца на вольным рэжыме, ходзяць па тэрыторыі, займаюцца нейкай справай. Некаторыя на першы погляд успрымаюцца як здаровыя людзі.

Маладая жанчына працавала ўрачом і раптам аб'явіла сябе прэм'ер-міністрам. Усё гэта набыло назойлівую форму, і ў выніку — бальніца.

Амаль усе хворыя маюць радню. Прывозяць бацькоў, сыноў, братоў... Пакідаюць у бальніцы і забываюць. Часам сваякі дзейнічаюць па вядомаму прынцыпу: «з рук далоў і з сэрца вон». Гэтых хворых ніхто не наведвае, не перадае перадач. Яны пакінуты, і з гэтым доўга не могуць змірыцца.

Але існуе яшчэ адна катэгорыя людзей, якія імкнуцца выкарыстаць хворых сваякоў да канца. Выціснуць з іх усё магчымае. Многія хворыя атрымліваюць пенсію па інваліднасці. Грошы накопліваюцца на рахунку хворага. Калі ж міне пэўны час, напрыклад, год, з'яўляецца сваяк. Прыносіць перадачу і на радасць хвораму аб'яўляе, што хоча забраць яго дахаты. Хворы прыязджае і забірае ўсю пенсію, а за год гэта немалыя грошы, у межах пяці мільёнаў. Мінае нейкі там тыдзень, і сваяк прывозіць хворага назад, у бальніцу, але ўжо без пенсіі. Праз пэўны тэрмін гэты ход паўтараецца. І радня ўважліва сочыць, каб усё заставалася ў такім стане і не дае згоды на перавод хворага ў дом-інтэрнат. А ўвесь сакрэт тут у тым, што пенсію ў інтэрнатах не атрымліваюць. Відавочна, гэта і правільна, бо пры іншых раскладах у накладзе застаецца дзяржава.

У бальніцу трапляюць людзі рознага ўзросту. Сёлета тут пабываў ужо сорак адзін прызыўнік. І гэта не сімулянты, наадварот, многія просяцца ў армію, бо з дыягназам псіхіятраў для маладых людзей узнікаюць абмежаванні на выбар прафесіі, ды і не толькі гэта. У нашым грамадстве да чалавека, які пабываў у псіхустанове, адносяцца насцярожана.

У час вайны браты Ш. служылі ў паліцыі, а затым апынуліся ў Англіі. Нашы спецслужбы сфабрыкавалі пісьмо ад радні, і старэйшы, Аляксей, вярнуўся. Тут яго і ўзялі ў абарот. Пасля гэтага ён трапіў у бальніцу і ўжо больш сарака гадоў знаходзіцца ў ёй. Але аднойчы радня яго ўзяла да сябе. Аляксей вёў сябе ціха і часам гаварыў абсалютна нармальныя рэчы. Расказваў, як ён, раскінуўшы рукі, ляжаў на вадзе, а марскія хвалі яго гушкалі. Вяскоўцы з яго смяяліся. Як гэта можна ляжаць на вадзе? Ды што ўзяць з вар'ята? А пра ўласцівасці салёнай вады хто ведаў?

Чалавек, які трапіў у псіхбальніцу, можа насіць кляймо ўсё жыццё. У мястэчках і малых гарадах схавацца ад людскіх вачэй цяжка, таму чалавек, адчуўшы псіхічнае недамаганне, імкнецца лячыцца далей ад месца пражывання. Вось і ў Крывошынскай бальніцы лечацца хворыя з розных месцаў Беларусі, ды і з іншых рэспублік былога Саюза.

Сярод хворых ёсць буяны, але найбольшы клопат ад алкаголікаў. Яны ўжо калі ўпадаюць у шаленства, то супакоіць іх цяжка. Для алкаголікаў адведзена трыццаць ложкаў. Лечацца ў асноўным мужчыны, але трапляюць і жанчыны. З лячэннем іх ёсць пэўныя цяжкасці, бо, як паказвае практыка, вылечыць жанчыну амаль немагчыма.

Наконт гэтай катэгорыі хворых няма канкрэтных законаў. Таму іх і трымаюць у бальніцы толькі 10 дзён, а затым выпісваюць.

На 1 ліпеня ў бальніцы знаходзяцца 62 чалавекі, якія лічацца небяспечнымі для грамадства. Былі выпадкі, калі хворыя з бальніцы ўцякалі, праўда, сваякі іх тут жа вярталі. Бліжэй да зімы ў бальніцу цягнуцца бамжы, каб перачакаць холад і голад.

Я іду з Валянцінам Васільевічам па палатах, і яго ўвесь час спыняюць хворыя. Галоўны ўрач ім штосьці гаворыць, тлумачыць, супакойвае... І тут мне ўспомніўся адзін з варыянтаў старога анекдота.

У доктара псіхбальніцы пытаюць:

— А што гэты хворы сядзіць у кутку і штосьці па сцяне пальцам водзіць?

— А гэта рацыяналізатар, думае над праблемай вечнага рухавіка, — сказаў доктар і тут жа даверліва паведамляе. — Толькі скажу вам па сакрэту, вечны рухавік я ўжо даўно зрабіў!

У гэтым анекдоце ёсць зерне ісціны. З кожным хворым трэба гаварыць на «яго мове», пераўвасабляцца, а інакш не будзе кантакту. І так кожны дзень, на працягу многіх гадоў.

Бальніца фактычна знаходзіцца на самазабеспячэнні. Ёсць 15 гектараў зямлі, сад, свінаферма, у наяўнасці коні і тэхніка, але адчуваецца, што тут далёка не ўсё ідэальна. Палаты перапоўнены. Ложкі стаяць упрытык. У пакоі знаходзяцца па дзесяць і больш чалавек. Вопратка хоць і чыстая, але моцна паношаная...

Даведаўся, што сюды ніводнага разу не паступала гуманітарная дапамога. Гоняць з Захаду фуры ў цэрквы і касцёлы, дамы Малітвы, дзе пасылкі раздаюць не самым бедным, а найбольш прыкладным і паслухмяным вернікам. Прыходзіцца бачыць горы старой вопраткі на складах-магазінах, якую камерсанты прадаюць на кілаграмы, хаця атрымалі са Швецыі дарма. Гэтых хворых грамадства адкінула, і толькі дзяржава клапоціцца пра іх.

Калі я пакідаў бальніцу, з атынкаванай сцяны фермы кудысьці міма мяне задумліва пазіраў намаляваны вугалем Ленін. Хворы мастак не прытрымліваўся кананізаванага вобраза і стварыў Ільіча, як жывога. А ў браме да мяне нечакана падскочыў мужчына ў бальнічным халаце. Чалавек, як чалавек. Глядзіць мне ў вочы і скардзіцца, што маці пра яго забылася, што доктар ужо шэсць месяцаў, як не гаварыў з ім, што трэба напісаць ліст, бо ў бальніцы крадуць соль, і таму нічога нельга есці...

Я абяцаў хвораму пра соль абавязкова напісаць.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

# СІФІЛІСАМ НА БЕЛАРУСІ ХВАРЭЮЦЬ ЧАСЦЕЙ, ЧЫМ НАВАТ ДЫЗЕНТЭРЫЯЙ

***Інфекцыйныя захворванні застаюцца галоўнай прычынай смерці ў свеце. Паводле даных Сусветнай арганізацыі аховы здароўя (СААЗ), у 1995 годзе ў свеце памерла ад розных хваробаў 52 мільёны чалавек, ад інфекцыйных захворванняў больш за 17 мільёнаў, што складае 33 працэнты.***

***Карэспандэнт «Звязды» сустрэўся з галоўным эпідэміёлагам Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь Анатолем КАЖАМЯКІНЫМ.***

**— Анатоль Кузьміч, статыстыка, якую прыводзіць СААЗ, шакіруе. Няўжо інфекцыйныя захворванні — гэта так сур'ёзна? Якія з іх найбольш небяспечныя?**

— Прыкладна 50 працэнтаў людзей усяго свету падвяргаюцца рызыцы розных інфекцыйных захворванняў. Сярод галоўных з іх, якія часта становяцца прычынай смерці, — вострыя рэспіраторныя інфекцыі, у тым ліку грып. Ад іх штогод памірае каля 4,4 мільёна чалавек, з іх 4 мільёны дзяцей. Другую пазіцыю займае туберкулёз, які штогод забірае 3 мільёны жыццяў, у асноўным дарослага насельніцтва. Дарэчы, туберкулёз сярод інфекцыйных захворванняў па смяротнасці цвёрда ўтрымлівае першую пазіцыю. Па прагнозах спецыялістаў у гэтым дзесяцігоддзі ён забярэ жыцці 30 мільёнаў чалавек. Нават СНІД з ім пакуль нельга параўнаць. За туберкулёзам адпаведна ідуць дыярыйныя хваробы, уключаючы халеру (3,1 мільёна смерцяў штогод), малярыю (2 мільёны), вірусны гепатыт В (1,1 мільёна), ВІЧ-інфекцыі (больш за адзін мільён смерцяў штогод), адзёр, стаўбняк, каклюш... Я назваў найбольш распаўсюджаныя захворванні. Акрамя гэтага за апошнія 20 гадоў з'явілася каля 30 новых інфекцыйных захворванняў. Самы яркі, можна сказаць, класічны прыклад, — СНІД. Трэба назваць і ліхаманку Эбола, успышкі якой у мінулым, ды ўжо і ў гэтым годзе былі зарэгістраваны ў Заіры, Конга, Сьера-Леоне, ханта-вірусны лёгачны сіндром, які гады два таму выклікаў значны перапалох у ЗША, і губкападобную энцыфалапатыю (шаленства кароў) у Англіі... Жыццё не стаіць на месцы. І інфекцыі таксама эвалюцыяніруюць, з'яўляюцца новыя, вяртаюцца старыя. У Еўропе сёння з'явіліся і ўкараніліся тыя захворванні, якія спецыялісты лічылі пройдзеным этапам. Гэта той самы туберкулёз, халера, дыфтэрыя...

**— А як справы з інфекцыйнымі захворваннямі на Беларусі? Напэўна, сёння ўжо можна падвесці некаторыя вынікі...**

— Інфекцыйную сітуацыю ў Беларусі нельга ахарактарызаваць як адназначна добрую або як адназначна дрэнную. Паказчыкі па адных інфекцыйных захворваннях у нас ідуць на зніжэнне, па іншых — растуць. За 6 месяцаў гэтага года па рэспубліцы знізілася захворваемасць на сальманелёз, каклюш, эпідэмічны паратыт, адзёр, вірусны гепатыт А, педыкулёз і каросту. Назіраецца рост дызентэрыі на 10 працэнтаў (зарэгістравана 2128 выпадкаў), на 35 працэнтаў вырас туберкулёз органаў дыхання (2170 выпадкаў), кішэчныя інфекцыі — з 8590 да 8940 выпадкаў, вірусны гепатыт В — з 713 да 790 выпадкаў. Значна (на 60 працэнтаў!) павялічылася колькасць выпадкаў захворвання на сіфіліс (з 6150 да 9781). Сіфіліс увогуле становіцца праблемай для рэспублікі: выпадкаў захворвання стала больш, чым захворванняў на дызентэрыю... Самыя вялікія паказчыкі сіфілісу па Мінску — 2560 выпадкаў, па Гомельскай вобласці — 1569, Магілёўскай — 1438 выпадкаў. Чатыры чалавекі памерлі...

За 6 месяцаў гэтага года выяўлена 17 носьбітаў ВІЧ-інфекцыі. За ўвесь мінулы год было выяўлена толькі 8 чалавек.

Трэба зазначыць, што па рэспубліцы даволі высокі ўзровень паразітарных захворванняў. Такім распаўсюджаным захворваннем, як энтарабіёз, за 6 месяцаў гэтага года захварэла 43 тысячы чалавек, з іх 39 тысяч дзяцей, аскарыдозам захварэла 25 тысяч чалавек, трыхацыфалёзам захварэла 5,5 тысяч чалавек, трыханелёзам (вельмі небяспечнае захворванне, якое можа закончыцца летальна) перахварэла 69 чалавек. Гэта вельмі сумная статыстыка. Хоць паразітарныя захворванні і не такія цяжкія (за выключэннем трыханелёзу), яны, як правіла, не заканчваюцца інваліднасцю ці, тым больш, смерцю, але таксама аказваюць адмоўны ўплыў на арганізм. У прыватнасці, даказана, што ў людзей, якія хварэюць паразітарнымі захворваннямі, няма адэкватнай рэакцыі на прышчэпкі.

Дыфтэрыі ў гэтым годзе зарэгістравана 86 выпадкаў, што на 60 менш, чым за аналагічны перыяд мінулага года. Спадзяёмся, што пасля антыдыфтэрыйнай кампаніі, якая зараз праводзіцца, становішча з гэтым захворваннем зменіцца да лепшага.

**— Дарэчы, па прышчэпках... Анатоль Кузьміч, былі выпадкі, калі некаторыя людзі пасля ін'екцый адчувалі сябе дрэнна?..**

— Так, сапраўды, былі такія выпадкі. Гэта натуральная рэакцыя арганізма на вакцыну. Калі ж рэакцыі няма, гэта значыць, што ці вакцына дрэнная, ці арганізм ненармальна спрацаваў. Іншая справа, што ў адных гэта рэакцыя больш слабая, у другіх больш моцная: даходзіць нават да павышэння тэмпературы, з'яўляюцца пухліны на месцы прышчэпкі... Аднак колькасць рэакцый не перавысіла адзін працэнт ад колькасці дапушчальных.

**— У пацыентаў былі нараканні на венгерскую вакцыну. Ці мелі яны рацыю?**

— Мы выкарыстоўвалі розную вакцыну: расійскую, французскую, італьянскую, канадскую, венгерскую... І вось толькі венгерская давала некалькі большую ў параўнанні з астатнімі вакцынамі колькасць рэакцый, аднак яна ўсё роўна ўкладвалася ў дапушчальны працэнт. Венгерская вакцына мае сертыфікат якасці і адпавядае ўсім патрабаванням і стандартам Сусветнай арганізацыі аховы здароўя.

**— Чаго апасаецца айчынная эпідэміялогія ў бліжэйшай перспектыве?**

— Асенні ўздым захворванняў у нас яшчэ наперадзе. Баімся мы ў першую чаргу, вядома ж, халеры, хоць гэта ўжо і не тая халера, што была паўстагоддзя таму. Летальнасць у сярэднім па Еўропе і ў Лацінскай Амерыцы складае адзін працэнт. Са ста хворых памірае толькі адзін чалавек, а яшчэ нядаўна памірала 50—60 працэнтаў хворых. Як піша СААЗ, наяўнасць выпадкаў смерці ад халеры і дыфтэрыі ў Еўропе сёння з'яўляецца «непаразуменнем». Аднак калі не прымаць захадаў, ад дызентэрыі можа захварэць сям'я, а ад халеры пацерпіць людзей на шмат больш. Апошнія два гады ў нас было па тры выпадкі завозу халеры: у 1994 годзе 3 выпадкі завозу з Турцыі, а ў мінулым годзе два з Індыі і адзін з Адэсы. У гэтым годзе пакуль спакойна.

**Гутарыў Сяргей ПРОТАС.**

# ЛЕТА — ПАРА АДПАЧЫНКАЎ. ВЫ ВЫРАШЫЛІ ПАДЛЯЧЫЦЬ ЗУБЫ?

## Калі ласка — вашай увазе — расцэнкі некаторых стаматалагічных цэнтраў г. Мінска

| Від паслугі і кошт / Назва прадпрыемства | Лячэнне (кошт адной пломбы) | Пратэзіраванне | | Анестэзія |
|---|---|---|---|---|
| | | металакераміка | металіч. каронкі | |
| Дэ-пілс | 150 тыс. і вышэй | 800 тыс. | 200 тыс. | 63 тыс. |
| Палі | 22$ | 70$ каронка, 65$ -- зуб | - | 9$ |
| Лячэбны пункт Метрапалітэна | 150-- 180 тыс. | - | - | 35 тыс. |
| Ладэ | 160-- 400 тыс. | 860 тыс. | 400 тыс. | 3$ |
| Полстар | 210 тыс. і вышэй | 885 тыс. | 135 тыс. | 40 тыс. |
| Славянка | 28$--50$ | 65$ каронка +10$ работа | - | 5$ |
| Медыкоп | 14$ і вышэй | 60$ | 120-- 130 тыс. | 38 |

**Падрыхтавала Яна САВІЦКАЯ.**




**Малюнак Леаніда РАЗЛАДАВА.**

**Анатоль ГЛЮКАЎ:**

# «КУЛАЧНАЕ ПРАВА НЕ БУДЗЕ ЎЛАДАРЫЦЬ У БЕЛАРУСКІМ ВОЙСКУ»

***Наша газета не раз засяроджвала ўвагу чытачоў на негатыўных сітуацыях, якія складваюцца ў сучасным беларускім войску: словы «дзедаўшчына» і «нестатутныя адносіны» сталі жахам для многіх бацькоў, якія адпраўляюць сваіх сыноў на службу. Таму з набалелым мы звярнуліся непасрэдна да Беларускага ваеннага пракурора — намесніка Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь Анатоля ГЛЮКАВА.***

**— Анатоль Карнеевіч, якая ж, на ваш погляд, зараз сітуацыя з дысцыплінай у войску?**

— З самага пачатку хацелася б правесці своеасаблівую гістарычную паралель: як было да развалу СССР і пасля. Уся справа ў тым, што асноўная частка негатыўных з'яў у войску пачала праяўляцца пасля 1991 года. Дагэтуль Беларуская ваенная акруга была найбольш спрыяльнай сярод усіх ваенных фарміраванняў Саюза. З развалам СССР уся гэта наладжаная сістэма прыйшла ў заняпад. Самы цяжкі перыяд — пачатак стварэння беларускай арміі, тады злачыннасць узрасла ў некалькі разоў. Зніклі камсамольская арганізацыя і ўсе тыя ўстановы, якія непасрэдна займаліся выхаваннем падрастаючага пакалення. Да таго ж, з беларускага войска лепшыя афіцэрскія кадры пайшлі ў Расію, а да нас прыбылі не зусім добрыя. Таму што Вярхоўны Савет прыняў тады закон, згодна з якім тыя, хто праслужыў пятнаццаць гадоў, мелі права звольніцца і атрымаць жыллё. І ўвесь афіцэрскі састаў не лепшай якасці з розных куткоў былога Саюза кінуўся тады да нас. А што ж, спакуса вялікая, рапарт на стол — і атрымлівай сабе кватэру. Разбазарылі жыллёвы фонд, а зараз не можам забяспечыць нікога ўласным кутком. А што такое афіцэр без кватэры, калі ў яго і дзеці малыя, і жонка нідзе не працуе? Аб якім тады выхаванні салдат ён можа думаць?

У 1991—1993 гадах на фоне агульнага росту злачынстваў у войску ўзраслі крадзяжы. Час быў такі — усеагульная міграцыя, падзел маёмасці. Везлі і з Заходняй групы войск, і з Беларусі, усё пераблыталася і канцы цяжка было знайсці. Вось, напрыклад, самая тыповая сітуацыя: даюць камандзіру батальёна загад — даставіць разам з чатырма салдатамі вагон тэхнікі з Германіі ў Полацк, а потым адразу ж адпраўляцца на далейшае месца службы ў Ліпецк. Ён прыязджае ў Полацк, а там нічога ведаць не ведаюць, прыходзіцца амаль кідаць той вагон і імчацца ў Ліпецк. І так паўсюдна. Крадзяжы сталі тады нават нейкім атрыбутам, агульная сітуацыя ў войску набліжалася да катастрафічнай.

Зараз мы назіраем сапраўды перыяд стабілізацыі — у 1994 годзе росту злачынстваў не заўважана, а летась адбылося скарачэнне па ўсіх відах амаль на 40 працэнтаў.

**— За кошт чаго такія пазітыўныя змены?**

— За кошт энергічных дзеянняў міністэрства абароны, Савета бяспекі і самога Прэзідэнта. І я тут ніколькі не «ляскаю па ботах», а адлюстроўваю рэальныя прычыны. Вы паглядзіце, колькі Прэзідэнт ездзіць па розных вайсковых часцях, даходзіць нават да роты, прысутнічае на ваенных калегіях. Ну і вялікую ролю адыграла прынцыповая пазіцыя Беларускай ваеннай пракуратуры, якая, нягледзячы на рэгаліі, праводзіла барацьбу са злачынствамі ў войску. Дзесяткі самых высокапастаўленых афіцэраў зараз знаходзяцца пад следствам па абвінавачванню ў самых розных брудных справах, якія знеслаўляюць гонар беларускага войска. Ведаеце, раней толькі і чулася з усіх бакоў пра тое, што, маўляў, генералы і палкоўнікі будуюць сабе дачы салдацкімі рукамі. Зараз усё гэта амаль у мінулым, існуюць, праўда, выпадкі, але іх няшмат.

**— За шэсць месяцаў бягучага года злачыннасць у войску таксама на мінусах у суадносінах да такога ж перыяду мінулага года?**

— Так, наша ведамства зусім нядаўна падводзіла вынікі за першую палову 1996 года, і, трэба адзначыць, што тыя пазітыўныя працэсы, якія пачаліся летась, працягваюцца. Усяго за паўгода ва ўсіх абслугоўваемых намі войсках было ўчынена 400 злачынстваў, за такі ж перыяд мінулага года — 491. Ва Узброеных Сілах злачыннасць панізілася на 21 працэнт. Чаму я выдзяляю Узброеныя Сілы? Уся справа ў тым, што Беларуская ваенная пракуратура курыруе не толькі Узброеныя Сілы, а і ўнутраныя, пагранічныя, чыгуначныя войскі. На 8 працэнтаў па ўсіх групах войск скараціліся цяжкія злачынствы — вельмі добры паказчык. Узрасла ў гэтым годзе толькі колькасць выпадкаў нестатутных узаемаадносінаў.

**— У чым асноўныя прычыны такога росту?**

— Агульная сітуацыя ў грамадстве, таму што войска не адгароджана сцяной ад тых з'яў, якія там адбываюцца. Мы ж усё бачым па тэлевізары: і заказныя забойствы, і рэкет, за некалькі месяцаў, адзеўшы пілотку і боты, людзі не становяцца іншымі. Зараз нестатутныя адносіны набываюць карыслівую матывацыю. Калі раней у асноўным усе яны былі проста пабудаваны на ўзаемаадносінах, нейкай псіхалагічнай несумяшчальнасці — ты мне не спадабаўся, я табе і ў твар кулаком заеду, то зараз парушальнікі дысцыпліны патрабуюць ад сваіх «апанентаў» матэрыяльных каштоўнасцей (грошай, бутэлькі). Кулачнае права, наогул, ніадкуль не бярэцца — усё прыходзіць з вуліцы. А што тычыцца тых, што былі раней, то гэта ў асноўным былі нядбайныя, пакажыце мне хоць аднаго выдатнага, добрасумленнага салдата, якога хтосьці пабіў. Чаму ўзрасла колькасць нестатутных адносінаў? Адносіны да службы змяніліся. Раней, каб зарабіць адпачынак, трэба было працаваць і працаваць, а зараз па загаду Вярхоўнага Савета кожны салдат мае права на абавязковы адпачынак. Гэта прывяло да таго, што ў бягучым годзе ў момант знаходжання ў размяшчэнні часці было ўчынена 246 злачынстваў, а па-за часцю — 154. Тут яўная віна бацькоў, якія не выхоўваюць сваіх дзяцей і, акрамя таго, дазваляюць ім весці «канапавы» стыль жыцця — паваляўся, магнітафон паслухаў, пайшоў да сяброў, гарэлкі папіў, пабіўся на дыскатэцы... Бацькі за ўсім гэтым спакойна назіраюць.

**— Ці прымае Беларуская ваенная пракуратура пэўныя меры, каб папярэдзіць злачынствы?**

— Абавязкова. Мы вядзём прафілактычную работу, выяўляючы своеасаблівую «групу рызыкі». Вывучаем салдат, як яны сябе паводзяць: той схіляецца да спіртнога, той ходзіць са звярыным выскалам... З такімі ненадзейнымі праводзім гутаркі. Папярэджваем: ты пад кантролем, і калі зробіш нешта незаконнае, будзеш мець самыя жорсткія вынікі. Трэба, каб усе салдаты ведалі — галоўны прынцып работы Беларускай ваеннай пракуратуры — прынцып непазбежнасці пакарання. Памятаеце, як у Дастаеўскага? Злачынства — і адразу пакаранне, у непарыўнай сувязі. Асабіста я ніколі не схіляюся на бок прафесарскай жонкі, лямантуючай у маім кабінеце, каб яе сына адпусцілі. Бо чым яе дзіця лепшае за тое, якога збіваў прафесарскі сынок.

**— Мог бы генерал-маёр Глюкаў даць парады бацькам, якія адправілі сына ў войска?**

— Па-першае, адразу хацелася б звярнуцца да бацькоў з просьбай: калі да вас прыязджае ваш сын на пабыўку, у звальненне, ці на адпачынак, памятайце аб тым, што за яго адказваеце толькі вы. Не ўцягвайце сваё дзіця ў п'янства, кантралюйце з кім ён ладзіць свае адносіны, у якой кампаніі бавіць час. Больш займайцеся выхаваннем яго асобы, звяртайце ўвагу на духоўны ўзровень свайго сына. І, па-другое, калі ад яго паступіць нейкая скарга, звяртайцеся ў ваенную пракуратуру па месцы жыхарства (такія, акрамя ўсіх абласных цэнтраў, ёсць у Полацку, Барысаве, Баранавічах, Мар'інай Горцы, Слуцку), ці ў грамадзянскую пракуратуру, і пакідайце там заяву аб маючым месца факце недарэчнасцей з вашым сынам. Можаце пісаць і асабіста мне: 220003, Мінск, вуліца Фрунзе, 19, Беларуская ваенная пракуратура. Вашы заявы скароцяць наш час на выяўленне парушэнняў і паскораць працэс навядзення парадку ў войсках. Вельмі часта людзі, сутыкнуўшыся са збіццём уласнага дзіцяці ў войску, не вераць у тое, што Беларуская ваенная пракуратура разбярэцца. Магу адразу запэўніць: разбярэцца і прыме неабходныя меры. Зараз дысцыпліна ў нашым войску паступова становіцца на неабходны ўзровень, і можна сказаць, што ў беларусаў ужо ёсць сапраўднае войска. Аб чым сведчыць і павелічэнне аўтарытэту — конкурс у сувораўскім вучылішчы складае амаль дзесяць чалавек на месца. У Ваеннай акадэміі — па шэсць. Так што падрастаючае пакаленне не губляе веры ў войска і не павінна губляць. Ваенная пракуратура не толькі выяўляе, але на аснове злачынстваў імкнецца распрацоўваць пэўныя прапановы да Міністэрства абароны, якія праз нейкі час паступаюць у войска. Кулачнае права не будзе ўладарыць сярод салдат і сяржантаў. Толькі служыце аддана і не мірыцеся ніколі з несправядлівасцю, бо ёсць і заўсёды застанецца такая прафесія — абараняць Айчыну.

**Гутарыў Мікалай ЛІТВІНАЎ.**



***Іншы раз у глыбінцы, у самай глухой вёсачцы, сустрэнеш чалавека вельмі прыкметнага, творчага.***

***У Слабодцы, што на Браслаўшчыне, жыве Пётр Іванавіч Залеўскі, народны майстар, рэзчык па дрэву. Разьбой ён заняўся, калі яму пераваліла за шэсцьдзесят гадоў. Многія яго скульптуры звязаны з біблейскімі сюжэтамі. У іх і незвычайнасць формы, і прапорцыі фігур. Майстар робіць сваіх герояў такімі, якімі іх бачыць, таму яны своеасаблівыя і жывыя. На сваёй сядзібе, каля дарогі, Пётр Іванавіч зрабіў выстаўку скульптур для ўсіх, хто праязджае і праходзіць міма.***

**Уладзімір ФЯДОТАЎ.**

# ЛЮСТЭРКА ДЛЯ САЛЮТУ

**М**АЁ ПАКАЛЕННЕ, выхаванае на перабудове з галоснасцю, якое не паспела стаць «калёсікам і вінцікам цэласнага механізму» пры Брэжневе, але засвоіла напамяць цытаты з Леніна, нехта назваў «страчаным». У такім разе сённяшнія пенсіянеры — «страчаныя» ўдвая. Пры іх жыцці ідэалы развенчваліся мінімум двойчы, а пры сённяшнім становішчы многія ўвогуле не вераць больш ні ўва што. Напрыклад...

Напрыклад, свайго старога суседа я аднойчы давяла да слёз. Знянацку. Звоніць у дзверы, адчыняю — чую пах піва і просьбу дзверы дапамагчы адамкнуць. Корпаюся.

— Вас як завуць?

— Мяне? Ды Лёнька! — гаворыць ён так, нібыта пра некага трэцяга, каго ён сам не паважае, але хто круціцца пад нагамі, і ўсё тут.

— А па бацьку?

Замок адчыняецца, а «Лёнька» здзіўлена маўчыць. Нарэшце выціскае, што Леанідам Міхайлавічам, але гэтак клікалі вельмі даўно. Яшчэ «перад пенсіяй».

— Ды я нічога, — апраўдваецца раптам дзед, — я проста ў краму схадзіў, пенсію замочваў, купіў сёе-тое, пакуль ёсць на што...

Хапаю сваю сумку, ляскаю замком, лячу ўніз па лесвіцы. Часу няма яго слухаць!

— Грошы засталіся?

Тут на суседа нападае стаўбняк. У вачах разгубленасць. Я працягваю яму нейкую пяцёрку: «Хай будзе...» Збягаю пралёт, абарочваюся: у старога з вачэй бягуць слёзы.

***

Потым мы сутыкаемся з дзядулем у двары. Не раз і не два. Заўсёднікі лавачак, старэйшае пакаленне пад'езда, Леаніда Міхайлавіча вельмі паважаюць. Лёньку — не вельмі. Леанід Міхайлавіч прайшоў вайну, быў лётчыкам, і бабулькі згадваюць пра яго як пра героя. Лёнька не такі. Ён, калі атрымлівае пенсію, адразу частку хавае сам ад сябе ў добрай суседкі, цёткі Ніны. Каб не растраціць лішняе, а то і проста не прапіць.

Дзеду Лёньку хранічна падтрэбен слухач. Яго адзіная сяброўка, чорная кошка Кацька, не п'е малако, а любіць мінералку. Яго сын, чалавек з незразумелым болем у вачах, нявестка, кампанейская, баявая, вясёлая жанчына, заходзяць да дзеда амаль штодзень. Але ўсё роўна слухач патрэбен! Мне, маладой суседцы, дзед прапануе то дапамагчы па гаспадарцы, то паслухаць праўду пра вайну.

— Калі-небудзь, — згаджаюся я. — Няма часу, — і жыццё коціцца далей, як завядзёнае, па крузе, нібы стрэлка майго гадзінніка...

— Вось вашыя грошы, — з годнасцю зайшоў да мяне стары пасля таго выпадку. — Я не жабрак, мне даўгі не патрэбныя. Дзякуй. — А сам увесь адпрасаваны, бы на парад сабраўся. Безумоўна, гэта быў водгук дзедавага мінулага з расказаў бабак на лавачках.

Праз квартал ад майго дома, згадала я аднойчы, памерла даўней бабуля ў сяброў. Калі я была ў іх доме першы раз, бабуля раптам мяне... пазнала! Адкуль?!

— Не перажывай, гэта ёй, бывае, здаецца, што яна ў шпіталі, шпіталь бамбяць, а «сястрычкі»-медсёстры ўсіх ратуюць.

Я аказалася падобнай знешне на адну з тых самых «сястрычак» бабулінай маладосці...

***

Напярэдадні 9-га Мая нявестка дзеда Лёні сказала: «Трэба ім, бацькам, зрабіць свята. Спяку пірог, яны начэпяць ордэны з медалямі, пойдзем пагуляем у парк які...» У той жа дзень у мой кабінет у рэдакцыі нясмела прасунулася галава пажылой, дробненькай, нібы спужанай, жанчынкі.

— Памятаеце мяне?

Я сказала «так», але яна нагадала: «Я зноў да вас, бо вы адна са мной хораша гаварылі». Так мяне западозрылі ў альтруізме. Хаця тым снежаньскім вечарам, пасля рабочага дня, слухаючы яе, я проста нікуды не спяшалася і чакала тэлефанавання.

Бяда бабулі... дакладней, Ірыны Канстанцінаўны была ў нейкай паперцы. У яе, адзінокай, памёр брат, кватэру апячаталі і туды нікога, вядома, не пускаюць.

«А калі брата забілі? — плача бабуля. — Хто скажа? Кватэра, можа, каму спатрэбілася... А як заўтра мая некаму спатрэбіцца? — і дадае, што на яе ўсе чыноўнікі толькі крычаць, і ўвогуле: яна нікому не патрэбная, і ёй «страшна жыць на гэтым свеце...»

За паўгода патрэбную паперку ў ЖЭК яна чамусьці так і не прынесла, ёй здаецца, што рэчы братавы даўно ўкралі...

Моўчкі, бязадрасна злуючыся, я еду разам з бабуляю ў той ЖЭК. Проста стаю з ёю, але, па шчасліваму супадзенню, сёння на яе ніхто не крычыць, а даведка ад натарыуса знаходзіцца. Маладая жанчына, пакуль ЖЭК рыхтуецца да адзначэння Дня Перамогі, вядзе нас з бабуляй адчыняць кватэру яе нябожчыкабрата: «Толькі хутчэй, рэчы дапаможам вам забраць потым на машыне». Увайшоўшы, старая пачынае прычытаць над кожным сувенірам, які ёй нагадвае святы, бо быў яе падарункам. Мы з жанчынаю з ЖЭКа ўздыхаем і пераглядваемся.

— Яны ўсе так, — кажа жанчына. — Надакучылі — не ўяўляеце як! Гэта пакаленне перажыло вайну, нястачу — ім здаецца, што некаму сапраўды патрэбна іх «багацце»! — Мы моўчкі глядзім на старэнькую мэблю...

Праз нейкі час Ірына Канстанцінаўна з клункам даганяе мяне на вуліцы. А праз хвіліну мы ўсчыняем сапраўдны скандал! Людзі азіраюцца... Гэта мне спрабуюць сунуць у кішэню грашовую адзінку. Яна, пенсіянерка! Навошта? За што?!

— Вы адна, хто са мной размаўляў нармальна...

Божа!..

***

Толькі прыходжу дамоў, мне ў дзверы звоніць чалавек у міліцэйскай форме.

— Ведаеце што-небудзь?..

Вядома, я не ведаю.

Я амаль не звярнула ўвагі на чырвоную пляму на лесвіцы. Кроў? Але ж у нас заўсёды спакойна. Некалі малалеткі ў пад'ездзе курылі «траўку» — іх разагналі. Хлопцы суседскія толькі спяваюць пад гітару. Раней пастрэльвалі дзеці петардамі ды, кажуць, часам «аўтарытэты». Якія тут яшчэ, кажуць, парадак і падтрымліваюць.

Не ведаю, не ведаю... Але парадак ёсць. Ніхто ніколі не б'ецца.

— Ваш сусед памёр, — кажа міліцыянер.

Леанід Міхайлавіч аказаўся маладым: крыху за шэсцьдзесят. Атрымаў сёння пенсію, схаваў частку ў суседкі і пайшоў. Ішоў назад, напэўна, як заўжды — «замачыўшы» радасць. Упаў. Вось адкуль крывавая пляма...

Ён зайшоў дадому і сказаў нявестчынай маці:

— Вось, прадукты купіў, нясі ў кухню. А я трохі паляжу...

Лёг на дыване каля канапы і больш не ўстаў.

А старая села на канапку ды чакае дзяцей. Што з яе возьмеш? Аднойчы ноччу ёй здалося, што немцы акружаюць вёску. Дзеці прачнуліся ў суседнім пакоі ад паху палёнага. Замкнуўшы дзверы, бабуля падпаліла сваё жытло. Няшчасную тады ледзь уратавалі... За апошнія гады ў гэтай сям'і амаль штогод хтось памірае. «Як хто выкляў», — кажа дзедава нявестка.

А ў моргу, куды адвезлі былога абаронцу Айчыны, яго сваякі сутыкнуліся з... бізнесам.

Май быў спякотны, ды яшчэ выхадныя — святы... Самі разумееце. «Вашаму трупу патрэбен цэлафан», — сказалі сваякам. «А халадзільнікі?» — «Эканомія электраэнергіі. А цэлафан купляйце ў нас. Здзяром нядорага...» І мой сусед «паехаў» у наш прыгожы мінскі крэматорый.

***

...9-га мы з сябрамі апынуліся ў парку. Было весела. У ціры, што трапіўся, перастралялі ўсе бляшанкі з-пад піва ды колы. Гэткі салют атрымаўся.

Ужо вечарам я згадала, што сюды, у парк, збіраўся сусед. А тут яшчэ нешта грымнула, і радаснае працяжнае вітанне свята пранеслася з нашага двара да цэнтра сталіцы. Дзеці і бацькі сабраліся на ганку кінатэатра, адкуль лепш відаць. Зноў грымне, і зноў «ура...» Жыццё працягваецца!

У цёмным акне дзеда Лёнькі ўспыхваюць і гаснуць каляровыя водбліскі салюту Перамогі. Як у люстэрку. Ніхто ў яго не глядзіць і больш не гляне. Часу няма! І рука дзедава сына-«афганца» зноў недзе цягнецца да келіха з горкім напоем, а жонка яго зноў, як казала мне, паўторыць:

— А што толку? Назмагаліся. І ён, і ты ў сваім Афгане... Што яшчэ шукаць? — і, напэўна, таксама шукае ў кухні келіх. А маці яе бездапаможна маўчыць. Мяне з імі няма, і гэтае маўчанне мяне не цісне, і не трэба глядзець на гадзіннік, каб пачаць спяшацца...

Але колькі іх, такіх люстэркаў?

**Таццяна СНІТКО.**

*ЗОНА АСАБЛІВАЙ УВАГІ*

# *Ігар РАЛЕВІЧ:* «КАНЦЭПЦЫЯ АБАРОННЫХ МЕРАЎ У АДНАЎЛЕНЧЫ ПЕРЫЯД...» ПАТРАБУЕ ДАПРАЦОЎКІ»

**Аглядальнік «Звязды» гутарыць з першым намеснікам міністра па надзвычайных сітуацыях і абароне насельніцтва ад вынікаў аварыі на ЧАЭС Ігарам РАЛЕВІЧАМ.**

**— Званкі і пісьмы ў рэдакцыю «Звязды» сведчаць, што наш чытач не да канца зразумеў тыя новыя падыходы, якія з'явіліся апошнім часам у пераадоленні наступстваў чарнобыльскай катастрофы. У прыватнасці, шмат пытанняў па «Канцэпцыі абаронных мераў у аднаўленчы перыяд...», распрацаванай пад кіраўніцтвам Я. Пятраева і зацверджанай Кабінетам Міністраў. Растлумачце, калі ласка, у чым яе прынцыповае адрозненне ад тых, па якіх мы жылі раней.**

— Для пачатку скажам, яна ўводзіць у абарачэнне новае паняцце: «аднаўленчы перыяд». Распрацоўшчыкі лічаць, што ён пачаўся ўжо і будзе доўжыцца столькі часу, колькі будзе неабходна для паступовай адмены мерапрыемстваў па радыяцыйнай абароне, і стварэння ўмоў для вяртання да звычайнага ўкладу жыцця на забруджаных тэрыторыях. Зразумела, што гэта адбудзецца не хутка.

Адна з важнейшых асаблівасцей Канцэпцыі — крыху зменена тэрытарыяльнае дзяленне для правядзення мераў радыяцыйнай абароны і, адпаведна, пераглядаюцца самі меры. Выдзелены тры тыпы тэрыторый. Па-першае, тыя, дзе сярэдняя гадавая доза апраменьвання не перавышае 1 мілізіверт. Пражыванне людзей і гаспадарчая дзейнасць тут не абмяжоўваюцца, а ўказаная доза дадатковага апраменьвання насельніцтва ад радыеактыўных рэчываў з'яўляецца дапушчальнай. Тут будзе праводзіцца маніторынг забруджвання аб'ектаў вонкавага асяроддзя і сельскагаспадарчай прадукцыі з мэтай ацэнкі дозаў апраменьвання насельніцтва і, пры неабходнасці, рэалізацыі лакальных мераў радыяцыйнай абароны.

Затым выдзелены тэрыторыі ад 1 да 5 мілізівертаў. На іх будуць праводзіцца маніторынг і мерапрыемствы па зніжэнню дозаў апраменьвання.

**— А што з пражываннем людзей?**

— Іх адсяленне, зыходзячы з асноўных прынцыпаў радыяцыйнай абароны, прызнана немэтазгодным.

І, нарэшце, тэрыторыі, дзе сярэдняя гадавая доза перавышае 5 мілізівертаў. Пражыванне людзей не рэкамендуецца, а гаспадарчая дзейнасць абмяжоўваецца.

**— Канцэпцыя выклікала неадназначныя да сябе адносіны сярод вучоных і ў грамадстве. Было шмат крытыкі.**

— Яна гучыць і сёння. Многія навукоўцы не могуць пагадзіцца з самім тэрмінам «аднаўленчы перыяд», лічачы яго заўчасным і заспакойваючым. Распрацоўшчыкаў вінавацяць таксама ў тым, што яны апіраюцца на даныя аб сярэднегадавых эквівалентных дозах апраменьвання, а не на сумарных дозах, назапашаных за ўвесь перыяд пасля аварыі на ЧАЭС.

**— А чаму сапраўды не апірацца б на сумарныя значэнні атрыманых насельніцтвам доз за ўсе гады пасля аварыі? Тады ж будзе зусім іншая «арыфметыка».**

— На жаль, такіх даных пакуль што мала. Некаторыя з іх трэба ўзнаўляць. І яшчэ адна прычына. Чалавечы арганізм — не пасіўны накапляльнік радыенуклідаў, ён мае ўласцівасць іх і выводзіць. Няварта скідваць з рахунку і тое, што дзяржавай, медыкамі прымаліся захады, каб зменшыць радыяцыйны «прэсінг» на тэрыторыі і на чалавечы арганізм. Затрачаны каласальныя сродкі. Так што трэба яшчэ разбірацца, наколькі сумарныя значэнні могуць даць сёння аб'ектыўную карціну. Хаця метад гэты нельга адвяргаць «злёту». Існуе пагадненне з Расіяй аб правядзенні сумесных комплексных даследаванняў.

**— А ўвогуле, як вы, адзін з распрацоўшчыкаў новай Канцэпцыі, успрынялі крытыку?**

— З крытыкі заўсёды трэба рабіць вывады. І згаджацца там, дзе апаненты больш маюць рацыю, чым ты сам. Я сапраўды прымаў удзел у распрацоўцы дакумента, але ў рэшце рэшт не падпісаў яго канчатковы варыянт, бо не з усімі пазіцыямі згодзен.

**— Калі не сакрэт...**

— Я таксама лічу, што сярэднегадавую дозу апраменьвання трэба ацэньваць па так званых крытычных групах насельніцтва, а не проста выводзіць нейкую сярэднюю велічыню па населенаму пункту. Варта было больш поўна распрацаваць і меры па сацыяльнай, медыцынскай абароне, у прыватнасці, сацыяльна-псіхалагічнай падтрымцы жыхароў пацярпеўшых раёнаў, якія атрымалі доўгатэрміновы стрэс. Так што дакумент у многім — «сыры», тэзісны, яго трэба было б дапрацаваць. Мы нават уваходзілі з прапановай аб яе адкліканні — менавіта на дапрацоўку.

Адно супакойвае, што гэта толькі чарговы крок, не больш. Кіраўніцтва да дзеяння для нас, чыноўнікаў, як праводзіць абарончыя меры на месцах. Значэнне дакумента не варта перабольшваць.

**— Як і змяншаць, праўда? Тым больш, што ўслед за афіцыйным прызнаннем новай Канцэпцыі былі прыняты і практычныя меры. У лютым гэтага года Кабінет Міністраў зацвердзіў новы Пералік тэрыторый (населеных пунктаў і іншых аб'ектаў), што адносяцца да зонаў радыеактыўнага забруджвання. Ён істотна адрозніваецца ад ранейшага спісу. Населеныя пункты, якія не ўвайшлі ў лютаўскі, выключаны з ліку забруджаных радыенуклідамі тэрыторый, а іх насельніцтва пазбаўлена льгот.**

— Перагляд заніравання тэрыторый варта звязваць не столькі з Канцэпцыяй групы Пятраева, колькі з неабходнасцю выканання артыкула пятага Закона «Аб сацыяльнай абароне грамадзян, пацярпеўшых ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС». Згодна закону, мы абавязаны рабіць перагляд адзін раз у тры гады.

**— У законе, які вы ўзгадалі, у артыкуле чацвёртым зусім іншае заніраванне. Як суадносяцца гэтыя два дакументы?**

— Закон ніхто не адмяняў, на ім па-ранейшаму грунтуецца ўся наша работа. Канцэпцыя — прамежкавы дакумент, які канкрэтызуе шляхі барацьбы з вынікамі аварыі з улікам апошніх дадзеных.

**— А якія аб'ектыўныя паказчыкі паслужылі прычынай таго, што было зменена заніраванне тэрыторый і многія з іх зноў сталі «чыстымі»?**

— Аб'ектыўна «вінаватыя» ў гэтым законы фізікі. Вядома, што цэзій-137 распадаецца з хуткасцю 3 працэнты ў год. Значыць, яго на 30 працэнтаў паменела. (Па іншых даных — на 20). У цэзія-134 перыяд паўраспаду — 2-2,5 гады. Можна лічыць, што яго ўжо няма. Стронцыю-90 зменшылася на 21 працэнт. Дададзім сюды мерапрыемствы, выкананыя за гады, прайшоўшыя пасля аварыі. У выніку магутнасць экспазіцыйных дозаў на тэрыторыях паступова змяншаецца. Значыць, змяншаецца доза вонкавага апраменьвання.

Зыходзячы з гэтага, Белгідрамет зрабіў разлікі, на якіх тэрыторыях стала менш за 1 кюры на квадратны кіламетр. На аснове разлікаў і складзены новы спіс.

**— Разлікі былі, прабачце, «кабінетнымі», ці ўсё ж такі з замерамі на месцах?**

— У Белгідрамета ёсць свой банк дадзеных па населеных пунктах. Магчыма, там, дзе колькасць проб раней была дастатковай (скажам, 200 і больш), яны змаглі проста зрабіць разлік, зыходзячы з тэрмінаў паўраспаду. А ў некаторых населеных пунктах правялі дадатковае абследаванне, у тым ліку надворнае. Там, дзе банк дадзеных нязначны — 5, 10, 15 проб.

З другога боку, вы ж улічыце, што немагчыма ўсё перамераць. Не вытрымае ніякі бюджэт.

**— Пасля перагляду якую мы маем статыстыку?**

— Змяніўся статус прыкладна 212 населеных пунктаў. Гэта тыя, дзе шчыльнасць забруджанасці з самага пачатку складала 1,1 або 1,2, або 1,3 кюры. Цяпер яна ўжо ніжэй адзінкі. А ў адпаведнасці з законам забруджанымі тэрыторыямі лічацца толькі тыя, дзе шчыльнасць перавышае 1 кюры. Так што 212 населеных пунктаў аб'ектыўна перайшлі ў разрад адносна чыстых.

Тым не менш, мы лічым, што тут не варта цалкам адмаўляцца ад абарончых мераў, асабліва ў сельскай гаспадарцы, што трэба захаваць існаваўшыя раней ільготы для дзяцей у плане аздараўлення і бясплатнага харчавання ў школе. Падводзіць эканоміка, стан якой не дазваляе ажыццявіць такі падыход у поўным аб'ёме. Тым не менш зараз задзейнічалі рэзервы чацвёртага квартала, каб паспець хоць нешта зрабіць для дзяцей у час летніх канікулаў.

**— Раней улады займалі даволі цвёрдую пазіцыю наконт абавязковасці перасялення з забруджаных тэрыторый і забароны вяртання на іх. І гэта было апраўдана з пункту погляду захавання агульнага здароўя нацыі, яе генетычнага патэнцыялу. Зараз, здаецца, пачалася нейкая лібералізацыя. Вяртаюцца нават у 30-кіламетровую зону. Ці я не правы?**

— Там, дзе нельга жыць, людзей ужо адсялілі. На тэрыторыях, дзе вышэй за 40 кюры, практычна ўсе адселены. Там, дзе ад 15 да 40 па цэзію-137, засталося прыкладна 24,5 тысячы чалавек. У тым ліку 5,9 тысячы дзяцей і падлеткаў. Пакуль што. Мы павінны адсяліць і іх. Прэзідэнт падтрымлівае такі падыход. Яшчэ і таму, што затраты на вытворчасць чыстай сельскагаспадарчай прадукцыі, на медыцынскія мерапрыемствы спатрэбяцца вельмі значныя. Дзешавей перасяліць людзей на чыстыя землі і тым самым зберагчы іх здароўе.

Але там, дзе ўзроўні забруджання — ад 1 да 15 і дозы невялікія (менш за 3 мЗв у год) і дзе ў прынцыпе можна жыць — гэтыя тэрыторыі трэба аднаўляць. Каб і прамысловасць, і сельская гаспадарка працавалі паўнакроўна. І дазвалялі людзям існаваць у нармальных умовах.

Сюды людзі зараз сапраўды вяртаюцца. Гэта іх выбар.

Было так: у вёсцы — 3 кюры. Частка людзей паехала, частка засталася. Тэрыторыя лічылася забруджанай і інвестыцыі ў яе ўкладваць забаранялася. За ўсе гады тут народная гаспадарка прыйшла ў запусценне. Цяпер ставіцца пытанне аб стварэнні нармальных умоў для жыцця.

**— Вы практык і ведаеце, як гэта можа быць на практыцы.**

— Усё ўпіраецца ў эканоміку. Хочацца, каб яна хутчэй запрацавала. Тады і тут лягчэй пойдзе.

**— Скептыкі якраз і звязваюць перагляд тэрыторый і апошнюю «лібералізацыю», пра якую мы зараз гаварылі, з тым, што для эканомікі Чарнобыль — непадымная задача.**

— Скептыкі, здаецца, проста неаб'ектыўныя. Толькі з-за эканамічнай сітуацыі ці палітычнай кан'юнктуры мы не будзем мяняць аб'ектыўныя даныя, падтасоўваць лічбы. На падлог ніхто ніколі не пойдзе, ні мы, ні Гідрамет. Наадварот, нашы спецыялісты ў нечым нават страхуюцца. Пры апошніх пераразліках наўмысна не бралі пад увагу тое, што радыенукліды маюць схільнасць да заглыблення, а грунтаваліся толькі на тэрмінах распаду. Такім чынам, маем нейкі «запас трываласці».

**Запісаў Уладзімір ХІЛЬКЕВІЧ.**

**Колькасць населеных пунктаў, якія знаходзяцца ў зонах радыеактыўнага забруджвання ў выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, і колькасць насельніцтва, якое ў іх пражывае, па абласцях**
***(па стану на 1 студзеня)***

| Рэспубліка Беларусь | 1991 | 1993 | 1994 | 1995 | 1996 |
|---|---|---|---|---|---|
| Колькасць населеных пунктаў — усяго | 3370 | 3251 | 3234 | 3221 | 2930 |
| у тым ліку: у зоне са шчыльнасцю забруджвання тэрыторыі цэзіем-137 | | | | | |
| ад 1 да 5 Ku/кв. км | 2006 | 1935 | 1937 | 1933 | 1752 |
| ад 5 да 15 Ku/кв. км | 999 | 1112 | 1100 | 1102 | 1091 |
| ад 15 да 40 Ku/кв. км | 307 | 191 | 186 | 176 | 87 |
| звыш 40 Ku/кв. км | 58 | 13 | 11 | 10 | - |
| Колькасць насельніцтва — усяго, чалавек | 1.852.949 | 1.854.326 | 1.850025 | 1.840.951 | 1.625.981 |
| у тым ліку: у зоне са шчыльнасцю забруджвання тэрыторыі цэзіем-137 | | | | | |
| ад 1 да 5 Ku/кв. км | 1489630 | 1488350 | 1490545 | 1485193 | 1302971 |
| ад 5 да 15 Ku/кв. км | 281309 | 322425 | 317301 | 314193 | 298584 |
| ад 15 да 40 Ku/кв. км | 79066 | 43198 | 41928 | 41282 | 24426 |
| звыш 40 Ku/кв. км | 2944 | 353 | 251 | 283 | - |
| З агульнай колькасці насельніцтва — колькасць дзяцей ва ўзросце 0—17 гадоў — усяго | X | 498597 | 498176 | 483869 | 426591 |
| у тым ліку: у зоне са шчыльнасцю забруджвання тэрыторыі цэзіем-137 | | | | | |
| ад 1 да 5 Ku/кв. км | X | 409267 | 409154 | 395309 | 347748 |
| ад 5 да 15 Ku/кв. км | X | 80162 | 79870 | 78721 | 72970 |
| ад 15 да 40 Ku/кв. км | X | 9134 | 9125 | 9821 | 5873 |
| звыш 40 Ku/кв. км | X | 34 | 27 | 18 | - |

X - не было даных.

***(Паводле даных Белгідрамета)***

*ЖНІВО-96*

# *Іван ШАКОЛА:* «СТВОРАНЫ ЎСЕ МАГЧЫМЫЯ ЎМОВЫ ДЛЯ ПАСПЯХОВАГА ПРАВЯДЗЕННЯ ЖНІВА...»

**Пра тое, як да жніва падрыхтаваліся, як яго распачалі — і пойдзе наша размова з намеснікам міністра сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання Рэспублікі Беларусь Іванам Пятровічам ШАКОЛАМ**

**— Як вядома, на пачатку ліпеня быў прыняты ўказ Прэзідэнта, прысвечаны пытанням падрыхтоўкі да жніва, ставіліся канкрэтныя задачы... Ці ўсё ж зроблена на сённяшні дзень?**

— Фактычна руплівыя гаспадары рыхтуюцца да жніва ці не круглы год, пачынаючы з завяршэння папярэдняга. Іначай немагчыма і ўявіць, што нешта кардынальнае, істотнае павінна змяніцца за тыдзень-два перад самым жнівом... Што датычыць указа Прэзідэнта, то ўслед за ім была праведзена хутчэй ужо кантрольная праца. Прадстаўнікі нашага міністэрства (эканамічная, інжынерная, агранамічная службы) праехалі па абласцях, раёнах. Шмат дзе праведзены спецыяльныя семінары. Найперш гэта датычыцца Гродзенскай, Брэсцкай, Гомельскай абласцей. Літаральна днямі семінар праведзены і ў Магілёўскай — у калгасе «Гігант» Бабруйскага раёна. Такая праца, як бы гэта каму ні падалося старым, непатрэбным вопытам, вельмі неабходная. Ужо хаця б таму, што мы не проста падводзім вынікі, а займаемся і вучобай кадраў — па падрыхтоўцы тэхнікі, тэхналагічнай яе рэгуліроўцы. Днямі плануем семінар і ў Віцебскай вобласці.

Так што, дзякуючы арганізацыйным захадам, можна сцвярджаць, што лінейка гатоўнасці праведзена. Безумоўна, вялікую ролю адыграла дзяржаўная падтрымка. Для падрыхтоўкі камбайнаў да жніва быў выдзелены крэдыт у 160 мільярдаў рублёў.

Гэта не на закупку камбайнаў, а на набыццё запчастак, іншыя патрэбы, звязаныя з рамонтам, з укамплектаваннем тэхнічных, рамонтных службаў найбольш патрэбнымі запчасткамі, для вырашэння шэрага іншых пытанняў.

**— Іван Пятровіч, а ўвогуле парк збожжаўборачных камбайнаў — якой лічбе ён роўны зараз?**

— Дваццаць дзве тысячы. Гэта значна меней, чым летась, у прыватнасці. За апошні час практычна дзесяць тысяч камбайнаў мы спісалі, а новай тэхнікі набылі даволі мала. Праўда, сёння ў некаторай ступені парк змяніўся структурна. Пабольшала «Донаў», напрыклад...

**— Дык можа магутнасці істотна выраслі ў разліку на адну адзінку тэхнікі?**

— Не, я б не сказаў пра істотныя змены, хаця ж і яны прысутнічаюць. І ўсё ж ёсць складанасці. Павялічыліся аб'ёмы нагрузак на адзінку. Калі нядаўна адным збожжаўборачным камбайнам (яшчэ летась) даводзілася ўбіраць 97-98 гектараў, то ў гэтым годзе ўжо 115... А ёсць асобныя гаспадаркі (а іх сёлета 127, найбольш — у Віцебскай, Гомельскай, Магілёўскай абласцях), дзе нагрузка на адзін камбайн перавышае 200 гектараў.

Але і тут хацелася б звярнуць увагу на адну акалічнасць. Ці заўсёды мы праяўляем сябе дбайнымі, руплівымі гаспадарамі? Чаму багаты фінскі фермер можа дазволіць сабе беражліва працаваць на адным і тым жа камбайне і дваццаць пяць, і трыццаць гадоў? А што ж мы — няўжо такія багатыя, што праз восем-дзевяць гадоў пускаем машыну пад прэс?

**— Гаворачы пра тэхніку, мы спакваля забыліся пра тое, што і стан яе, і эфектыўнае выкарыстанне, як і ўвогуле лёс уборкі — усё залежыць ад людзей... Хацелася б ведаць, ці не атрымліваецца так, што, абнадзееныя добрым ураджаем і мяркуемымі добрымі заробкамі, механізатары выйшлі на жніво, не атрымаўшы зарплату за красавік, май, альбо за чэрвень...**

— Ведаеце, факты затрымкі выплаты заробку, канешне ж, ёсць. Але тэма гэтая даволі спрэчная. Па-сапраўднаму ў нашых гаспадарках не існуе гаспадарчага разліку. І выпрацоўкай яго формулы мы зараз займаемся. Безумоўна, за адзін год гэтага не зробіш. Карміць жа сем'і трэба зараз. І міністэрства стараецца зрабіць усё магчымае, каб людзі атрымалі зарплату як мага хутчэй. На сёння мы выплацілі 500 мільярдаў рублёў пад будучы ўраджай. Раней такія грошы жорстка распісваліся — частка, маўляў, пад паліва і г. д. Сёння ж гаспадаркі самі вырашаюць, куды накіроўваць грошы.

**— Словам, спадзяванні на нармальны ход жніва ёсць?**

— Так. Створаны ўсе магчымыя ўмовы па сённяшнім часе для паспяховага правядзення жніва.

**Гутарыў Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

### БОМБА ЎЗАРВАЛАСЯ Ў НАСАВОЙ ЧАСТЦЫ САМАЛЁТА

У Федэральным бюро расследаванняў ЗША мяркуе, што ўжо сёння атрымаюць важнейшыя даныя, з дапамогай якіх можна будзе даць заключэнне аб прычынах катастрофы амерыканскага авіялайнера, што ўзарваўся 17 ліпеня пасля вылету з Нью-Йорка. Адна з амерыканскіх тэлекампаній паведаміла са спасылкай на крыніцу, блізкую да следства, што эксперты амаль упэўнены: прычынай катастрофы была бомба, якая ўзарвалася ў насавой частцы самалёта.

### КІТАЙ ПРАВЁЎ ЧАРГОВЫ ЯДЗЕРНЫ ВЫБУХ

Учора Кітай правёў чарговы, 45-ы па ліку падземны ядзерны выбух і абвясціў, што з сённяшняга дня ўводзіць мараторый на далейшыя выпрабаванні. Пра гэта стала вядома за некалькі гадзін да адкрыцця міжнароднай канферэнцыі ў Жэневе, удзельнікі якой паспрабуюць дамовіцца аб глабальнай забароне ядзерных выпрабаванняў.

### НОВЫ ПРЭЗІДЭНТ БУРУНДЗІ АБЯЦАЕ НАВЕСЦІ Ў КРАІНЕ ПАРАДАК

Новы прэзідэнт Бурундзі П'ер Буёя, які прыйшоў да ўлады ў выніку ваеннага перавароту, абяцаў аднавіць дысцыпліну ў арміі і спыніць гвалтоўную дэпартацыю ўцекачоў. На прэс-канферэнцыі новы лідэр краіны заявіў, што мае намер прытрымлівацца міжнародных законаў, у тым ліку і аб правах уцекачоў. Буёя абяцаў таксама, што створыць новы пераходны ўрад, у які ўвойдуць прадстаўнікі ўсіх народнасцей краіны.

### ВЫБУХ У АТЛАНЦЕ

Пасля выбуху ў Атланце паліцыя засяроджвае сваю ўвагу на пошуку белага грамадзяніна ЗША. Следчыя лічаць, што за паўгадзіны да выбуху ён патэлефанаваў і папярэдзіў пра яго. Самаробная бомба выбухнула падчас рок-канцэрту. Два чалавекі загінулі, 110 атрымалі раненні. Са слоў паліцыі, па канструкцыі бомбы можна меркаваць, што за выбух не нясе адказнасці ніякая тэрарыстычная арганізацыя. Ізраільскі эксперт па пытаннях бяспекі, запрошаны арганізатарамі Алімпіяды ў якасці кансультанта, падтрымлівае гэта меркаванне. Днём пазней таксама паступілі некалькі папярэджанняў пра падкладзеныя бомбы, але большасць з іх не пацвердзілася.

Прэзідэнт ЗША Біл Клінтан заявіў, што Кангрэс павінен выпрацаваць жорсткія захады па барацьбе з тэрарызмам. Сярод магчымых мераў дазвол на пашырэнне сферы дзейнасці ФБР у праслухоўванні тэлефонных размоў, а таксама змяшчэнне ў выбуховых матэрыялах адмысловых хімічных элементаў, якія дапамогуць вызначыць іх паходжанне.

### ЦЫВІЛЬНАЕ НАСЕЛЬНІЦТВА ЦЕРПІЦЬ АД УРАДАВЫХ ВОЙСКАЎ

Прадстаўнікі гуманітарных арганізацый заявілі, што жыццё цывільных грамадзян на поўначы вострава Шры-Ланка сур'ёзна парушана ўзброенымі дзеяннямі ўрадавых войскаў супраць арганізацыі «Тамільскія тыгры». Прадстаўнікі міжнароднага камітэта Чырвонага крыжа паведамілі, што дзесяткі тысяч мірных грамадзян вымушаны былі пакінуць свае дамы пасля таго, як армія на мінулым тыдні распачала ўзброеныя акцыі. Многія хаваюцца ў джунглях. А ваенныя дзеянні працягваюцца.

### САЛЮТ ЛЕДЗЬ НЕ ЗАВЯРШЫЎСЯ ТРАГІЧНА

Падчас святкавання ў Севастопалі 300-годдзя Расійскага флоту фрагментам снарада, які выпусціў адзін з караблёў, паранены мужчына 24 гадоў і дзяўчына 15 гадоў. Зараз мужчына знаходзіцца ў рэанімацыі ў цяжкім стане, дзяўчына атрымала лёгкія раненні — яе стан здавальняючы.

### ЛІТОЎЦЫ СУПРАЦЬ АДМЕНЫ СМЯРОТНАГА ПАКАРАННЯ

Прэзідэнт Літвы Бразаўскас падпісаў указ аб мараторыі на пакаранне смерцю. Указ прэзідэнта будзе ў верасні абмеркаваны парламентам. Бразаўскас заявіў, што мараторый на пакаранне смерцю ўводзіцца з мэтай садзейнічаць інтэграцыі Літвы ў еўрапейскія арганізацыі. Аднак апытанні грамадскай думкі сведчаць пра тое, што каля 70 працэнтаў жыхароў рэспублікі выступаюць супраць адмены пакарання смерцю, аргументуючы гэта ростам злачыннасці ў Літве.

**Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», Радыё 101,2 і «Радыё-РОКС» слухаў Сяргей ПРОТАС.**

---

**Уладзімір БЕЛЬСКІ:**

# «МЫ БУДЗЕМ ШУКАЦЬ І ЗНАХОДЗІЦЬ ПАРАЗУМЕННЕ»

## Экспрэс-інтэрв'ю са старшынёй Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку

**— Уладзімір Пятровіч, вы абяцалі даць каментарый на публікацыю ў газеце «Рэспубліка» ад 5 ліпеня, у якой пададзены новыя падыходы да дзяржаўнай падтрымкі перыядычных выданняў. Як вядома, гэтая публікацыя выклікала адкрыты ліст за подпісам вядомых у краіне людзей.**

— Тое, што пытанне новых падыходаў да падтрымкі сродкаў масавай інфармацыі дзяржавай вострае, — каментарыяў не патрабуе. Іншага рэзанансу на нашы першыя крокі ў гэтым накірунку мы і не чакалі, а тым болей адназначнага прыняцця ці ўхвалення. Хаця было і апошняе, прычым давялося чуць такія меркаванні і ад журналістаў.

Я з вялікай павагай адношуся да тых, хто падпісаў гэты ліст, але ж нельга ўспрымаць за праўду тое, у чым не зусім разабраліся. У рэшце рэшт, мне здаецца, ён быў надрукаваны па прынцыпу «нашых б'юць». Я разумею і не спрашчаю праблему існавання друку наогул, тым больш беларускамоўнага. Але ж нельга падпіраць плот, калі ён падае, а сам гаспадар пра гэта не дбае. Сёння рынак, той час, пра які марылі творчыя людзі, тыя, хто выступаў за яго, зараз яго не ўспрымаюць. Зараз амаль прастойваюць прадпрыемствы, ідзе пошук эканоміі сродкаў, Мінфін прапанаваў скарачэнне грошай на фінансаванне СМІ напалову. Мне пярэчаць: «Раней жа былі грошы». Раней быў іншы час, і мы прапанавалі і прапаноўваем свае крокі да зберажэння слова, нашай культуры. Але калі ляціць паветраны шар і ён раптам пачынае губляць вышыню, там прадугледжаны меры, каб шар узняўся.

Дарэчы, ніхто нічога не закрывае. Усім пералічаным у артыкуле выданням мы выдалі пасведчанні аб рэгістрацыі.

Але давайце ўсё ж паглядзім на сітуацыю з пазіцыі структуры, якой даручана праводзіць дзяржаўную палітыку ў галіне друку. Сёння праз Дзяржкамдрук фінансуюцца 43 сацыяльна значныя перыядычныя выданні. Але гэта толькі сёння. Нават бліжэйшая перспектыва не надае аптымізму — чакаецца значнае змяншэнне бюджэтных датацый на перыёдыку па вельмі простай прычыне — у дзяржавы няма сродкаў. Ды і адкуль ім быць — не так лёгка пераадольваюцца крызісныя з'явы ў эканоміцы. І калі скарачаюцца працоўныя месцы на заводах і фабрыках, грамадства не паддаецца хуткаму рэфарміраванню — усе адчуваюць цяжар пераходнага перыяду, спрабуюць прыстасоўвацца да новых умоў, да жыцця ў тым, будучым рыначным грамадстве. Паглядзіце на нашых блізкіх і далёкіх суседзяў — ці паўсюдна фінансуецца напрамую з бюджэту перыёдыка? Напэўна, у гэтым плане беларускія СМІ пакуль не ў горшым стане. Хаця з вялікімі цяжкасцямі, але ўсё ж у мінулым, 1995 годзе, на падтрымку прэсы было выдзелена дастаткова сродкаў (35,4 млрд. руб.), у першым квартале бягучага года — 9,6 млрд. руб. Планам на год была прадугледжана сума 56,1 млрд. руб. Не трэба быць вялікім фінансістам, каб бачыць, што не ўсе запланаваныя сродкі могуць быць выдаткаваны. Заўтра, калі мы не будзем падрыхтаваныя да сітуацыі, прыйдзецца, узяўшы аловак у рукі, караціць спіс фінансуемых з дзяржбюджэту выданняў, каб «укласціся» ў выдзеленыя датацыі. І, паверце, выкрэсліваючы любое з фінансуемых сёння выданняў, здрыганецца рука над кожным — усе патрэбныя, усе сацыяльна значныя. Возьмем хаця б выданні Саюза беларускіх пісьменнікаў (а ён выступае заснавальнікам або сузаснавальнікам 7 выданняў («Нёман», «Полымя», «Маладосць», «Бібліятэка часопіса «Маладосць», «Беларусь», «Крыніца», «Літаратура і мастацтва»). Дык вось, каб заўтра не было такога, патрэбна ўжо сёння, вобразна кажучы, рабіць перагрупоўку сіл.

**— Мы якраз падышлі да пытання, што ж будзе з газетай «Літаратура і мастацтва», на гэта асабліва звернута ўвага ў звароце.**

— Адкажу адразу — права заснавальнікаў выдання — пагаджацца ці не з прапановай Дзяржкамдруку аб узбуйненні выданняў. Але ж мы ў рэшце рэшт, ведаючы рэальную фінансава-эканамічную сітуацыю па кожнаму з выданняў, упэўнены, трэба разам шукаць выйсце. Мы разумеем, што немагчыма сёння без дапамогі дзяржавы выдаваць літаратурныя часопісы. Ведаем, што для літаратараў гэта апошнім часам адна з нямногіх магчымасцей прадставіць на суд чытача новы твор. А вось газета «ЛіМ», выданне з вялікай гісторыяй, мае права быць вылучанай сярод блізкіх па тэматыцы. І калі да свайго юбілею выданне прыйдзе больш аб'ёмным, каляровым, з павялічаным штатам рэдакцыі, з магчымасцю быць прачытаным у замежжы — з чым тут можна не пагадзіцца. Пра тое, што «Наша слова» само выходзіла з ідэяй аб'яднання з газетай «Культура», пісалі раней. Гэтыя выданні літаральна на вачах страчваюць падпісчыка, тыраж для рэспубліканскіх газет — 2-3 тысячы экземпляраў — занадта малы. Возьмем хаця б «Голас Радзімы» — 243 падпісчыкі ў газеты для суайчыннікаў за мяжой, прычым толькі 5 з іх — замежнікі. Калі нават і дасылаецца яшчэ тысяча экземпляраў па пошце, то ці ўбірае гэтае выданне ўсю палітыку нашага сённяшняга жыцця, ці запаўняе інфармацыйны вакуум, у якім мы апынуліся? Па майму глыбокаму перакананню — не.

Бясспрэчна, балючае пытанне — гэта непазбежнае пры аб'яднанні выданняў скарачэнне кадраў. Тут рыначная рэчаіснасць праявіць сябе найбольш. Але мы ідзём па гэтаму шляху і проста не зможам працаваць, як учора, а жыць — як заўтра. Але ж і ў гэтым выпадку ў нас ёсць шэраг прапаноў. Адна з іх — адкрыццё выдання на чыста камерцыйнай аснове. Хаця хто сёння каму перашкаджае ўтрымліваць тую ці іншую газету альбо часопіс без дзяржаўных датацый.

**— Уладзімір Пятровіч, у вядомым звароце, каб зберагчы вышэйназваныя выданні, вас просяць пашукаць нейкія іншыя шляхі іх выжывання...**

— На жаль, што такое — нейкія іншыя шляхі выжывання канкрэтна гэтых выданняў — адказаць цяжка. Без бюджэтных датацый яны не выжывуць: занадта мізэрныя працэнты ўласных даходаў рэдакцый у сабекошце выданняў. Нават калі ўступіць у дзеянне распрацоўваемы зараз Дзяржкамдрукам Закон «Аб дзяржаўнай падтрымцы сродкаў масавай інфармацыі і кнігавыдання», у якім будзе прадугледжаны шэраг ільгот, у тым ліку і па падаткаабкладанню, якія на пераходны перыяд дапамогуць рэдакцыям умацавацца эканамічна, зрабіць цвёрды крок насустрач самастойнаму бездатацыйнаму жыццю. Хаця некаторым з фінансуемых дзяржавай выданняў якраз і дастаткова будзе атрымаць пэўныя льготы, каб выпускаць выданне без датацый.

Дарэчы, у рабочую групу па падрыхтоўцы закона ўвайшлі, акрамя спецыялістаў Дзяржкамдруку, прадстаўнікі міністэрстваў: фінансаў, эканомікі, сувязі і інфарматыкі, па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю і прыватызацыі, Галоўнай дзяржаўнай падатковай інспекцыі, Беларускага інстытута дзяржаўнага будаўніцтва і заканадаўства, Інстытута інфармацыі і прагнозу, рэдактары рэспубліканскіх і мясцовых дзяржаўных і недзяржаўных выданняў, выдаўцы, распаўсюджвальнікі друкаванай прадукцыі. Запрошаны да сумеснай распрацоўкі законапраекта і прадстаўнік адпаведнай камісіі Вярхоўнага Савета. Спадзяёмся, што такой камандзе пад сілу падрыхтаваць праект закона, які ўбярэ ў сябе і вопыт суседзяў, скажам, расійскае заканадаўства аб падтрымцы СМІ і кнігавыдання, і адлюструе асаблівасці беларускай інфармацыйнай прасторы.

Надзвычай актуальна, каб у законе знайшлі сваё адлюстраванне пытанні падатковага заканадаўства, мытнага, валютнага рэгулявання, фінансавага, пытанні прыватызацыі і акцыяніравання СМІ і наогул сферы друку. Закон будзе накіраваны на рэгуляванне парадку дзяржаўнай падтрымкі СМІ, кнігавыдання, спрыяць забеспячэнню канстытуцыйнага права грамадзян на атрыманне поўнай і аб'ектыўнай інфармацыі.

**— Уладзімір Пятровіч, у адкрытым лісце мяркуемае «аб'яднанне» выданняў увязваецца з адмовай Міністэрства культуры ад правоў заснавальніцтва газеты «Літаратура і мастацтва», робіцца выснова, што гэта — пэўнае сведчанне адносінаў дзяржавы да беларускай культуры, гісторыі, мовы...**

— Кожны мае права выказаць свае меркаванні на тую ці іншую сітуацыю.

Не заўважаецца, на жаль, іншае — толькі дзякуючы дзяржаве выдаюцца сёння малатыражныя беларускамоўныя газеты і часопісы. Выпуск дзіцячай літаратуры на беларускай мове (па ўсіх накірунках) датуецца дзяржавай да 75 працэнтаў яе фактычнага сабекошту. Літаратура для камплектавання бібліятэк, а таксама школьных бібліятэк кнігамі серыі «ШБ» датуецца на 100 працэнтаў (дададзім сюды 12 працэнтаў рэнтабельнасці выдавецтваў і 20 працэнтаў гандлёвай надбаўкі). Астатнія віды літаратуры на беларускай мове (мастацкая, навуковая, грамадска-палітычная) — датуюцца да 50 працэнтаў сабекошту.

Выдаўцы беларускамоўнай літаратуры карыстаюцца пэўнымі льготамі ў падаткаабкладанні. Дзяржаўныя выдавецтвы атрымліваюць папярэднюю аплату на выпуск беларускамоўных выданняў, уключаных у дзяржзаказ.

**— Калі можна, адкажыце, якая эканомія сродкаў магчыма пры аб'яднанні выданняў?**

— Нават па самых сціплых падліках гэта будзе сума, якая значна пераўзыходзіць 2 млрд. руб. Яна суразмерная з патрэбамі на тэхнічнае пераабсталяванне чвэрці маючых патрэбу рэдакцый раённых газет, многія з якіх па ўзроўню тэхнічнага ўзбраення знаходзяцца недзе ў «каменным» веку.

Ашчаджаючы дзяржаўныя сродкі, мы прапануем не толькі аб'яднанне блізкіх тэматычных выданняў, памяншэнне спіса фінансуемых дзяржавай газет і часопісаў. Мы спадзяёмся знаходзіць сродкі, рацыянальна іх выкарыстоўваючы. Так, ужо створана дзяржаўнае прадпрыемства «Паліграфматэрыялы», якое пачало забяспечваць рэдакцыі паперай па больш таннаму кошту, а структурнае дзяржаўнае прадпрыемства «Дом прэсы» ўзяло на сябе абслугоўванне шэрага перыядычных выданняў, зноў жа па нізкіх цэнах. Магчыма, хтосьці страціць «прыварак» да зарплаты, але дзяржаўныя сродкі будуць выкарыстоўвацца толькі на карысць дзяржаве. Па разліках, цэнтралізаванае забеспячэнне выданняў паперай дазволіць эканоміць больш за 20 млрд. рублёў у год.

Сёння мы працуем над Дзяржаўнай праграмай мадэрнізацыі паліграфічнай прамысловасці. Нас клапоціць, каб дзяржаўная паліграфічная база не засталася на задворках рынку.

Накірункі дзейнасці Дзяржкамдруку былі выкладзены на Рэспубліканскай нарадзе па пытаннях сацыяльна-культурнай сферы. У пратаколе нарады зафіксавана іх падтрымка. Дадзены канкрэтныя даручэнні службам Дзяржкамдруку. Спадзяёмся, пры ўсёй вастрыні моманту мы будзем шукаць і знаходзіць паразуменне з выданнямі, выдавецтвамі, усімі зацікаўленымі бакамі, бо мы працуем разам, працуем на адну справу, на наш агульны заўтрашні дзень.

**Гутарыў Анатоль СЛАНЕЎСКІ.**

---

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Паліцыя швейцарскага кантона Берн затрымала зламысніка на месцы злачынства. Мужчына скарыстаў дажджлівае надвор'е, каб папаляваць паблізу гарадка Кандэрстэг на смаўжоў, якія выпаўзлі са сваіх схованак і атрымлівалі задавальненне ад вады. Тут яны і сталі лёгкай здабычай «паляўнічага» — у Швейцарыі смаўжы лічацца далікатэсам. Між тым у кантоне Берн гэтыя істоты знаходзяцца пад абаронай, і іх збор прыраўноўваецца да браканьерства. 142 асобіны, якія трапілі «ў палон» да аматара гэтай стравы к моманту прыбыцця вартаўнікоў парадку, набылі свабоду. Абедзенныя планы гурмана былі сарваны дзякуючы грамадзянам, якія ў гэты час прагульваліся па ваколіцах Кандэрстэга і палічылі сваім абавязкам выкрыць парушальніка закона.

**ІТАР-ТАСС**

Падняўшыся на 14 паверх вышыннага будынка інстытута «Атамкотламаша» ў Растове-на-Доне, хлопец, студэнт адной з мясцовых ВНУ, кінуўся ўніз і... абышоўся лёгкім страсеннем мозга ды зламанай рабрынай.

— Гэта унікальны выпадак, які можна занесці ў Кнігу рэкордаў Гінеса, — заўважыў загадчык аддзялення траўматалогіі бальніцы хуткай дапамогі № 2 Анатоль Пушкоў. — Стан пацярпеўшага зараз цалкам здавальняючы.

**«Труд»**

## КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ
### у камерцыйных банках на 29 ліпеня 1996 г.

| Назва банка | Долар ЗША | | Нямецкая марка | | Расійскі рубель | | Тэлефоны |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| ФК «Вераніка»* за рас. рублі | 15400<br>5190 | 15500<br>5310 | 10200 | 10450 | 2.91 | 2.98 | 531-504 |
| Гал. упр. НБ па Мінску і Мінскай вобл. з улікам дылінг. прэміі | 15560 | | 10400 | | 2.95 | | 26-64-41 |
| ФК «Вераніка»* (за расійскія рублі) | 15400<br>5190 | 15500<br>5310 | 10200 | 10450 | 2.91 | 2.98 | 531-504 |
| Ф-л 0104 АКБ «Мінскі транзітны банк» з улікам дыл. прэміі | 15400 | 15600 | 10000 | 10400 | 2.75 | 2.95 | 372-825 |
| Магазін «Панарама» | 15000 | 15500 | 9800 | 10400 | 2.70 | 3.00 | 265-612 |
| Ф-л № 3 «Гарант» АСКБ «Тэхнабанк»* | 15330 | 15450 | 10300 | 10430 | 2.942 | 2.974 | 331-917 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) | 13450 | | 9032.3 | | 2.57 | | |

* Аперацыя з валютай вышэй за 1000$ праводзіцца на дагаворных умовах.

На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы Галаўнога ўпраўлення банка могуць нязначна адрозніваца ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.

**Інфармацыя прадастаўлена агенцтвам Граўцова.**

---

**Калектыў рэдакцыі газеты «Звязда» і прафсаюзны камітэт выказваюць глыбокае спачуванне члену рэдакцыйнай калегіі Бараноўскаму Івану Аляксандравічу з нагоды напаткаўшага яго гора — смерці БАЦЬКІ.**

---

## СЁННЯ

### СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 5.18 | 21.12 | 15.54 |
| Віцебск – | 5.02 | 21.08 | 16.06 |
| Магілёў – | 5.07 | 21.01 | 15.54 |
| Гомель – | 5.13 | 20.51 | 15.38 |
| Гродна – | 5.36 | 21.25 | 15.49 |
| Брэст – | 5.42 | 21.20 | 15.38 |

### МЕСЯЦ

Поўня 30 ліпеня.

### ІМЯНІНЫ

Пр. Марыны, Леаніда

К. Пятра, Юліяна, Леапольда

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы будзе пераважаць воблачнасць, на поўдні — кароткачасовыя дажджы, магчымы навальніцы. Тэмпература паветра ў Мінску, Гродне і Віцебску 21—23, Магілёве — 22—24, Брэсце і Гомелі — 23—25 градусаў цяпла. У наступныя двое сутак воблачнасць захаваецца; невялікія дажджы 31-га пройдуць у паўднёвых раёнах, а 1 жніўня пераважна ўсюды без ападкаў. Тэмпература паветра ўначы 10—15, удзень — 20—25 вышэй нуля.

*Дзесяць мер прыгажосці былі дадзены свету: дзевяць Іерусаліму і адна — усяму астатняму.*

**Талмуд.**



# Падарожжа ў Іерусалім

## НАТАТКІ ПУБЛІЦЫСТА

ПРОСТЫ, ЗВЫЧАЙНЫ, НА ПЕРШЫ ПОГЛЯД, ВЫРАЗ. Але ў ім — адносіны да той зямлі, якая вось ужо тры тысячагоддзі займае галоўнае месца ў сэрцах і розумах людзей Планеты.

Сама назва «Іерусалім» азначае «горад міру». І цяпер, калі на Блізкім Усходзе ўсталёўваецца, нарэшце, доўгачаканы, выпакутаваны мір, апынуцца ў ім і ганарова, і прыемна, і знамянальна...

І — адказна. Бо Іерусалім — мясціна найперш Памяці. Горад міру, мараў і спадзяванняў; сімвалаў, гісторыі і будучыні... А яшчэ — крыніца натхнення. Тут найбольш выразна пачынаеш задумвацца над маральнымі высновамі і паняццямі Чалавека, адчуваеш шмат што са старога і такога знаёмага — з кніжак, паданняў, аповедаў — у нейкіх новых умовах і незвычайных выявах, рысах, ракурсах, перспектывах.

І нібы вяртаешся да сваіх каранёў, да таго моманту, адкуль бярэ пачатак наша гісторыя, мараль. Нібы ўступаеш і актыўна ўдзельнічаеш у дыялогу — паміж мінулым і будучым.

Іерусалім — горад, упісаны ў прыроду і свет паміж небам і зямлёй, ён кранаецца сваімі купаламі нябеснага скляпення і апіраецца фундаментам на старажытныя скалы. Раскінуўся ён на іудзейскіх гарах, на хрыбце, што падзяляе мора і пустыню, заходнімі ўскраінамі падступаючы да ўрадлівых вечназялёных далін Міжземнаморскага ўзбярэжжа, а ўсходнімі мяжуе з Іудзейскай пустыняй і ўпадзінай Мёртвага мора, дзе — пяскі і амаль што нічога жывога.

Уласна кажучы, гэта не горад, а цэлы свет. Свет, які сёлета святкуе тры тысячагоддзі свайго існавання.

Цэнтрам нацыянальнага і духоўнага жыцця яўрэяў (і не толькі іх) Іерусалім стаў ужо тады, калі тыя ж тры тысячы гадоў назад цар Давыд пераўтварыў яго ў сталіцу сваёй дзяржавы. Але потым — з моманту захопу і разбурэння горада вавілонскімі войскамі ў 586 годзе да нашай эры і да аднаўлення яўрэйскай дзяржавы ў 1948-м — ён знаходзіўся пад уладай іншаземцаў. Вавілонцаў змянілі рымляне, тых — арабы, апошніх — крыжакі, іх — егіпцяне... Роўна чатыры стагоддзі — ажно да 1917-га — Іерусалім быў у складзе Асманскай імперыі. Заваёўнікі, перыядычна змяняючы адзін аднаго, натуральна ж, уносілі ў аблічча горада свае штрыхі, аднак (і ізраільцяне гэтым адкрыта ганарацца!) — ніхто з чужынцаў не дадумаўся (ці, дакладней, не адважыўся) аб'явіць Іерусалім сваёй сталіцай.

Шмат часу — ажно да другой паловы XIX стагоддзя — Іерусалім змяшчаўся ў сценах Старога горада. Ён быў падзелены на чатыры кварталы: яўрэйскі, мусульманскі, хрысціянскі і армянскі. Але прыкладна з сярэдзіны сямідзесятых гадоў мінулага стагоддзя яўрэі, якія жылі тут спрадвеку, склалі большасць насельніцтва. За межамі гарадскіх сценаў яны пачалі будаваць новыя жылыя кварталы і мікраараёны, пачаўшы такім чынам біяграфію сучаснага Іерусаліма.

Крыху больш за трыццаць гадоў — з 1917-га па 1948-ы — горад знаходзіўся пад англійскім мандатам. І калі да таго часу ён, па сутнасці, быў занядбанай правінцыяй, то на працягу параўнальна невялікага прамежку часу ператварыўся ў прыгожы, непаўторны квітнеючы горад. У новых кварталах хапіла месца асаблівасцям і непаўторнасцям архітэктурнай забудовы, уласцівым тым этнічным групам, якія жылі тут. І пры гэтым, натуральна, было зроблена ўсё, магчымае і часам проста неверагоднае, для таго, каб захаваць даўніну — ажно з часоў цара Давыда.

А потым была вайна за незалежнасць — напрыканцы саракавых гадоў. Яна, як вядома, закончылася пагадненнем аб перамір'і, якое падзяліла Іерусалім на дзве часткі. Усходняя, у тым ліку і Стары горад, апынулася пад кантролем Іарданіі, заходняя ж частка стала сталіцай Ізраіля.

І тут проста нельга не зрабіць невялікае адступленне-каментарый.

Яшчэ і да сённяшняга часу — у многіх сродках масавай інфармацыі, размовах «на кухні» і нават афіцыйных гутарках, у тым ліку і на самым высокім узроўні — не-не ды і пачуеш, так сказаць, «сцвярджэнне» аб тым, што Іерусалім не быў і пакуль што не з'яўляецца сталіцай ізраільскай дзяржавы... Можна пра гэта чытаць і слухаць, але ж рабіць высновы адносна правільнасці такіх «перакананняў», запэўніваць самога сябе кожнаму з нас варта ўсё ж на падставе рэалій жыцця, аргументаў Гісторыі. Быў Іерусалім сталіцай Давыдава царства, з'яўляецца ён сталіцай Ізраіля афіцыйна і сёння, сведчанне чаму — знаходжанне ў горадзе рэзідэнцыі прэзідэнта, Кнесета, урада, Вярхоўнага суда, шматлікіх дзяржаўных устаноў, пасольстваў асобных дзяржаў свету...

Але гэта тэма для спецыяльнай гаворкі.

Дзевятнаццаць гадоў Іерусалім быў падзелены на дзве часткі бетоннай сцяной і агароджай з дроту. Уз'яднанне горада стала вынікам так званай Шасцідзённай (ізраільцяне заўсёды просяць пісаць гэта слова з вялікай літары) вайны 1967 года. Тады, дарэчы, Іарданія спрабавала захапіць заходнюю частку Іерусаліма, але з задумы арабаў нічога не атрымалася...

Вось такая яна, кароткая гісторыя «горада міру». Гісторыя багатая, шматпакутная, трагічная і радасная. І яе трэба ўспрымаць такой, якой яна была ў рэальнасці. Ці не хопіць ужо ідэалагічных афарбовак, адценняў, падтасовак...

Іерусалім сёння — гэта самы вялікі горад Ізраіля. 567 тысяч насельнікаў пастаянна жыве тут: 12 працэнтаў усіх жыхароў краіны. Яўрэі і арабы, выхадцы з Усходу і Захаду, вернікі і атэісты — жывуць пераважна мірна, спакойна, стрымана адзін да аднаго... Праўда, здараюцца і канфлікты, непаразуменні, правакацыі, тэрарыстычныя акты, аднак усе, з кім даводзілася сутыкацца і гутарыць, перакананы: рана ці позна тут усталюецца поўны мір і спакой.

Самі іерусалімцы называюць горад цэнтрам гістарычнага мінулага і, адначасова, — далёкай будучыні. Беражліва, пяшчотна (ну, якое яшчэ слова можна тут падабраць?!) ахоўваюць, шануюць, даражаць яны ўсім, што хоць бы ўскосна, як кажуць, мімаходзь, тычыцца мінуўшчыны. І гэтаму зайздросцяць — шчыра і адкрыта — усе, хто бачыць такое. Дзесяцігоддзямі, з дня ў дзень, рэстаўрыруюцца помнікі, вядуцца археалагічныя раскопкі...

А побач — будоўлі: з паўночнай ускраіны горада да паўднёвай, з усходняй — да заходняй. Куды ні глянеш — будаўнічыя краны і сцены, што вырастаюць нібы з-пад зямлі. За тыдзень-другі «становяцца на ногі» карпусы дамоў і аб'ектаў, за паўгода — цэлыя кварталы. Прынамсі, гэты малюнак характэрны для ўсяго Ізраіля, літаральна для ўсіх гарадоў і населеных пунктаў.

Забудова Іерусаліма апошніх дзесяцігоддзяў, падкрэслівалі тамтэйшыя знаўцы, адзначана значнымі архітэктурнымі знаходкамі і набыткамі. Адышлі ў небыццё аднастайныя непрыгожыя «каробкі» ўбогага, хаця і свайго роду міжнароднага стандарту — дойлідскага стылю, характэрнага для пяцідзесятых-шасцідзесятых гадоў. Не прыжыўся тут і ўласцівы сямідзесятым гадам знарочысты неаарыенталізм, заснаваны на выкарыстанні бясконцых арак і паўкружжаў. Адной з асноўных рысаў іерусалімскай архітэктуры стала выкарыстанне элементаў даўніны. Дарэчы, гэта архітэктура нібы выкрышталізавалася на працягу цэлых стагоддзяў і цяпер ахвотна ўключае ў свае праекты ўзоры, пачынаючы з пабудоў і магіл часоў Першага і Другога Храмаў і да канцылярска-казарменных збудаванняў перыяду англійскага мандата. Захаванню старадаўніх архітэктурных традыцый спрыяе, несумненна, і той факт, што ў Ізраілі па-ранейшаму выконваецца закон, які патрабуе ўзводзіць усе пабудовы з мясцовага каменя і абмяжоўвае выкарыстанне іншых будаўнічых матэрыялаў...

Як кажуць у такіх выпадках, нам бы іхнія клопаты!

Такім чынам, архітэктура Іерусаліма — сама дасканаласць. Літаральна ў кожным ансамблі — свае ідэі, асацыяцыі, кампазіцыйныя моманты. І — завершанасць, што, натуральна, прымушае практычна каля кожнага ансамбля спыніцца, задумацца, паразважаць.

Славутасці сусветнага маштабу тут, што называецца, на кожным кроку. І не дзіва: у Іерусаліме ж сканцэнтраваны святыя мясціны трох сусветных рэлігій: іудаізму, хрысціянства і ісламу.

З часоў панавання цара Давыда горад стаў сапраўдным полюсам прыцягнення вернікаў з усіх куткоў Зямлі. Мільёны людзей і зараз лічаць сваім святым абавязкам далучыцца тут да крыніцы духоўнай сілы.

Іерусалімскі Храм, разбураны ў шостым стагоддзі да нашай эры, быў адноўлены, а потым перабудаваны, пашыраны і выдатна ўпрыгожаны ў рымскім стылі царом Ірадам Вялікім, апяваўся ў фальклоры ва ўсіх кутках свету. Тады ж паломніцтва ў Іерусалім набыло масавыя маштабы. Выдатна праведзеныя архітэктурныя раскопкі дазваляюць сёння бачыць, які грандыёзны размах мелі тагачасныя пабудовы. Шырокія, з майстэрствам выбрукаваныя вуліцы, развалiны гандлёвых кварталаў, гасцініц і пастаялых двароў, лазні і рытуальныя басейны, і нават... водаправод, пракладзены вакол сцяны Храма, захаваліся і радуюць вока і зараз.

...І нібы ўяўляеш, як два тысячагоддзі назад на плошчы Храма стаяў Ісус і заклікаў людзей пакінуць грэшныя шляхі. Яго ўласнае апошняе паломніцтва ў Іерусалім адбылося ў час Вялікадня, калі на гары Сіонскай ён правёў апошнюю вячэру са сваімі вучнямі...

А вось і Храм Труны Гасподняй. Тут, паверце на слова, замірае сэрца. Тут няма месца словам, развагам, аповядам — тут трэба маўчаць, думаць, суперажываць...

З цягам часу, па меры таго, як узніклі і развіваліся дзве новыя монатэістычныя рэлігіі — хрысціянства і іслам, паломніцтва ў Іерусалім стала і іхняй традыцыяй. У Сярэднявеччы хрысціяне, паставіўшы мэтай трапіць сюды, каб «усяго толькі» прайсці па стапах Ісуса і пакланіцца ягонай Труне, адважваліся на тысячакіламетровыя падарожжы, поўныя рызыкі, нягод, а часам і пакут. Тут была, дарэчы, і Ефрасіння Полацкая!

Сцяна Плачу, ці Заходняя сцяна. Гэта — усё, што захавалася ад збудавання другога Храма. Калісьці лічылі яе крыніцай рэлігійнага натхнення для яўрэяў усяго свету. Сёння ж «прызначэнне» Сцяны некалькі пашырылася і паглыбілася: пакінуць тут запіску, пажадаць сваім родным, блізкім і знаёмым дабрабыту, шчасця і здароўя, датыкнуцца рукой да яе цяпер не супраць літаральна кожны, хто бывае каля Сцяны...

А што ў гэтым, уласна кажучы, антычалавечага?!

Тут жа, у Старым горадзе, мячэць Эль-Акса — трэцяя па значнасці святыня мусульманаў (пасля Меккі і Медзіны), залатымі зліткамі накрытая мячэць Амара, адкуль, паводле падання, прарок Мухамед узнёсся на неба...

Гефсіманскі сад, Віа Даларога, іншыя мясціны, звязаныя з жыццём і смерцю Ісуса з Назарэта, таксама выклікаюць развагі, праведныя і шчырыя думкі.

У сваім абліччы Іерусалім захаваў і ўсяляк імкнецца прымножыць традыцыі ўсіх тых, для каго ён з'яўляўся чымсьці больш, чым звычайным горадам. Вось і «ўжываюцца» тут самым мірным чынам пабудовы часоў Ірада і візантыйская мазаіка, праваслаўныя цэрквы і італьянскія званіцы, англійскія бастыёны і грэчаскія купалы...

Зусім жа побач, кіламетр-паўтара пехатой, цэнтр сучаснага Іерусаліма. І тут табе ўжо не да роздумаў, разваг, суперажыванняў... Гандлёвыя рады і залы, камп'ютэрныя цэнтры і дыскатэкі, рэстараны і піцэрыі, музеі і тэатры — адным словам, даставай хутчэй кашалёк! Ну як, скажыце, паехаць адсюль, са Святой зямлі, без сувеніраў, тамтэйшых выяў — у бронзе, гіпсе, шкле, фарфоры, на паперы, падробках, нарэшце, у срэбры і золаце...

АДПАВЕДНА З РАЗЛІКАМІ ВАТЫКАНА, у 2000 годзе Іерусалім наведаюць каля 15 мільёнаў хрысціянскіх паломнікаў. Разлік гэты рэальны, абгрунтаваны: споўніцца ж два тысячагоддзі хрысціянству. У самім горадзе, як, дарэчы, і ва ўсім Ізраілі, пачата падрыхтоўка да прыёму і сустрэч з такой вялікай колькасцю праведнікаў — шчырых, адданых, чыстых душой і сэрцам людзей з усіх куточкаў Зямлі.

Іншаму, акрамя шчырага, адданага, чыстага душой і сэрцам, тут, прабачце, проста няма чаго рабіць...

Тут, нават зусім за невялікі адрэзак часу, паспяваеш прасачыць усю гісторыю Чалавецтва: ад стварэння свету з небыцця — да пераўтварэння яго ў штосьці матэрыяльнае, істотнае, да выпрацоўкі і ўсталявання законаў быцця, існасці. Спакушэнне Евы, Ісак, які прыносіць у ахвяру свайго сына, Каін і Авель, Ной і сусветны патоп, Дзесяць Запаведзяў, заключэнне саюза паміж Богам і людзьмі, пошукі Зямлі Запаветнай, шчырасць пракокаў — гэта і шмат што іншае, раней толькі завочна вядомае з Бібліі і рэлігійнай літаратуры, тут набывае зусім рэальныя абрысы, пэўную паслядоўнасць і закончанасць...

**Анатоль МЯСНІКОЎ.**

*Мінск—Тэль-Авіў—Іерусалім.*

НАБАЛЕЛАЕ

# ХТО ДБАЕ, ТОЙ НЕ ЗАЎСЁДЫ МАЕ

У НАШ ЧАС, калі модным стала гаварыць і пісаць пра свабоду чалавека, справядлівыя і гуманныя адносіны паміж народамі, даводзіцца задумвацца: чаму адны і тыя ж людзі па-рознаму ўсведамляюць гэтыя, здавалася б, простыя ісціны. Свабоды, справядлівасці і гуманнасці ў поўным сэнсе гэтых слоў нехапала паміж імі ў розныя часы. Не хапае іх і ў нашым стагоддзі ні ў нас, ні ў нашых блізкіх і далёкіх суседзяў.

Дастаткова ўспомніць трагічны лёс нашых юнакоў, беларускіх вязняў фашызму, змарнаваную маладосць на чужыне.

І калі сёння пераможаная Германія, каб замесці свае грахі, прыйшла на дапамогу народу-пераможцу сваёй разавай грашовай дапамогай былым вязням фашызму, гэта не робіць нам гонару. Нямецкае прабачэнне ўспрымаецца як міратворчая акцыя для таго, каб рэабілітаваць Германію за гітлераўскі наскок і замесці сляды перад пакрыўджанымі лёсам людзьмі за няўдзячныя ўчынкі ў ваеннае ліхалецце, за тое, што гітлераўцы лічылі сваіх падняволеных народам другога гатунку «неарыйскай расы», пазбавілі яго правоў чалавека і гуманізму на акупіраваных і ўласнанямецкіх землях.

Няма чаго граху таіць — і ў нас да былых вязняў фашызму адносіліся ў свой час стрымана, часам без належнага спачування і важкіх падстаў за гітлераўскую тыранію на чужыне, калі наша дзяржава кавала перамогу на шчодра палітых сваёй крывёю родных ды і далёкіх еўрапейскіх землях.

Свае юнацкія сцяжынкі ў родных і далёкіх краях з першых і да апошніх дзён Вялікай Айчыннай вайны я не збіраўся апісаць у мемуарных успамінах, бо не лічыў сябе за тых людзей, якія прэтэндавалі і прэтэндуюць на гістарычную ролю ў грамадстве. Праўда, мой юнацкі лёс — гэта не толькі сведчанне, але і ўдзел у антыфашысцкай барацьбе далёка ад Радзімы. Няхай і ён пакіне нейкі след у нашай гісторыі.

Вырашальным момантам узяцца за пяро з'явілася мая пасляваенная сустрэча ў Празе з генералам Людвікам Свободай, міністрам абароны, пазней — прэзідэнтам Чэхаславакіі. З яго рук я атрымаў сваю першую чэхаславацкую ваенную ўзнагароду і мемуары з аўтографам: «Таварышу У. Анічэнку на ўспаміны дарую. Генерал Свобада. Прага, 31.5.1963.» Гэта кніга натхніла і мяне напісаць пра пройдзеныя мною ваенныя сцяжынкі па роднай і далёкай зямлі.

З хваляваннем успамінаю перажытыя ваенныя гады ў Чэхаславакіі, якая стала для мяне «другой Бацькаўшчынай», бо яе патрыёты імкнуліся стварыць мне і маім баявым сябрам умовы, каб застацца жывымі ў пекле гітлераўскай акупацыі.

На жаль, лёс маёй шматгадовай творчай працы напаткаў няўдачу: у перажытых уражаннях і блуканнях па свеце неставала «кіруючай і накіроўваючай ролі камуністаў», закліканых натхняць і актывізоўваць найперш партызанскі рух у глыбокім тыле ворага. І як я ні імкнуўся даказаць нашым вышэйшым інстанцыям, што гэты матыў мне не ўдалося ўпісаць у сюжэтную канву кнігі з-за адсутнасці належных умоў для ўмацавання сувязі з партыйным кіраўніцтвам на далёкай, але стаўшай мне блізкай чэшскай зямлі, гэту перашкоду немагчыма было тады пераадолець. Не дапамагла мне і добразычлівая рэцэнзія на машынапісны тэкст маіх успамінаў пад першапачатковай назвай «У дымчатых гарах» інстытута гісторыі Камуністычнай партыі Чэхаславакіі ад 10 верасня 1964 года, у якой былі выказаны карысныя парады, накіраваныя на паляпшэнне зместу кнігі з рэкамендацыяй яе да друку.

На вялікі жаль, і гэта рэцэнзія не апраўдала маю надзею аб тым, што кніга ўбачыць свет. Пасля дапрацоўкі і пашырэння яе зместу пад зменёнай назвай «Вузы лёсу» я з чэхаславацкай рэцэнзіяй аддаў рукапіс на суд нашага выдавецтва, але недастатковае разуменне і асэнсаванне чэшскіх умоў і спецыфікі партызанскай барацьбы далёка ад Радзімы не далі станоўчых вынікаў. Вядомыя пасляваенныя падзеі ў Чэхаславакіі не паслужылі падставай для прызнання станоўчай чэшскай рэцэнзіі. Хісткія доказы аказаліся не на карысць выдання кнігі.

...У пасляваеннай беларускай літаратуры з'явілася нямала твораў рознага зместу і тыпу, прысвечаных гераічным і драматычным будням Вялікай Айчыннай вайны. Адны аўтары былі ўдзельнікамі і сведкамі тагачасных падзей, другія ўспрымалі іх на аснове дакументальнай гісторыі, апавядаюць, як па меры ўзмацнення баявых дзеянняў Савецкай Арміі на ўсіх участках Усходняга фронту ўмацоўвалася дружба з чэхаславацкім народам.

Дык няўжо мне, былому вязню фашызму, партызану, каму давялося многае бачыць, перажыць і асэнсаваць у ваеннае ліхалецце, шукаць спонсараў і чакаць, калі «Вузы лёсу» дойдуць да чытача?!

Хочацца спадзявацца, што гэта праблема зацікавіць усіх, хто пра творчы прэстыж дбае, але поўнага задавальнення ад яго не мае. Застаецца жыць з аптымістычнай надзеяй, што вера ў праўду, упэўненасць, давер і вернасць у рэшце рэшт пераможуць і акажуць уплыў на тых, ад каго сёння залежаць платныя паслугі за выданне літаратуры.

**Уладзімір АНІЧЭНКА,**
**доктар філалагічных навук,**
**прафесар.**

*г. Гомель.*

# СПАЧУВАННЕ Ў СУВЯЗІ З ТРАГІЧНЫМ ЗДАРЭННЕМ НА АЛІМПІЙСКІХ ГУЛЬНЯХ

*Высокапаважанаму Уільяму Дж. Клінтану,*
*Прэзідэнту Злучаных Штатаў Амерыкі, Вашынгтон*

Шаноўны пан Прэзідэнт,

Ад імя беларускага народа і ад сябе асабіста дасылаю Вам шчырыя спачуванні ў сувязі з трагічным здарэннем на Алімпійскіх гульнях, у выніку чаго загінулі бязвінныя людзі.

Тое, што адбылося ў Атланце, — гэта не толькі выклік народу Злучаных Штатаў, краіны, з якой Беларусь здаўна падтрымлівае трывалыя прыязныя адносіны. Мы разглядаем такія абуральныя акты як выклік усяму міжнароднаму супольніцтву, прадстаўнікі якога з'ехаліся ў гэтыя дні ў Атланту на вялікае свята спорту і міру.

Ад імя ўрада краіны маю гонар чарговы раз пацвердзіць рашучае імкненне Рэспублікі Беларусь да супрацоўніцтва са Злучанымі Штатамі і іншымі дзяржавамі ў справе барацьбы з тэрарызмам ва ўсіх яго праяўленнях.

Мінск, 29 ліпеня 1996 года

**Аляксандр ЛУКАШЭНКА.**

# СВЯТА НЕЗАЛЕЖНАСЦІ — ПАДСТАВА ДЛЯ КАНСАЛІДАЦЫІ

**(Заканчэнне.**
**Пачатак на 1-й стар.)**

Навучаныя горкім вопытам, мінскія ўлады сур'ёзна рыхтаваліся сустрэць і Дзень Незалежнасці, паколькі на 27 ліпеня дэмакратычнымі арганізацыямі Беларусі былі прымеркаваны шэсце і мітынг «За незалежнасць». Да таго ж, яшчэ не забыліся падзеі мінулагодняй, калі мітынг з нагоды пятай гадавіны абвяшчэння суверэнітэту нашай дзяржавы быў забаронены, але людзі ўсё роўна прыйшлі на галоўную плошчу Мінска і адтуль прайшлі па праспекце Францыска Скарыны. Тады цудам удалося пазбегнуць сур'ёзных сутыкненняў з міліцыяй, хаця падчас падзей і былі схоплены некалькі дэманстрантаў, што выйшлі на вуліцу з бел-чырвона-белым сцягам.

Аднак на гэты раз самым горшым чаканням не наканавана было збыцца: Дзень Незалежнасці ў Мінску прайшоў у цэлым спакойна і сапраўды па-святочнаму. А рэцэпт міру і ўзаемапаразумення на вуліцах сталіцы Беларусі аказаўся вельмі простым. Ён быў вынайдзены і апрабаваны яшчэ 1 мая і 3 ліпеня, калі масавыя акцыі былі дазволены Мінгарвыканкомам, рух калон папярэдне ўзгоднены, а арганізацыйныя камітэты ўзялі на сябе адказнасць за парадак пры правядзенні шэсцяў. Дарэчы, роля міліцыі ў гэтых выпадках заключалася толькі ў падтрыманні парадку, а не ў разгоне людзей.

Тое ж адбылося і пры правядзенні шэсця і мітынгу, якія атрымалі назву «За незалежнасць». Яно прайшло пад ранейшымі лозунгамі і сімваламі, характэрнымі для выступленняў дэмакратаў, хаця аўдыторыя значна пашырылася (мы пісалі ўжо пра тое, што свае намаганні для правядзення акцыі аб'ядналі і АГП, і БНФ, і БСДП). Акрамя таго, у калонах былі заўважаны дэпутаты Вярхоўнага Савета. На самім мітынгу гучалі ўжо знаёмыя па ранейшых акцыях словы. Праўда, выступленні ўдзельнікаў мітынгу гучалі з нейкай доляй святочнай узнёсласці. Памочнік Аляксандра Лукашэнкі Алег Слука, каменціруючы святочныя падзеі, адзначыў, што калі людзі выказваюць спакойна і свабодна свае думкі, нават крыўдныя і непрыемныя для ўлады, гэта, тым не менш, з'яўляецца з'явай карыснай. Такім чынам дэманструюцца розныя пазіцыі. А толькі пры веданні і разуменні гэтых пазіцый можна ісці па шляху кансалідацыі грамадства.

У мінулую суботу не толькі плошча перад Палацам спорту стала месцам для правядзення мерапрыемстваў, прысвечаных Дню Незалежнасці. У той час, калі блізкія да палітычнага жыцця краіны людзі правялі дзень на праспекце Машэрава, то іншыя, карыстаючыся добрым надвор'ем, адпачывалі ў парках сталіцы (Мінгарвыканком пастараўся стварыць для гэтага максімум магчымасцей). Праўда, трэба адзначыць той прыкры факт, што сярод апошняй катэгорыі знаходзіліся яшчэ тыя, хто не ведаў сапраўднай нагоды свята. Так, Дню Незалежнасці толькі шэсць гадоў, але з кожным годам шэрагі яго прыхільнікаў павялічваюцца. А для таго, каб аўтарытэт свята нашага суверэнітэту рос, патрэбны як вулічныя святочныя дэманстрацыі, так і прапаганда і арганізацыя ўрачыстасцей на ўзроўні вышэйшых органаў кіравання дзяржавай. Шостая гадавіна, у прыватнасці, дазваляе спадзявацца, што гэта так і будзе.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

# ПРАЗ «КРУГЛЫ СТОЛ» — ДА ЗГОДЫ Ў ГРАМАДСТВЕ

Правесці «круглы стол» з удзелам палітычных партый, грамадскіх аб'яднанняў і прадстаўнікоў усіх галін Рэспублікі Беларусь — з такой ініцыятывай выступілі кіраўнікі сямі партый краіны. Аб гэтым ішла размова на прэс-канферэнцыі, якая адбылася 26 ліпеня ў Нацыянальным прэс-цэнтры, удзел у ёй прынялі Станіслаў Багданкевіч, Сяргей Калякін, Юрый Хадыка, Мікалай Статкевіч.

Прычынай, што прымусіла прадстаўнікоў розных партый сесці за стол перагавораў, стаў, паводле іх слоў, «усеагульны крызіс у краіне». Сваю пазіцыю партыйныя лідэры абгрунтавалі ў прынятым напярэдадні сумесным звароце да суайчыннікаў, дзе абазначылі сваё бачанне грамадска-палітычнай і сацыяльна-эканамічнай сітуацыі ў рэспубліцы. Яны звярнуліся з заклікам да Прэзідэнта, прэм'ер-міністра, старшыняў Вярхоўнага Савета і Канстытуцыйнага суда прыняць удзел у «круглым стале» і «выпрацаваць такія падыходы, якія б садзейнічалі ўстанаўленню ўзаемаразумення ў нашым грамадстве і гарантавалі б выкананне Канстытуцыі і законаў Рэспублікі Беларусь».

Удзельнікаў прэс-канферэнцыі, нягледзячы на разыходжанне ў поглядах, аб'яднала, паводле слоў старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі Станіслава Багданкевіча, жаданне «аднавіць вяршэнства Канстытуцыі». На думку лідэра камуністаў Сяргея Калякіна, канкрэтным вынікам «круглага стала» магло б стаць падпісанне сумеснага дакумента — Дагавора аб нацыянальнай згодзе, дзе размова пойдзе аб павазе да існуючай Канстытуцыі. Ідэю ж аб правядзенні восенню рэферэндуму, на які прадугледжваецца вынесці папраўкі да дзеючай Канстытуцыі, удзельнікі прэс-канферэнцыі не адабраюць. На думку лідэра Беларускай партыі жанчын «Надзея» Валянціны Палевіковай, «рэферэндум адцягне народ ад эканамічных праблем і ўцягне ў бездань». «Плебісцыт можа прывесці да дыктатуры», — лічыць Сяргей Калякін. І ўсё ж рэферэндум, хутчэй за ўсё, адбудзецца, адзначыў камуністычны лідэр. «Таму нашай задачай з'яўляецца пераканаць народ, за што ім патрэбна галасаваць», — заявіў ён.

**Кацярына ШЫМАНСКАЯ, БЕЛТА.**

***ХОДЗЯЦЬ ЧУТКІ...***

# ...ШТО ТРЭЦЯЯ ЛАГЕРНАЯ ЗМЕНА МОЖА НЕ АДБЫЦЦА

**Як паведамілі ў фондзе «Здароўе» Федэрацыі прафсаюзаў РБ, на сённяшні дзень грошы на фінансаванне трэцяй лагернай змены на разліковы рахунак фонду яшчэ не паступілі.**

Але, як запэўнілі карэспандэнта «Звязды» ў Міністэрстве фінансаў РБ, нягледзячы на дэфіцыт фінансавых сродкаў, неабходная сума грошай на завяршэнне летняй аздараўленчай кампаніі ўсё ж будзе знойдзена: да 1 жніўня бягучага года фонду «Здароўе» плануецца пералічыць 50 млрд. рублёў. Такім чынам трэцяя лагерная змена ўсё ж адбудзецца, нават калі грошы будуць пералічаны ў апошні дзень названага вышэй тэрміну.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

***XXVI ЛЕТНІЯ АЛІМПІЙСКІЯ ГУЛЬНІ***



Atlanta 1996

# НАШЫ НАДЗЕІ ПАКУЛЬ РАСТАЮЦЬ ПАД НАЦІСКАМ САПЕРНІКАЎ

**Алімпійскія гульні ў Атланце перайшлі ўжо экватар. Разыгранымі аказалася большая частка камплектаў узнагарод.**

Пакуль безагаворачнымі лідэрамі турніру з'яўляюцца амерыканцы. Па ўсёй бачнасці, да канца Гульняў у іх не з'явіцца сур'ёзных канкурэнтаў па колькасці заваяваных медалёў. А вось на другую ролю прэтэндэнтаў вельмі шмат: Расія, Францыя, Італія, Кітай...

На жаль, вельмі далёкая ад гэтага спісу наша зборная. Магчыма, беларусы выступаюць у меру сваіх магчымасцей, і можна нешта «спісаць» на «самастойнасць» выступленняў. Але ж у параўнанні з намі даволі прыстойна выглядаюць вельмі многія постсацыялістычныя краіны: Украіна, Венгрыя, Балгарыя, Польшча.

Магчыма, беларускія атлеты яшчэ не сказалі свайго апошняга слова. Аднак з кожным днём шанцаў на тое, што яно можа быць сказана, застаецца ўсё менш.

Становішча з медалямі крыху выправіла вяслярка-адзіночка Кацярына Хадатовіч. Нарадзілася яна 2 чэрвеня 1972 года ў Мінску. Бронзавы прызёр Алімпійскіх гульняў у Барселоне і чэмпіянату свету-91. Чэмпіёнка Гульняў добрай волі-94.

Залаты алімпійскі медаль мінчанкі, які яна здабыла ў пятніцу на возеры Лейнір, што за 70 кіламетраў ад Атланты, застаецца пакуль адзінай вышэйшай узнагародай у скарбонцы беларускай каманды.

На жаль, не збыліся нашы мары ўбачыць на алімпійскім п'едэстале кідальніцу кап'я Наталлю Шыкаленку (12-е месца), Ігара Астапковіча (7-е месца). Пакуль ніяк не можа настроіцца на «золата» і герой барселонскай Алімпіяды Віталь Шчэрба. Пасля «бронзы» ў мнагабор'і мінчанін не змог трапіць на п'едэстал у вольных практыкаваннях, яго любімай дысцыпліне, і заняў толькі 7-е месца. У Шчэрбы наперадзе яшчэ выступленні на перакладзіне, брусах і ў апорным скачку. Канешне, усе мы можам яшчэ разлічваць на медалі ў кіданні дыска. Тут у беларусаў адразу дзве надзеі: Эліна Зверава і Уладзімір Дуброўшчык. Заўтра выйдуць на памост нашы цяжкаатлеты-супервагавікі — Аляксандр Курловіч і Леанід Тараненка.

Выбыла з далейшай барацьбы тэнісістка Наталля Зверава. Мінчанка ў 1/8 фіналу прайграла 2:6; 5:7 іспанскай «ракетцы» Канчыце Марцінас, якая «выступае» на Гульнях пад другім нумарам.

Працягвае свае выступленні «настольнік» Уладзімір Самсонаў. З баксёраў застаўся толькі адзін Сяргей Дычкоў (91 кг).

Вось вынікі чатырох дзён Алімпіяды.

**25 ліпеня**
**(розыгрыш 13 камплектаў медалёў)**

● **СТРАЛЬБА**
**Адвольная вінтоўка (лежачы).** ***Мужчыны.***
1. Крысціян Клес (Германія)
1. Сяргей Бяляеў (Казахстан)
3. Йожэф Гонці (Славакія)
*6. Сяргей Мартынаў (Беларусь)*
22. Георгій Няхаеў (Беларусь)

**Хуткасны пісталет.** ***Мужчыны.***
1. Ральф Шуман (Германія)
2. Эміл Мілеў (Балгарыя)
3. Уладзімір Вахмянін (Казахстан)

● **ВЕЛАСПОРТ**
**Індывідуальная гонка праследавання на 4000 м.** ***Мужчыны.***
1. Андрэа Калінелі (Італія)
2. Філіп Эрмено (Францыя)
3. Брэдлі Бакгі (Аўстралія)

● **ГІМНАСТЫКА СПАРТЫЎНАЯ**
**Мнагабор'е.** ***Жанчыны.***
1. Лілія Падкапаева (Украіна)
2. Джына Гаглян (Румынія)
3. Сімона Аманар (Румынія)
Лівінія Міласовіч (Румынія)
*12. Алена Піскун (Беларусь)*
*14. Святлана Багінская (Беларусь)*
*23. Алена Палазкова (Беларусь)*

● **ДЗЮДО**
**Вагавая катэгорыя да 52 кг.** ***Жанчыны.***
1. Март-Клэр Рэсту (Францыя)
2. Хюн Сук-Хі (Паўдн. Карэя)
3. Легна Ведзіса (Куба)
Карыка Сугавара (Японія)

**Вагавая катэгорыя да 65 кг.** ***Мужчыны.***
1. Уда Квельмальц (Германія)
2. Йокімаса Накамура (Японія)
3. Ісраэль Фернандэс (Куба)
Энрыке Гімараэс (Бразілія)

● **ФЕХТАВАННЕ**
**Рапіра. Камандныя спаборніцтвы.** ***Жанчыны.***
1. Італія
2. Румынія
3. Германія

**Рапіра. Камандныя спаборніцтвы.** ***Мужчыны.***
1. Расія
2. Польшча
3. Куба

● **ПЛАВАННЕ**
**50 м в/с.** ***Мужчыны.***
1. Аляксандр Папоў (Расія)
2. Гэры Хол (ЗША)
3. Фернанджа Шэрэр (Бразілія)
*22. Алег Рухлевіч (Беларусь)*
*36. Дзмітрый Каліноўскі (Беларусь)*

**200 м. Комплекс.** ***Мужчыны.***
1. Аціла Цэне (Венгрыя)
2. Яні Сіевінен (Фінляндыя)
3. Курціс Майдэн (Канада)

**200 м на спіне.** ***Жанчыны.***
1. Крысціна Эгерсегі (Венгрыя)
2. Уітні Хеджнет (ЗША)
3. Катлін Рунд (Германія)

**800 м вольны стыль.** ***Жанчыны.***
1. Брук Бенет (ЗША)
2. Дагмар Хазэ (Германія)
3. Кірстэн Флігхайс (Галандыя)

**Эстафета 4х200 м. Комплекс.** ***Жанчыны.***
1. ЗША
2. Германія
3. Аўстралія

**26 ліпеня**
**(разыграна 13 камплектаў медалёў**

● **СТРАЛЬБА КУЛЯВАЯ**
**Спартыўны стандартны пісталет.** ***Жанчыны.***
1. Дуйхун Лі (Кітай)
2. Дзіяна Йоргава (Балгарыя)
3. Марына Лагвіненка (Расія)
*9. Юлія Сіняк (Беларусь)*
*14. Лаліта Мільшына (Беларусь)*

**Мішэнь, якая рухаецца.** ***Мужчыны.***
1. Ян Лін (Кітай)
2. Сяо Цзюнь (Кітай)
3. Міраслаў Януш (Чэхія)

● **КОННЫ СПОРТ. Трохбор'е.**
1. Бліт Тэйт (Новая Зеландыя)
2. Сэлі Кларк (Новая Зеландыя)
3. Керы Мілікін (ЗША)

● **ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА**
**Спартыўная хадзьба. 20 км.** ***Мужчыны.***
1. Дэверсан Перэс (Эквадор)
2. Ілья Маркаў (Расія)
3. Бернарда Сегуа (Мексіка)
*9. Яўген Місюля (Беларусь)*
*12. Міхаіл Хмяльніцкі (Беларусь)*

**Ядро.** ***Мужчыны.***
1. Рэндзі Барнс (ЗША)
2. Джон Гадзіна (ЗША)
3. Аляксандр Багач (Украіна)
*9. Дзмітрый Ганчарук (Беларусь)*

● **ЦЯЖКАЯ АТЛЕТЫКА (83 кг)**
1. Пірас Дзімас (Грэцыя)
2. Марк Хустэр (Германія)
3. Анджэй Цофалік (Польшча)

● **ДЗЮДО**
**Вагавая катэгорыя да 48 кг.** ***Жанчыны.***
1. Кіе Сун (КНДР)
2. Рыока Тамура (Японія)
3. Амарыліс Савок (Куба)
Іаланда Солер (Іспанія)
*7. Таццяна Масквіна (Беларусь)*

**Вагавая катэгорыя да 60 кг.** ***Мужчыны***
1. Тадахіра Наягура (Японія)
2. Джыралама Джавінацца (Італія)
3. Джарджапалам Нармандах (Манголія)
Рыхард Граутман (Германія)
*4. Націк Багіраў (Беларусь)*

● **ПЛАВАННЕ**
**200 м батэрфляй.** ***Жанчыны.***
1. Сюзан О'Ніл (Аўстралія)
2. Петрыа Томас (Аўстралія)
3. Мішэль Сміт (Ірландыя)

**50 м в/с.** ***Жанчыны.***
1. Эмі ван Дзікен (ЗША)
2. Цзніні Лэ (Кітай)
3. Сандра Фелькер (Германія)

**200 м на спіне.** ***Мужчыны.***
1. Брэд Брыджуотэр (ЗША)
2. Трыл Швенк (ЗША)
3. Эмануэль Мерызі (Італія)

**1500 м в/с.** ***Мужчыны.***
1. Кірэн Перкінс (Аўстралія)
2. Даніэль Кавальскі (Аўстралія)
3. Грэм Сміт (Вялікабрытанія)

**Эстафета 4х100 м. Комплекс.**
1. ЗША
2. Расія
3. Аўстралія

**27 ліпеня**
**(разыграны 20 камплектаў медалёў)**

● **СТРАЛЬБА**
**Круглы стэнд.** ***Мужчыны***
1. Эніа Фалько (Італія)
2. Міраслаў Жапкоўскі (Польшча)
3. Андрэа Бенелі (Італія)

**Стральба кулявая. Адвольная вінтоўка.** ***Мужчыны.***
1. Жан-П'ер Ама (Францыя)
2. Сяргей Бяляеў (Казахстан)
3. Вальфрам Вайбель (Аўстрыя)
*8. Сяргей Мартынаў (Беларусь)*
*22. Анатоль Кліменка (Беларусь)*

● **ВЕСЛАВАННЕ АКАДЭМІЧНАЕ**
**Двойка двухлопасцевая.** ***Мужчыны.***
1. Вялікабрытанія
2. Аўстралія
3. Францыя

**Двойка парная.** ***Мужчыны.***
1. Італія
2. Нарвегія
3. Францыя

**Чацвёрка двухлопасцевая.** ***Мужчыны.***
1. Аўстралія
2. Францыя
3. Вялікабрытанія

**Адзіночка.** ***Мужчыны.***
1. Ксена Мюлер (Швейцарыя)
2. Дэрэк Портэр (Канада)
3. Томас Ланге (Германія)

**Двойка двухлопасцевая.** ***Жанчыны.***
1. Аўстралія
2. ЗША
3. Францыя

**Двойка парная.** ***Жанчыны.***
1. Канада
2. Кітай
3. Нідэрланды

**Адзіночка.** ***Жанчыны.***
*1. Кацярына Хадатовіч (Беларусь)*
2. Сілкен Лауман (Канада)
3. Трыне Хансен (Данія)

● **ПЛЯЖНЫ ВАЛЕЙБОЛ. Жанчыны.**
1. Бразілія
2. Бразілія
3. Аўстралія

● **ВЯСЛЯРНЫ СЛАЛАМ**
**Байдаркі-адзіночкі.** ***Жанчыны.***
1. Сцепанка Хільгертава (Чэхія)
2. Дана Хладэк (ЗША)
3. Мірыям Фокс-Джэрузальмі (Францыя)
*25. Алена Курзіна (Беларусь)*

**Каноэ-адзіночка.** ***Мужчыны.***
1. Міхал Мартыкан (Славакія)
2. Лукас Полерт (Чэхія)
3. Патрыс Эстанге (Францыя)

● **ВЕЛАСПОРТ**
**Трэк. Спрынт.** ***Жанчыны.***
1. Фелісія Баланжэ (Францыя)
2. Мішэль Ферыс (Аўстралія)
3. Інгрыд Харынга (Нідэрланды)

**Трэк. Камандная гонка праследавання.** ***Мужчыны.***
1. Францыя
2. Расія
3. Аўстралія

● **ЦЯЖКАЯ АТЛЕТЫКА**
**Вагавая катэгорыя да 91 кг**
1. Аляксей Пятроў (Расія)
2. Леанідас Кокас (Грэцыя)
3. Олівер Каруза (Германія)
*15. Уладзімір Хлуд (Беларусь)*
*17. Віктар Бялецкі (Беларусь)*

● **ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА**
**Трайны скачок.** ***Мужчыны.***
1. Кені Харысан (ЗША)
2. Джонатан Эдвардс (Вялікабрытанія)
3. Йоэльбі Кеседа (Куба)

**Бег. 100 м. Мужчыны.**
1. Данаван Бэйлі (Канада)
2. Фрэнкі Фрэдэрыкс (Намібія)
3. Ато Болдан (Трынідад і Табага)

**Кап'ё.** ***Жанчыны.***
1. Хелі Рантанен (Фінляндыя)
2. Луіз Мак Пол (Аўстралія)
3. Трыне Хатэстад (Нарвегія)
*12. Наталля Шыкаленка (Беларусь)*

**Бег. 100 м.** ***Жанчыны.***
1. Гейл Дыверс (ЗША)
2. Мэрлін Оці (Ямайка)
3. Гвен Торэнс (ЗША)

● **СКАЧКІ Ў ВАДУ**
**Вышка.** ***Жанчыны.***
1. Фу Мінся (Кітай)
2. Анніка Вальтэр (Германія)
3. Мары Элен Кларк (ЗША)

**28 ліпеня**
**(разыграна 28 камплектаў медалёў)**

● **ВЕСЛАВАННЕ АКАДЭМІЧНАЕ**
**Двойка парная (лёгкая вага).** ***Жанчыны.***
1. Румынія
2. ЗША
3. Аўстралія

**Чацвёрка парная.** ***Жанчыны.***
1. Германія
2. Украіна
3. Канада

**Васьмёрка.** ***Жанчыны.***
1. Румынія
2. Канада
*3. Беларусь (Наталля Волчак, Тамара Давыдзенка, Валянціна Скрабатун, Алена Мікуліч, Аляксандра Панькіна), Наталля Стасюк, Наталля Лаўрыненка, Марына Знак)*

**Двойка парная (лёгкая вага).** ***Мужчыны.***
1. Швейцарыя
2. Нідэрланды
3. Аўстралія

**Чацвёрка парная (лёгкая вага).** ***Мужчыны.***
1. Данія
2. Канада
3. ЗША

**Чацвёрка парная.** ***Мужчыны.***
1. Германія
2. ЗША
3. Аўстралія

**(Працяг у наступным нумары).**

СТЫЛЬ ЖЫЦЦЯ

## Маша РАСПУЦІНА:

# «З ДЗЯЦІНСТВА ПРЫВЫКЛА ЧУЦЬ КОЛКАСЦІ»

**Маша Распуціна — зорка, якой пашчасціла апошняй выйсці на сцэну «Славянскага базара». Каб падкрэсліць урачыстасць моманту, яна звярнулася да Прэзідэнта Беларусі са словамі: «Усяму калі-небудзь прыходзіць канец...» Але потым у гутарцы адзначыла, што толькі каханне мае ўласцівасць жыць вечна разам з чалавекам. Праўда, мяняючы свае накірункі, свой характар і характар сваёй гаспадыні. З гэтага і пачалася гутарка.**



— Яно мне проста дапамагае. Той дар, які дадзены мне прыродай (прыцягваць каханне) дапамагае мне ісці сваім шляхам па жыцці. Але жыццё — гэта не толькі каханне.

**— А дзеля вялікага кахання вы маглі б адмовіцца ад славы?**

— Напэўна, так. Але пакуль у мяне такога кахання не было. Як усе яго чакаюць, чакаю і я. Некаму Бог дае такое шчасце і яно выпадае гэтаму чалавеку. Самае галоўнае, каб кветка кахання цвіла, нягледзячы на надвор'е.

**— У вас былі такія выпадкі, калі прыходзілася прызнаваць сваю віну?**

— Канешне, прыходзілася. Колькі разоў!

**— Гэта цяжка даецца?**

— Не, чаму? Калі на некага раззлавалася, груба кажучы, «паслала», і калі гэта добры чалавек, мне няцяжка падысці да яго. Ну, не стрымала свае эмоцыі, бывае. Выбачайце. «Ладна...» — кажуць. Ну, як можна крыўдаваць на мяне?

**— Вашы капрызы часта псуюць нервы акружаючым?**

— Аднойчы на канцэрце быў выпадак: я сарвала пазногаць. Было балюча, так, але ў той момант пра гэта не думала, перацярпела, потым мяне прывезлі ў Маскву да прафесара — трэба было апрацаваць рану. І я вучыла гэтага прафесара, як каля мяне стаць, куды калоць укол. Я кажу: «Вы няправільна робіце». А ў яго пот на лбе: «Ды вы што? Маша, я такога яшчэ не бачыў, каб указвалі мне». А я сваё: «Ды ў мяне тут нерв». Ён не паслухаў, і трапіў у нерв. Я выбіла гэты шпрыц. Кашмар, што пачалося... Ён потым пытаецца ў майго імпрэсарыо: «Ці ёсць у яе муж?» — «Так», — адказвае той. «Дзе мне ўбачыць таго мужа, такім людзям трэба ставіць помнік.»

Канешне, са мной складана. Увогуле, мне здаецца, што няма людзей, з якімі заўсёды было б лёгка. А творчыя людзі яшчэ больш складаныя. Таму мне часам шкада тых, хто знаходзіцца побач з імі. І тых, хто побач са мной — таксама.

**— Як знайшоў падыход да вашага характару муж?**

— Падыход вельмі просты. Ён не звяртае ўвагі на перапады майго настрою. Кажа: «Усё роўна розуму ў цябе няма, цябе трэба ўвесь час накіроўваць». Ён вельмі разумны чалавек. Сваім розумам і стрыманасцю ён уплывае і на мой характар. І не рэагуе на мае капрызы, раздражнёнасць. Праўда, зараз я яго з сабою не ўзяла. Ён дрэнна сябе паводзіў, таму застаўся дома.

**— А ён часта ездзіць з вамі на гастролі?**

— За апошні час вельмі рэдка. Я сабе тры гады будавала дом. І нехта павінен сачыць за домам. Трохпавярховы дом, вялікі басейн. Яго нарэшце пабудавалі, дзякуючы маім уласным намаганням, настойлівасці і імкненню пажыць там добра, пакуль яшчэ маладая і прыгожая. Муж зараз там. Чысціць басейн. Я спадзяюся... Каб я магла прыехаць і адпачыць, плаваючы ў чыстым басейне.

**— Калі жанчына карыстаецца касметыкай, кажуць, што яна «малюе сабе твар». Што для вас найбольш складанае ў гэтым працэсе і што прыносіць найбольшае задавальненне?**

— У расфарбаванні свайго міленькага «тварыка» мне дастаўляе задавальненне літаральна ўсё, — ад самых дробных штрыхоў да завяршальнага дотыку памады. Гэта таксама творчасць. І я вельмі люблю гэта рабіць, яшчэ з дзяцінства, шчыра кажу. Мала таго, мяне ў дзяцінстве бабулі і дзядулі клікалі «Чыта». Калі мне было 6 гадоў, я ўбіралася ў строі, рабіла з сябе «зорку» (як уяўляла гэта дзіцячым розумам), бегала па вёсцы і спявала песні, здзіўляла ўсіх. А дзед мяне потым за гэта дубцом — не любіў, калі я крыўлялася, маўляў, вырасце легкадумная дзяўчынка. Яны хацелі, каб я стала або ўрачом, або настаўніцай. У іх свядомасці артыстка — разбэшчаны элемент, пусты чалавек. А я ўсё роўна малявалася перад люстэркам пад Мірэй Мацье, напяваючы яе песні, ці яшчэ, напрыклад, Эдзіту П'еху любіла паказваць. Зараз я нікога, акрамя сябе, не паказваю — і гэта самае вялікае маё дасягненне. Дзякуючы мастацтву ствараць свой твар — таксама. Мала таго, за гэтай справай я проста адпачываю.

**— А як вы ставіліся да першых спроб дачкі пакарыстацца матчынай касметыкай?**

— Яна не карыстаецца касметыкай, не ў мяне пайшла. Яна пайшла ў бацьку — такая ж разумная, такая ж хітрая. Я чалавек бясхітрасны, не ўмею крывіць душою, усё гавару, як ёсць. Канешне, гаворачы праўду, магу тым самым паставіць чалавека ў няёмкае становішча, абразіць. Але імкнуся ў такіх выпадках «не нарывацца», ухіляцца ад адказу. А дачка ў мяне... Так, здольная... Вельмі. Зараз яна ў Англіі.

**— Вы можаце плакаць ад стомленасці?**

— Ну, я ж жанчына. Хаця, болей, канешне, прыходзіцца плакаць з-за іншых прычын. Хаця і з-за стомленасці таксама. Бывае, некага не зразумееш, ці ў працэсе працы ўзнікне з кімсьці сутычка, хтосьці кажа, што трэба рабіць па-іншаму. Сядзеш, заплачаш. А потым пачынаеш разумець, наколькі стаміўся.

**— Як стараўся і на каго разлічаны ваш сцэнічны вобраз?**

— Я не адчуваю сябе ў нейкім штучна выдуманым вобразе. «Вобраз», ці «імідж» — модная тэрміналогія з шоу-бізнесу, каб было бачна, на што робіцца стаўка. У мяне на сцэне тое, што і ў жыцці. Хаця ўсё бытавое жыццё мяне не вельмі радуе. Так, я яго ўсё роўна люблю, я без яго таксама не магу. А сцэна — свабода для маёй натуры, для таго, што сядзіць у маім сэрцы. Як казаў Андрэй Таркоўскі ў сваіх успамінах (нядаўна яго чытала): «Характар і ёсць талент». Хто валодае больш моцным характарам, таго не звернеш з выбранага шляху таленту. Значыць — гэта асоба. Мой характар мне дапамагае на сцэне, у жыцці.

**— Калі прыязджаеце з канцэртамі ў адзін і той жа горад па некалькі разоў, якія пачуцці гавораць у вас?**

— Пачуццё ўласнага гонару. І пачуццё гонару за краіну, у якой жыву. Пачуццё любові, якая яднае ўсіх людзей. У любові — адзіны вялікі патрыятызм, калі мы разам крочым выбраным шляхам.

**— Вы не баіцеся пачуць крытыку ў свой адрас?**

— Не, я да гэтага з дзяцінства прывыкла. Чуць розныя колкасці, насмешкі. Мяне, наадварот, гэта натхняла. Напрыклад, пасля прэзентацыі майго альбома ў Маскве «Сіні панядзелачак» павінен быў быць канцэрт. А Юрый Нікулін мяне абвінаваціў у «клоунскіх» штучках. Я неяк спасавала, была вельмі расстроеная. І тады Юрый Уладзіміравіч Нікулін кажа: «Маша, ты чаго? Не расстрайвайся. Ты ведаеш, што клоунамі называюць самых вялікіх артыстаў? Прыгадай Чарлі Чапліна, або Сару Бернар, яна ж таксама была клоунам па стану душы. Ты будзеш эстрадны клоун.»

**— Як часта вы спадзеяцеся на «авось»?**

— Такога не бывае. Я заўсёды ўлічваю свае магчымасці. Калі ведаю, што магу зрабіць, — раблю. Калі чагосьці не магу — нават не буду спрабаваць. Што такое «на авось»?

**— Калі вас нешта не задавальняе сёння, то вы забудзеце пра гэта ўвогуле ці паспрабуеце выправіць становішча заўтра?**

— Для мяне вялікі сэнс мае назва рамана Джэка Лондана «Час не чакае». Гэтыя словы, ды і сам раман. Я прачытала яго яшчэ ў 8-м класе, і да цяперашняга часу памятаю яго ідэю. Яна са мной. А словы «час не чакае» можаце лічыць маім жыццёвым дэвізам.

**Запісала Ларыса ЦІМОШЫК.**

# УСХОДНІ ГАРАСКОП
## на тыдзень

Зоркі раяць КАЗЯРОГУ больш увагі ўдзяляць сваім фінансавым справам, прычым не толькі на гэтым тыдні, але і на працягу ўсяго жніўня. Калі яны пойдуць добра, то можна будзе заняцца рамонтам дома, пабалаваць сябе купляй дарагіх рэчаў. Тым, каму сям'я не перашкаджае захапленням на старане, трэба рыхтавацца да непрыемнасцей — на абодвух франтах.

ВАДАЛЕЙ атрымае багатыя дывідэнды і для гэтага вымушаны будзе працаваць, як машына. Прытварыцеся глухімі і не слухайце пустых парад збоку. Магчымы ўзлёты па службовай лесвіцы і адчуванне радасці ад дамашніх непрыемнасцей, якія нарэшце скончыліся. Адзінокім будзе прапанавана рука і сэрца, і астролаг раіць вам не адмаўляцца.

РЫБЫ будуць заклапочаны ўласнай кар'ерай, у якой намецяцца станоўчыя зрухі. Асабліва пашанцуе дзяржаўным служачым. Яны перасядуць за начальніцкія сталы. Зоркі будуць спрыяць вашым заняткам спортам і мастацтвам. Парада: не ігнаруйце і рамантычныя захапленні ў час адпачынку.

АВЕНАМ выпадзе настойлівая барацьба за дасягненне пастаўленых мэтаў, перамога над цяжкасцямі і поўнае задавальненне ад зробленага. Не сумнявайцеся ў сваіх здольнасцях, інакш узнікнуць зусім непатрэбныя перашкоды ў дзелавой дзейнасці. Сачыце за здароўем, якое можа раптам закапрызнічаць.

У ЦЯЛЬЦОЎ наперадзе выдатны час для задавальнення сабой, уцех і новых знаёмстваў. Але не губляйце самакантролю і не забывайцеся, што не ўсё чалавецтва ставіцца да вас па-сяброўску. Будуць спробы, хоць і без поспеху, падставіць нагу і азмрочыць вашу радасць. А яна магчымая, як ад поспеху ў фінансавай сферы, так і ад новых рамантычных прыгодаў.

БЛІЗНЯТЫ адчуюць сябе патрэбнымі і на рабоце, і дома. У вас з'явіцца круглая сума, якую лепш за ўсё будзе патраціць адразу, а не набіваць грашыма зацыраваную панчоху жонкі. Сямейныя яшчэ раз пераканаюцца, што зрабілі правільны выбар у шлюбе. Маладыя будуць зачараваны каханнем.

РАКАМ давядзецца многа траціць і з сумам адчуваць змяншэнне накапленняў. Папаўненне бюджэту злёгку запаволіцца, з'явяцца дадатковыя праблемы. Але на рабоце стабільнасць вашага становішча застанецца моцнай, як маналіт. Магчымы непрыемнасці ў адносінах з кім-небудзь з дамашніх, да якіх трэба паставіцца больш уважліва.

ЛЬВАМ забяспечаны рост асабістых даходаў. Тых, хто працуе на карысць дзяржаве, чакае павышэнне па службе, а тых, хто служыць з пагонамі на шырокіх плячах, — узнагарода ці ўсеагульная пашана. Выкарыстайце магчымасць паездкі за рубеж — яна ў вас паявіцца. Львам творчых прафесій прадаставіцца магчымасць праявіць свае таленты.

У ДЗЕВЫ справы закруцяцца з галавакружнай хуткасцю. Вы не заўсёды зможаце кантраляваць ход падзей, але супраціўляцца лёсу няварта — усё роўна ён зробіць па-свойму. Дайце падзеям ісці, як ідуць. Тых, хто нядаўна праслухаў марш Мендэльсона, чакае бязвоблачнае шчасце. А тыя, хто шукае спадарожніка жыцця, знойдуць яго і не пашкадуюць.

ШАЛЯМ тыдзень паднясе прыемныя сюрпрызы і на рабоце, і дома. У грошах недахвату не будзе, хоць пагоня за «доўгім рублём» будзе звязана з расчараваннямі. І нават вялікімі. Рыхтуйцеся да цяжкасцей, бо ў сям'і ўзнікнуць праблемы як са старэйшымі, так і з малодшымі па ўзросту сваякамі.

СКАРПІЁНУ прыйдзецца звесці тыднёвы бюджэт з нулявым сальда — расходы і даходы дакладна супадуць. Аднак будуць асуджаны на няўдачу ўсе намаганні па выкананню задумак у бізнесе, якія зоркі рэкамендуюць выконваць энергічна і смела. Праяўляйце больш цярпення, вытрымкі, і тады ў вас усё будзе атрымлівацца.

СТРАЛЬЦЫ акунуцца ў эйфарыю ад уласных поспехаў, але не давайце закружыцца ад гэтага галаве. Фінансавыя справы пойдуць у вас не проста добра, а выдатна. Ды і сямейнае жыццё пасля невялікага крызісу ўвойдзе ў паласу згоды і ціхай пяшчотнай радасці.

**Леанід КОТАЎ, кар. ІТАР—ТАСС.**
*г. Дэлі.*

## ТЭЛЕБАЧАННЕ, 30 ліпеня

### Беларускае тэлебачанне

**9.45** «Рэкс — верны сябар паліцэйскага». **10.40** Акалада. Музычна-забаўляльная праграма. **15.00** Навіны. **15.15** «Фліпер». Тэлесерыял. **15.40** «Чарцяня № 13», «Вялікі Ух», «Сунічны дождж

ык». Мультфільмы. **16.10** «Кешка і гангстэры». Кароткаметражны маст. фільм. **16.35** «Памежжа». Перадача з Гродна. **16.55** Творцы. «Сямён Дрэчын — зорка беларускага балета». Перадача 1-я. **17.20** Урокі Наталлі Наважылавай. **17.50** Музычны антракт. **18.00** «Фарбы зямлі роднай». Кінанарыс. **18.10** Тэлеанонс. **18.15** «Будзьце здаровы». **18.25** Эканамікст. **18.35** «Тройчы па аднаму». Музычная перадача MTV. **18.50** Навіны (з сурдаперакладам). **19.05** «Рэкс — верны сябар паліцэйскага». **20.05** Супергол. **20.40** Калыханка. **21.00** Панарама. **21.55** Спартыўны тэлекур'ер. **22.10** Музычны антракт. **22.20** «Тэхнабанк» прадстаўляе: «Зоркі» на экране. Вера Глаголева ў маст. фільме «Я сама...» **23.40** Канцэртны сезон. «Фіеста гітарыстаў». **0.05** Навіны.

### ГРТ

**8.15** «Новая ахвяра». **9.05** «Калі...» Вядучы У. Познер. **9.45** Смехапанарама. Вядучы Я. Петрасян. **10.10** «Сем братоў». Мультфільм. **10.30** Адгадай мелодыю. **11.10** У эфіры тэлерадыёкампанія «Мір». «Мы і рынак». **11.55** Алімпійскія гульні ў Атланце. Лёгкая атлетыка. Фіналы. **14.20** «Рыцар Адважнае Сэрца». **14.40** Квар'етэ «Вясёлая кампанія». **14.50** Чароўны свет, ці Сінема. **15.20** «Элен і хлопцы». **15.50** Алімпійскія гульні ў Атланце: падзеі дня. **17.20** «Новая ахвяра». **18.10** Гадзіна пік. **18.35** Адгадай мелодыю. **19.00** Тэма. **19.45** Добрай ночы, малышы! **20.00** Час. **20.35** Праграма перадач. **20.40** «Прапаўшая экспедыцыя». 2-я серыя. **21.55** Музычная праграма «50x50». **23.05** Алімпійскія гульні ў Атланце. Цяжкая атлетыка. Вагавая катэгорыя звыш 108 кг. Фінал.

### «Расія»

**8.25** «Санта-Барбара». **9.20** Алімпіяда-96. Скачкі ў ваду. Мужчыны. **9.55** Тэлемагазін. **10.20** Дзелавы аўтограф. **10.25** Навінкі ад ТВ медыа. **10.30—12.50** Алімпіяда-96. Спартыўная гімнастыка. **16.20** Музыка ўсіх пакаленняў. **16.35** «Чэленджэрс». Серыял. **17.05** Нічога, акрамя... **17.20** Тэлечасопіс «Здароўе». **17.30** Алімпіяда-96. Спартыўная гімнастыка. **18.15** «Сакрэт актрысы». В. Марэцкая. **19.39** Алімпійскі кур'ер. **20.05** «Санта-Барбара». **21.00** Надвор'е на заўтра. **21.05** «Субота, нядзеля, панядзелак». Маст. фільм (Італія). 1-я серыя. **21.55** Кліп-антракт. **22.05—0.45** Алімпіяда-96. Валейбол. Мужчыны. Бокс. Настольны тэніс.

### Санкт-Пецярбург

**11.55, 12.55, 13.55, 16.55, 18.55, 21.55** Інфарм ТБ. **12.05** «Першае каханне». Серыял. **13.10** Тэрмін адказу — сёння. **13.40** Парады садаводам. **14.05** Дэтэктыў на тэлеэкране. «Шпік» (Швецыя). 1-я серыя. **15.00** «Трасцінка на ветры». Маст. фільм. 1-я серыя. **16.10** «Наўздагад». Зорка Галівуда Майкл Йорк. **16.25** «Балада пра Бягучую па хвалях». Тэлефільм. **16.40** Тэлеслужба бяспекі. «Па-за законам». **17.05** «Філасофія па Філу». Серыял. **17.30** Стыль жыцця. **17.35** Паказвае Ленінградская абласная тэлекампанія. **18.40** Вялікі фестываль. **19.15** Спорт. **19.20** «Першае каханне». Серыял. **20.10** «Кітай. Урокі даўгалецця». Прэм'ера дакументальнага фільма. **20.30** «Баль кветак». Мультфільм. **20.40** Тэлеслужба бяспекі. **20.55** Спартыўны агляд. **21.05** Дэтэктыў на тэлеэкране. «Шпік» (Швецыя). 1-я серыя. **22.15—23.24** «Трасцінка на ветры». Маст. фільм. 2-я серыя.



ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98.*
*ФАКС: 32-04-52, 68-28-77. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 91852. Індэкс 63850.
Зак. № 4183.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12